# Камэнтары

Камэнтатар лічыць патрэбным зрабіць наступныя папярэднія заўвагі:

1) творы, апублікаваныя ў газэтах, калі пад імі няма даты, датуюцца днём выхаду газэты;

2) зноскі, пазначаныя зорачкамі (*), належаць А. Луцкевічу;

3) скароты, які выкарыстоўваюцца ў тэкстах А. Луцкевіча, у спасылках і камэнтарох, паказаныя ў разьдзеле *Скароты*;

4) паказваючы нейкае слова як польск., камэнтатар мае на ўвазе толькі тое, што яно запазычана непасрэдна з польск. мовы.

Паколькі А. Луцкевіч падчас недакладны ў цытатах, камэнтатар спраўджваў іх. Пры гэтым ён кіраваўся наступным правілам: калі адыход ад арыгіналу неістотны (ня тыя знакі прыпынку, ня той канчатак у слове і г. д.), у цытаце рабілася праўка без камэнтару; калі ў сказе, паэтычным радку словы перастаўленыя месцамі або замененыя іншымі, гэта адзначана ў камэнтарох. Для спраўджваньня цытатаў аўтар браў тыя выданьні, якімі карыстаўся (і пра іх ёсьць згадка ў тэксьце) або мог карыстацца А. Луцкевіч. Выданьні, паводле якіх спраўджваліся цытаты, паказаныя ў камэнтарох.

У розных тэкстах А. Луцкевіч па–рознаму ацэньваў колькасьць насельніцтва Беларусі. Гэтая лічба вагалася ад 8 да 14 мільёнаў і выводзілася, мабыць, у залежнасьці ад таго, якія тэрыторыі ён лічыў уласна беларускімі. Апрача таго, А. Луцкевіч, імаверна, браў пад увагу магчымы натуральны прырост насельніцтва на этнічна беларускіх тэрыторыях пасьля ўсерасейскага перапісу насельніцтва 1897 г.

## *Национальное возрождение белорусов (с. 27)*

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў LMAB (ф. 21, спр. 336, арк. 1—19) і падпісаны псэўд. *Антон Новина*.

Наверсе першае старонкі рукапісу рукою А. Луцкевіча: “Slovansky Přehled”. Čislo 4, Leden, Ročnik XI, 1909.

Пра гэтую публікацыю пісаў Я. Журба ў арт. “Лісты з Украйны” (*НН*. 1909. 7(20) тр.).

Надрукаваны ў: *БЗВ*.

П. з. “Национальное возрождение белорусов” арт. друкаваўся ў “Московском еженедельнике” (1909, № 9), а п. з. “Odrodzenie narodowe Białorusinów” — у час. “Litwa” (1909, nr 4).

Тут не праводзіцца супастаўленьне чэскай, расейск. і польск. публікацыяў.

Арт. быў адной зь першых спробаў А. Луцкевіча апісаць і асэнсаваць гісторыю беларускага руху.

Датуецца годам публікацыі.

[1] ...*Статут Литовский*. — Сапраўдная назва зводу законаў — Статут Вялікага Княства Літоўскага.

[2] ...*литовско–русского государства*... — Пішучы пра літоўска–рускі характар ВКЛ, А. Луцкевіч ідзе ўсьлед за расейск. гістарыяграфіяй. Пазьней ён прыйдзе да высновы пра беларуска–літоўскі характар ВКЛ (гл., напр., арт. “На дарозе да новага жыцьця” і “Палітычныя лёзунгі беларускага руху”).

[3] *...ряд сочинений по–белорусски...* — На ўвазе маюцца Скарынавы прадмовы і пасьляслоўі да біблейскіх кнігаў.

[4] Пішучы пра пакарэньне беларускіх земляў Літвою, А. Луцкевіч, зноў жа, ідзе за расейск. гістарыяграфіяй.

[5] *...после соединения Литвы з Польшею.* — На ўвазе маецца Люблінская вунія 1569 г.

[6] *...короля Августа II...* — Па тым, што гэтыя словы надпісаныя над замазаным чарнілам імем Сьцяпана Батуры, можна меркаваць, што аўтар пачатак заняпаду зьвязвае зь імем Аўгуста II Моцнага.

[7] *...польская государственность...* — А. Луцкевіч услед за расейск. і польск. гісторыкамі прызнаваў Рэч Паспалітую Абодвух Народаў польск. дзяржаваю. Польск. ён называў таксама паўстаньні 1830—1831 і 1863—1864 гг. Гл. арт. “К пытаньню аб нацыянальных адносінах у Беларусі і Літве”, рэфэрат “Нарадавольцы–беларусы і іх орган “Гомон” (Да пытаньня пра эвалюцыю палітычнай ідэалёгіі беларусаў у XIX ст.)”.

[8] *...лишившись...* — У рукапісе “лишивших”.

[9] *... небольшая группа учащейся молодежи...* — На ўвазе маецца гурток вучнёўскай моладзі ў Менску, у які ўваходзілі А. Луцкевіч і І. Луцкевіч. У канцы XIX — на пачатку XX ст. у Вільні і Пецярбурзе складваецца другі гурток беларускае моладзі (В. Іваноўскі, А. Бурбіс, Ф. Стацкевіч, Ф. Умястоўскі, Цётка ды інш.). У 1902 г. В. Іваноўскі ды інш. нават учыняюць спробу стварыць БРП. Сам А. Луцкевіч адзначаў пазьней, беларускі рух стаў вынікам аб’яднаньня ўвосень 1902 г. моладзі зь Віленшчыны і Меншчыны (гл. с. 168 гэтага выданьня). Менавіта тады пачынае дзейнасьць Круг беларускае народнае прасьветы і культуры (1902—1904), а ў канцы 1903 г. — БРГ.

[10] *...общество белорусского народного просвещения...* — На ўвазе маецца Круг беларускае народнае прасьветы і культуры (1902—1904).

[11] *...в среде этих тружеников начинается дифференциация: в то время как одни, отчаявшись в возможности работать при тогдашних условиях, спокойно сложили оружие, — более решительные и энергичные создают первую белорусскую политическую организацию...* — Больш дакладны аўтар у арт. “Белорусы”: адна частка гуртка заставалася ў рамках культурнай дзейнасьці, другая паставіла гэтую дзейнасьць у цесную сувязь з палітычнай барацьбой. Трэба памятаць, што спроба стварыць першую беларускую палітычную арганізацыю — БРП — была ўчынена ў 1902 г. В. Іваноўскім, аднак пасьля прыезду ў Пецярбург І. і А. Луцкевічаў і стварэньня Кругу беларускае народнае прасьветы і культуры ён засяродзіўся больш на культурніцкай, кнігавыдавецкай працы, а браты Луцкевічы — на палітычнай, вынікам чаго было заснаваньне ў канцы 1903 г. БРГ. Разам з тым у арт. “Аб беларускім нацыянальным адрадзэньні” А. Луцкевіч адзначаў, што ў час рэвалюцыі 1905 г. дзейнасьць “культурнікаў” спыняецца, бо “ўсе інтэлігентныя сілы краю заняліся аднэй толькі палітыкай”. Культурніцкая праца аднавілася ў 1906 г., калі былі заснаваныя выдавецкая суполка “Загляне сонца і ў наша ваконца” і пэрыядычны друк (*НД* і *НН* адыгрывалі і важную культурна–асьветніцкую ролю).

[12] У рукапісе гэтае слова ўзятае ў двукосьсе.

[13] *...Белорусская Революционная Грамада переродилась с течением времени в социал–демократическую организацию (Белор[усская] Социалистическая Грамада)...* — БРГ пачала называцца Сацыялістычнаю Грамадою недзе ў кастр. 1904 г. Ва ўсякім разе ў дак. ППС яна фігуруе як БСГ ужо 10.11.1904 г.[1] На пачатку 1905 г. улёткі выходзілі толькі пад грыфам БСГ[2].

[14] Далей выкасаванае слова “величайшая”.

[15] *И вот в 1905—1906 гг. белорусские “культурники” опять выплывают наверх.* — У 1906—1907 гг. культурнікі (В. Іваноўскі ды іншыя) працавалі ў нелегальным вы-

---

[1] Гл.: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. С. 32, 174.

[2] Гл.: *Сацыялістычны рух на Беларусі.* С. 67, 71, 77—79.

давецтве “Грамада”, якое выпусьціла прынамсі пяць паліт. беларускамоўных брашураў. У 1906 г. яны засноўваюць выдавецкую суполку “Загляне сонца і ў наша ваконца”. Па сутнасьці ня толькі паліт., але і культурніцкім праектам было наладжанае ў 1906 г. братамі Луцкевічамі выданьне *НН*, пра што піша далей і сам аўтар.

16 *...первая газета по–белорусски — “Наша Доля”...* — А. Луцкевіч у час напісаньня гэтага арт. ня ведаў пра “Мужыцкую Праўду”. Пазнаёміўшыся з “Мужыцкай Праўдай”, ён не прызнаў яе газэтай. Гл.: “Праўда аб “Мужыцкай Праўдзе”[3].

17 Выпуск *НН* браты Луцкевічы наладзілі да фармальнага закрыцьця ўладамі *НД*.

18 Кніжнае таварыства “Мінчук” існавала ў 1906—1907 гг. Выдала толькі адну назву — апавяданьне Э. Ажэшкі “Гедалі” — кірыліцаю і лацінкаю.

19 Паведамленьне пра зьезд беларускіх народных настаўнікаў, які адбыўся 25.05.1907 г., і заснаваньне Беларускага настаўніцкага саюзу надрукавана ў: *НН*. 1907.8(21) чэрв.

20 *...о потребности науки...* — Гаворка пра адукацыю, навучаньне.

21 *...существуют частные белорусские школы...* — Вядома пра школы ў маёнтку Т. Гардзялкоўскай (Сеньненскі павет), у якой настаўнічаў Я. Колас, і ў маёнтку Бардзіловічы Л. Корсак (Дрысенскі павет)[4]. Па–беларуску дзеці чыталі ў маёнтку Прусан пад Крычавам.

22 *... книжки и газеты... издавать двумя изданиями — латинским и русским шрифтом...* — Такая практыка працягвалася да 1911 г. Беларусы–каталікі, уцягнутыя ў гаспадарчае і культурнае жыцьцё імпэрыі, былі добра знаёмыя і з кірылічным шрыфтам, таму неабходнасьць дубляваць выданьні адпадала. Аднак беларускія каталіцкія колы працягвалі выдаваць газэты, часопісы ды кнігі лацінкаю і пазьней.

23 Далей 4 радкі нечытэльныя.

24 *...Московским государством...* — У Эўропе, у т л. у Рэчы Паспалітай, Расею менавалі Масковіяй да канца XVII ст. і нават у XVIII ст., бо Русьсю лічыліся землі Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай, населеныя пераважна праваслаўнымі і ўніятамі. Самі пасьлядоўнікі гэтых вызнаньняў, лічачы сваю веру рускаю, а сябе рускімі, ставіліся да ўсходніх суседзяў як да іншаверцаў і называлі іх маскавітамі, масквою, маскалямі, а іх царкву — маскоўскаю. Акрамя таго, Эўропа не прызнавала спачатку тытулу цэзара (цара), а потым і аўгуста (імпэратара) за князямі маскоўскімі, бо гэтыя тытулы не былі ім нададзеныя вышэйшымі духоўнымі асобамі — Папам Рымскім або Патрыярхам Канстанцінопальскім. Канчатковая нармалізацыя адносін і прызнаньне тытулу імпэратара ўсерасейскага за царамі адбыліся ў час спатканьня імпэратара Ёзафа II і Кацярыны II у Магілёве (тр. 1780 г.).

## *Белорусы (с. 31)*

Друкуецца паводле адбіткі са зб. *Формы...*, дзе надрукаваны ўпершыню пад псэўд. *Антон Новина*.

Датуецца годам публікацыі.

Праф. М. Біч пісаў, што ў гэтым зб. “асьвятляліся нацыянальныя рухі чэхаў, харватаў, славакаў, украінцаў, палякаў, яўрэяў, літоўцаў, латышоў і іншых народаў Аўстра–Вугорскай, Расейскай і Германскай імпэрыяў, прытым прадстаўнікамі адпаведных народаў” і што публікацыю арт. А. Луцкевіча ў гэтым зб. “можна ацаніць як факт міжнароднага прызнаньня маладой беларускай нацыі”[5].

---

[3] Гл. ў *ПКЛіМ; БЗВ*.

[4] Гл.: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 40.

[5] Біч М. Ідэоляг і практык нацыянальнага адраджэньня // Крыніца. 1999. № 4—5. С. 46.

Арт. зьяўляецца адной зь першых спробаў апісаньня і асэнсаваньня гісторыі беларускага руху.

[1] Землі былое Чарнігаўскае губ. падзеленыя ў асноўным паміж Чарнігаўскаю вобл. Украіны і Бранскаю вобл. Расейскае Фэдэрацыі.

[2] *...закона о веротерпимости...* — На ўвазе маецца царскі ўказ аб умацаваньні пачаткаў верацярпімасці, падпісаны 16.04.1905 г.

[3] Гл. заўвагу 4 да арт. "Национальное возрождение белорусов".

[4] Гл. заўвагу 2 да арт. "Национальное возрождение белорусов".

[5] Маецца на ўвазе Судзебнік вялікага князя Казімера Ягайлавіча (1468).

[6] Маюцца на ўвазе Статуты ВКЛ 1529, 1566 і 1588 г. Статут 1588 г. друкаваўся тройчы па–старабеларуску, восем разоў па–польску, адзін раз па–польску і па–расейску. Па–беларуску і па–расейску Статут 1588 г. друкавалі і пасьля таго, як яго дзеяньне было спынена.

[7] Магчыма, на ўвазе маецца закон "Трыбунал абываценлям Вялікага Княства Літоўскага", выдадзены 1.03.1581 г. вялікім князем Сьцяпанам Батурам. На падставе гэтага закону быў створаны Трыбунал ВКЛ — найвыйшэйшы апэляцыйны суд у дзяржаве.

[7] Сучасная навука лічыць, што гэтая прамова прыпісваецца І. Мялешку.

[8] *Польское владычество...* — Гаворка павінна ісьці пра польск. культурнае панаваньне ў Беларусі, бо ўлада ў ВКЛ заставалася ў руках мясцовае арыстакратыі літоўскага, беларускага і ўкраінскага і паходжаньня, нашчадкаў Рурыка, Гедыміна і інш.

[9] У адбітцы надрукавана "Штейна".

[10] У адбітцы надрукавана "Федоровского".

[11] *В 1867 году...* — Забарона ў 1865 г. друкаваць беларускія кніжкі лацінкаю ўспрымалася і трактавалася як забарона беларускага друку наагул (выключэньне — беларускія тэксты ў навуковых працах, якія падаваліся як тэксты ў беларускай гаворцы ("наречии") расейск. мовы). 12.12 .1904 г. друк у беларускай мове быў дазволены; тады ж была зьнятая забарона друкаваць беларускія кнігі і пэрыёдыкі лацінкаю.

[12] Земскае самакіраваньне было ўведзена ва "ўнутраных" 34 расейск. губ. у 1864 г., а ў Віцебскай, Магілёўскай і Менскай губ. — у 1903 г. Аднак у беларускіх губ. не было такіх інстытутаў, як выбарныя павятовыя (губэрнскія) сходы. Іх абавязкі выконвалі павятовыя (губэрнскія) камітэты ў справах земскае гаспадаркі. Павятовыя камітэты ствараліся губэрнатарамі з чыноўнікаў, а ў губэрнскія камітэты мін. унутраных спраў прызначаўся па два прадстаўнікі ад кожнага пав. губэрнатары і мін. унутраных спраў прызначалі таксама павятовыя і губэрнскія земскія ўправы. Такое земства называлі казённым, куртатым. У Віленскай і Горадзенскай губэрнях земстваў наагул не было. Такі парадак існаваў да 1911 г., калі земскае самакіраваньне было ўведзенае ў Віцебскай, Магілёўскай і Менскай губ. (Віленская, Горадзенская і Ковенская губ. яго не атрымалі).

[13] *...после запрещения покупать ее лицам польского происхождения (1863 г.)...* — Зямлю забаранялася купляць шляхце каталіцкага веравызнаньня; сялянам каталіцкага вызнаньня нельга было набываць больш як 60 дзес. на двор.

[14] На ўвазе маецца перш за ўсё рэвалюцыя 1905 г.

[15] Мяркуецца, што "Энэіда навыварат" напісана паміж 1816 і 1826 гг.

[16] Гаворка пра Р. Хадкевіча, які прыняў уцекачоў з Масковіі І. Фёдарава ды П. Мсьціслаўца, абсталяваў для іх у Заблудаве (Падляшша) друкарню і фундаваў друкаваньне Вучыцельнага Эвангельля (1569), напісаўшы да яго прадмову.

[17] Цытата спраўджана па кн.: Dudka biełaruskaja Macieja Buraczka. Мн., 1990.

[18] Пішучы пра гуртoк вучнёўскай моладзі ў Менску і ролю сяброў гэтага гуртка на пачатку беларускага руху XX ст., А. Луцкевіч пэўным чынам ігнаруе ролю ў гэтым руху

В. Іваноўскага ды іншых выхадцаў зь Віленшчыны. Гл. заўвагу 9 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[19] *...два первых издания Общества...* — Насамрэч Круг Беларускай народнай прасьветы і культуры выпусьціў больш выданьняў. Тут ня ўлічаныя “Вязанка” Я. Лучыны, “Янка Музыкант” Г. Сянкевіча, “Песьні” Ф. Багушэвіча, Цёткі і К. Каганца, ананімная “Ведзьма”, а таксама “Казкі”.

[20] ...“*Калядная Чытанка*”... — На ўвазе маецца “Калядная пісанка на 1904 год”, выдадзеная на гектогафе ў канцы 1903 г.

[21] ...“*Велікодная Чытанка*”... — На ўвазе маецца “Велікодная пісанка”, выдадзеная ў 1904 г.

[22] Гл. заўвагі 11 і 13 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[23] Чыншавікі — арандатары царк., дзярж. і прыватных земляў (пляцаў) у гарадох і мястэчках. Паводле Статуту ВКЛ яны плацілі за зямлю вечна адзін і той самы чынш грашыма або натураю. Пасьля ўвядзеньня ў Беларусі расейск. заканадаўства землеўладальнікі атрымалі права перазаключаць дагаворы арэнды праз кожныя 12 гадоў. У сувязі з урбанізацыяй і ростам кошту зямлі землеўладальнікі або падымалі чынш, або памяншалі пляцы, а таму чыншавікі ядналіся дзеля абароны сваіх інтарэсаў.

[24] На ўвазе маюцца хутчэй за ўсё бр. парт. выдавецтва “Грамада”. Гл. заўвагу 15 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[25] ...“*Беларускі лемантар*”... — Кн. “Беларускі лемантар, або Першая навука чытаньня”, выдадзеная кірыліцаю і лацінкаю ананімна, была “часткова, а магчыма, і поўнасьцю” складзена і ілюстравана К. Каганцом[6]. Аднак Ю. Туронак паказвае, што лацінкаю лемантар падрыхтаваў В. Іваноўскі, а кірыліцаю — К. Каганец[7].

[26] ...“*Першае чытаньне*”... — “Першае чытаньне для дзетак беларусаў” напісала Цётка.

[27] ...“*Гутаркі аб небе і зямлі*”... — Кніжку на беларускую мову пераклалі К. Каганец і С. Шаўлоўскі.

[28] ...“*Минчук*”. — Гл. заўвагу 18 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[29] *В мае 1907 г. состоялся съезд белорусских учителей, приведший к организации Белорусского учительского союза...* — Гл. заўвагу 19 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[30] *Нам известен ряд школ, ... где обучение детей ведется по–белорусски...* — Гл. заўвагу 21 да арт. “Национальное возрождение белорусов”. Зьвестак пра іншыя школы ў літаратуры не сустракалася.

### *Аб беларускім нацыянальным адрадзэньні (с. 38)*

Друкуецца паводле: *НН*. 1909. 12 (25) лістап., дзе апублікаваны ўпершыню бяз подп.

[1] Мусіла б быць “сьвятло”.

[2] ...“*Мінчук*”... — Гл. заўвагу 18 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[3] ...“*Наша Хата*”... — Выдавецкае т–ва “Наша хата” існавала ў 1908—1911 гг. у Вільні.

### *На дарозе да новага жыцьця (с. 40)*

Друкуецца паводле: *МБ*. 1912. Сэр. 1. Сш. 1, дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. *Антон Навіна*. Пад тэкстам: *У лістападзе 1911 г. — Вільня*.

Праца выдадзена асобнаю адбіткаю.

---

[6] Гл.: Кніга Беларусі. 1517—1917: Зводны каталог. Мн., 1986. С. 231.

[7] Гл.: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 35, 37, 38.

[1] Гл. заўвагу 1 да арт. “Национальное возрождение белорусов” і заўвагу 6 да арт. “Белорусы”.

[2] Перапіс 1897 г. паказаў, што як мінімум 43 адсоткі шляхты размаўлялі па–беларуску. Беларуская мова была роднаю для мяшчан, асабліва ў мястэчках. У канцы XVIII — пачатку XIX ст. захавальнікам звычаяў і вераваньняў зьяўлялася таксама парафіяльнае ўніяцкае духавенства.

[3] У *МБ* надрукавана “на”.

[4] Гл. заўвагу 8 да арт. “Белорусы”.

[5] Такая кніга Р. Зямкевіча невядомая.

[6] Верш “Добрыя весьці” цытуецца паводле кн.: Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя... / Склад. і аўт. камэнт. А. А. Лойка, В. П. Рагойша. — 2–е выд., перапрац. і дап. — Мн., 1988.

[7] Як цыкл адозваў А. Луцкевіч разглядаў і “Мужыцкую Праўду”. Гл. заўвагу 16 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[8] *...з 1866 году ў Расеі было забаронена друкаваць беларускія кніжкі.* — Гл. заўвагу 11 да арт. “Белорусы”.

[9] У *МБ* надрукавана “па”.

[10] А. Луцкевіч меў у той час яшчэ цьмянае ўяўленьне пра час. “Гомон” (1884).

[11] Цытата з прадмовы да “Дудкі беларускай” Ф. Багушэвіча.

[12] Недакладная цытата з прадмовы да “Дудкі беларускай” Ф. Багушэвіча.

[13] Гл. заўвагу 19 да арт. “Национальное возрождение белорусов”. Пад суд настаўнікі трапілі не за заснаваньне Беларускага настаўніцкага саюзу, а за спробу стварыць мясцовую арганізацыю Усерасейскага саюзу народных настаўнікаў і дзеячоў народнай адукацыі (гл. арт. “Палітычны працэс Якуба Коласа і тт.”)

[14] *...пачынаецца рух і ў вучыцельскіх сэмінарыях, інстытутах, і вучні чатырох сэмінарый робяць свой хаўрус пад беларускім нацыянальным штандарам, каторы скора адміністрацыя разьбівае.* — Вядомая Беларуская нац. хэўра ў Глухаўскім настаўніцкім інстытуце (гл. *НН*. 1908. 28 сак.). Першая згадка пра саюз вучняў чатырох настаўніцкіх сэмінарыяў (Маладэчанскай, Сьвіслацкай, Полацкай і Панявескай) зьявілася ў *НН* 13(26).04.1907 г. У 1916 г. А. Луцкевіч паведамляў, што канфэрэнцыя вучняў гэтых сэмінарыяў адбылася ў крас. 1906 г. Гл.: А. [Łuckiewicz A.] Zmahańnie za szkołu // *Hm*. 1916. 18 krasawika. У рэфэраце Беларускае дэлегацыі на Лязанскай канфэрэнцыі народаў Расеі (гл. 80 с. гэтага выданьня) аўтар назваў створаны сэмінарыстамі хаўрус Саюзам вучыцельскіх сэмінарый.

[15] *...у Мінску — суполка “Мінчук”, у Вільні — “Наша Хата” і выдавецтва “Палачанін”...* — Гл. заўвагу 18 да арт. “Национальное возрождение белорусов” і заўвагу 3 да арт. “Аб беларускім нацыянальным адрадзэньні”. Выдавецтва “Палачанін” існавала ў 1910—1911 гг.

[16] Выдавецтва А. Грыневіча існавала ў 1910—1913 гг.

[17] Беларускі музычна–драматычны гурток заснаваны 9.05.1911 г.

[18] Першая беларуская трупа І. Буйніцкага (1907—1913) да 1910 г. мела аматарскі характар. У 1910—1911 гг. яна актыўна гастралявала па Беларусі.

[19] Бп Эдвард фон дэр Роп, які выступаў супраць атаясамліваньня каталіцызму з польскасьцю і прыязна ставіўся да ўвядзеньня ў царкоўнае жыцьцё беларускае і літоўскае моваў, у кастр. 1907 г. быў адхілены ад кіраваньня Віленскай дыяцэзіяй і высланы пад нагляд паліцыі ў в. Нішча Віцебскай губ. Да 1918 г. дыяцэзію ўзначальваў апостальскі адміністратар — паляк Казімеж Міхалькевіч.

[20] *...аб тых кірунках і групах людзей — часта чыстакроўных беларусаў, каторыя... стараюцца ўсімі сіламі... запыніць разьвіцьцё таго, ад чаго адшчапіліся: беларускай нацыянальнай культуры.* — Далей аўтар піша пра т–ва “Крестьянин” і “Белорусское

общество” ды іх друкаваныя органы. “Тоже белорусы”, якія гуртаваліся ў т–ве “Крестьянин” (1905—1915), выдавала аднайменны штотыднёвы час; “Белорусское общество”, якое выдавала “Белорусскую жизнь” (1909—1911), “Северо–Западную жизнь” (1911—1915) і “Белорусский Вестник” (1912—1913), стварылі дзеячы, якія адкалоліся ад т–ва “Крестьянин”.

[21] У *МБ* надрукавана “каторым”.

[22] *Закон 3 юня*... — Законам ад 3.06.1907 г. саслоўныя сялянскія і памешчыцкія курыі (у Горадзенскай, Менскай і Магілёўскай губ. цалкам, а ў Віцебскай — у сямі паветах) падзяляліся на “нацыянальныя”, а насамрэч на веравызнаўчыя аддзяленьні — “рускія” (праваслаўныя) і “польскія” (каталіцкія); у Віленскай губ. вылучалася асобная “руская” памешчыцкая курыя; габрэі былі фактычна пазбаўлены права абіраць выбаршчыкаў на губэрнскія сходы.

[23] *...польскага паўстаньня 1863 году*... — Гл. заўвагу 7 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[24] Школьны перапіс праводзіўся ў Расейскай імпэрыі 19.01.1911 г.

[25] На ўвазе маюцца сябры польск. Партыі нац. дэмакратыі (эндэкі).

[26] *“Niechaj sami przyjdą do nas!”* — “Няхай самі прыйдуць да нас!”

[27] Гл. таксама арт. А. Луцкевіча “З газэт” у: *БЗВ*.

## *Белорусское движение (с. 53)*

Друкуецца паводле кн.: *Новый энциклопедический словарь*. Под общей ред. почетного акад. К. К. Арсеньева. Издатели: Ф. А. Брокгауз и И. А. Ефрон. Т. 8. СПб, б. г.

У БДАМЛМ (ф.3, вып. 1, адз. зах. 87, арк. 3) захоўваецца ліст ад 5.03.1912 г. рэдакцыі “Энциклопедического словаря”, у якім утрымліваецца заказ ад імя М. Кавалеўскага на арт. пра беларускі рух. У левым верхнім кутку аркуша пазнака: “Отписано, что может взяться А. Новина”.

Мяркуючы па тым, што аўтар згадвае альманах “Маладая Беларусь” і не называе сярод кніг зборнік Т. Гушчы (Я. Коласа) “Апавяданьні”, арт. напісаны да жн. 1912 г.

[1] На ўвазе маецца арт. “Белорусы” ў “Новом энциклопедическом словаре”.

[2] *Под владычеством Польши*... — Гл. заўвагу 8 да арт. “Белорусы”.

[3] *...только народная, крестьянская масса... живет самобытной жизнью, сохраняя древние обычаи, верования, устную литературу и язык в неприкосновенном виде.* — Гл. заўвагу 2 да арт. “На дарозе да новага жыцьця”.

[4] Мусіла б быць “их”.

[5] Мусіла б быць “Л. Кондратович”.

[6] *...белорусским стихотворением приветствует “вести с Запада”*... — На ўвазе маецца верш “Добрыя весьці” (гл. арт. “На дарозе да новага жыцьця”).

[7] ...*“Мужыцкая праўда”*... — Гл. заўвагу 16 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[8] Mutatis mutandis — з адпаведнымі зьмяненьнямі.

[9] *...на рубеже 1880–х и [18]90–х гг. в Минске издается... нелегальная газетка на белорусском языке “Гомон”*... — Гл. заўвагу 10 да арт. “На дарозе да новага жыцьця”.

[10] *...союз белорусских народных учителей*... — Гл. заўвагу 19 да арт. “Национальное возрождение белорусов”

[11] *Движение захватывает и самые институты и семинарии; организуются кружки учащихся в них белорусов*... — Гл. заўвагу 14 да арт. “На дарозе да новага жыцьця”.

[12] *...начало нового течения — аполитического, имеющего чисто культурные задачи*... — У арт. “Национальное возрождение белорусов” аўтар паказаў, што БСГ не спыняла сваёй працы і ў гады рэакцыі.

[13] *...журнал “Наша Ніва”, начавший выходить вслед за боевой “Нашей Долей”...* — Гл. заўвагу 17 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[14] *...латинским (правильнее, чешским) шрифтом...* — Маецца на ўвазе тое, што замест дыграфу cz нашаніўцы ўвялі літару č, замест sz — літару š, а замест ż — літару ž.

[15] *...“Наша Хата”, „Мінчук”, “Палачанін”...* — Гл.. заўвагу 18 да арт. “Национальное возрождение белорусов”, заўвагу 3 да арт. “Аб беларускім нацыянальным адрадзэньні” і заўвагу 15 да арт. “На дарозе да новага жыцьця”.

[16] *...Янка Купала, ...родившийся в крестьянской хате...* — У вызначэньні клясавага паходжаньня паэта аўтар быў непасьлядоўны. Так, напр., у лекцыі “Напевы ліры Янкі Купалы” (1929) ён казаў, што сям’я песьняра “была напалову спольшчаная, з дробнашляхоцкімі традыцыямі”, а ў лекцыі “Янка Купала як прарок адраджэньня” (1932) назваў яго сялянскім паэтам–самародкам.

[17] *...в одном из белорусских местечек выходит даже свой рукописный журнал... (“Голос Низа”, первоначально издавался на русском языке, позже введены литературные приложения на белорусском — “Вольна думка”).* — Расейскамоўны “Голос низа” з дадаткам “Вольная думка” выйшаў у 1911 г. у Капылі.

[18] *1911 год принес организацию объездных театров...* — Гл. заўвагу 18 да арт. “На дарозе да новага жыцьця”.

[19] Мусіла б быць “издание”.

[20] *...крайне правого, близкого к всероссийскому национальному союзу...* — Аўтар, імаверна, мае на ўвазе “тоже белорусов”, якія гуртаваліся ў т–ве “Крестьянин” і “Белорусском обществе”. Гл. заўвагу 20 да арт. “На дарозе да новага жыцьця”.

## *К пытаньню аб нацыянальных адносінах у Беларусі і Літве (с. 57)*

Друкуецца паводле: *МБ*. 1912. Сэр. 1. Сш. 2, дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. *Антон Навіна*.

Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

Паколькі інфармацыя пра выхад 2–га сш. *МБ* зьявілася у *НН* 1.02.1913 г., арт. можна датаваць другою палавінаю 1912 г.

Гэты арт. зьяўляецца як бы працягам арт. “На дарозе да новага жыцьця”.

Пытаньне пра нацыяналізм у жыцьці Беларусі і Літвы А. Луцкевіч разглядае таксама ў арт. “Змаганьне з хваробай”[8], “Краёвае становішча” ды інш.

[1] *...польскае паўстаньне...* — Гл. заўвагу 7 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[2] Калі больш дакладна, прынцып *cuius regio, eius religio* (чыя ўлада, таго і рэлігія), устаноўлены Аўгсбурскім мірам 1555 г. пасьля Шмалькальдэнскіх рэлігійных войнаў.

## *Наш шлях (с. 63)*

Друкуецца паводле: *МБ*. 1913. Сэр. 1. Сш. 3, дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. *Антон Навіна*. Пад тэкстам дата: *Вільня, 22/IV. 1913.*

Надрукаваны таксама ў: *Сп.* 1996. №1.

У перакладзе на ангельскую ў: Byelorussian Statehood: Reader and Bibliography. / Edited by Vitaut Kipel and Zora Kipel. — New–York: Byelorussian Institute of Arts and Sciences, 1988.

---

[8] Гл.: *БЗВ*.

Арт. напісаны на замову В. Іваноўскага і пасьля напамінку ад Я. Купалы[9].

Тэкст зьяўляецца завуаляваным тлумачэньнем і абгрунтаваньнем праграмы дзейнасьці БСГ на бліжэйшы пэрыяд, выкладзенае ў арт. А. Луцкевіча "Што трэба рабіць?" і працытаванае ў дадзеным тэксьце.

Арт. "Што трэба рабіць?" надрукаваны ў *НН* за 10.01.1913 г. пад крыпт. *а—н—а*. Устаўляючы яго ў тэкст арт. "Наш шлях", аўтар апусьціў толькі першы абзац.

Арт. "Што трэба рабіць?" друкаваўся таксама ў *БК–1914*.

Канкрэтызацыяй праграмы дзеяньняў БСГ, выкладзенае ў арт. "Што трэба рабіць?", у галіне культурна–асьветнай быў "Плян работы", складзены ў сярэдзіне 1914 г. і які ў скароце друкуецца далей.

А. Луцкевічу належыць і іншы арт. п. з. "Наш шлях" (гл. у: *БЗВ*).

[1] Апошняя страфа зь вершу Я. Купалы "Ворагам Беларушчыны".

## *Данос (с. 66)*

Друкуецца паводле: *НН*. 1913. 16 жн., дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *А—Н—А*.

Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

[1] *...што знайшла паліцыя пры обысках у розных людзей — у вучняў Маладэчанскай сэмінарыі, у Мінскай публічнай бібліятэцы і т. д., — ведае, аб чым пісалася у знайдзеных у іх пісьмах.* — Напрадвесьні 1908 г. быў арыштаваны сябар БСГ, бібліятэкар Пушкінскай бібліятэкі ў Менску В. Зелязей, у якога была знойдзена зброя і парт. пячатка, зробленая К. Каганцом (гл. с. 181 гэтага выданьня). Улетку 1907 г. арыштавалі вучняў Маладэчанскай настаўніцкай сэмінарыі[10].

[2] *...праклямацыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады друкаваліся ў 1903, 1904, 1905 і ў пачатку 1906 году...* — У канцы 1903 г. была заснаваная БРГ, і яна ў тым годзе праклямацыяў не выпускала; выдавецкая дзейнасьць партыі пачалася ў 1904 г.; БСГ — наступніца БРГ — выпускала свае праклямацыі ў 1905—1907 гг.

[3] *...і на іх паказана зусім іншая фірма*. — Бр. "Гуторка об тым куды мужыцкіе грошы идуць" выпусьціла ППС у Літве[11] ў 1903 г. у лёнданскай друкарні ППС[12]. У 1907 г. бр. перавыдала выдавецтва "Грамада". У 1906 г. гэтае выдавецтва выпусьціла таксама бр. "Чы будзе для ўсіх зямлі?"[13].

[4] Гэтак у *НН*.

[5] У *НН* надрукавана "дола".

## *Движение белорусов к национальному возрождению (с. 67)*

Друкуецца паводле: *Современник*. 1914. Кн. 1, дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. *Ант. Новина*.

Датуецца другой палавінай 1913 г.

Некаторыя палажэньні гэтага нарысу неабходна суадносіць з тым, што аўтар сьцьвярджаў у іншых сваіх публікацыях. Так, пра запазычнасьць памешчыкаў каталіцкага веравызнаньня А. Луцкевіч пісаў у арт. "Даўгі двароў" (гл. у: *БЗВ*), пра стан

[9] Гл.: Купала Я. ПЗТ. Т. 9. Кн. 1. С. 234.

[10] Гл.: *НН*. 1907. 31 жн.

[11] ППС у Літве — філія ППС, заснавана ў 1902 г. Дзейнічала ў заходніх паветах Беларусі, Коўне і Панявежы. У чэрв. 1906 г. парвала арганізацыйныя сувязі з ППС, а ў кастр. 1906 г. аб'ядналася з ЛСДП.

[12] Гл.: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 159.

[13] Гл.: тамсама. С. 119.

прамысловасьці — у лекцыі “Эканамічная эвалюцыя і беларускі рух”. У гэтай жа лекцыі і ў арт. “Школы і граматнасьць у Беларусі” (гл. у: *БЗВ*) аўтар паказвае адносіны паміж узроўнем пісьменнасьці ў паасобных беларускіх губ. і наяўнасьцю ў іх казённых школаў.

[1] *Par excellence* — пераважна, у сапраўдным значэньні слова.

[2] Аўтар ведаў, што асноўная маса памешчыкаў у Беларусі — гэта апалячаныя нашчадкі мясцовых фэадалаў. Гл. рэфэрат “Эканамічная эвалюцыя і беларускі рух”.

[3] *De nomine* — намінальна.

[4] *...во владение соответствующих кредитных учреждений: дворянским и многим частным земельным банкам.* — Пакінуты граматычны лад часопіснай публікацыі. У Расеі быў адзін Дзяржаўны дваранскі пазямельны банк.

[5] *Несмотря на полное отсутствие в крае до 1911 года земского самоуправления (половина края лишена его и сейчас)...* — Гл. заўвагу 12 да арт. “Белорусы”.

[6] Мусіла б быць “народ”.

[7] Мусіла б быць “мужчин”.

[8] Мусіла б быць “женщин”.

[9] *Eo ipso* — на моцы гэтага, тым самым.

[10] *...поляки, став полными хозяевами края...* — Гл. заўвагу 7 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[11] *...не могло тогда быть места для сознательной и планомерной полонизаторской деятельности и денационализации белорусов.* — Новыя дасьледаваньні паказваюць, што пляны палянізацыі і дэнацыяналізацыі беларусаў меліся. Яны знайшлі сваё ўвасабленьне ў пастановах Вялікага Сойму, у замацаванай у канстытуцыі 3 траўня 1791 г. спробе замест Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў стварыць унітарную дзяржаву. Мелася на ўвазе і этнічная ўніфікацыя насельніцтва гэтай дзяржавы праз палянізацыю беларусаў, украінцаў і жмудзінаў. Часткова гэтая праграма рэалізоўвалася ў пачатку XIX ст. у дзейнасьці Полацкай езуіцкай акадэміі, Віленскага ўн–та і папячыцеля Віленскай навучальнай акругі А. Е. Чартарыйскага.

[12] *...когда Виленский университет стал центром и рассадником демократических идей, когда из него выходят Чечотты, Барщевские, Рыпинские и т. п.* — Я. Баршчэўскі вучыўся ў Полацкай езуіцкай акадэміі, А. Рыпінскі — у школе прапаршчыкаў. Затое Віленскі ўн–т і Галоўную духоўную сэмінарыю пры ім скончылі сыны ўніяцкіх сьвятароў І. Анацэвіч, М. Баброўскі і І. Даніловіч, якія паклалі пачатак беларусазнаўству.

[13] Мусіла б быць “в 1831 г.”.

[14] *...известно 5 изданий...* — Больш імаверна, што аўтар мае на ўвазе перш за ўсё “Mużyckuju Praudu”. Гл. заўвагу 16 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[15] *...правительственным запретом печатания белорусских книг, появившимся в 1866 году.* — Гл. заўвагу 11 да арт. “Белорусы”.

[16] *...нелегальная белорусская газетка “Гоман”...* — Гл. заўвагу 10 да арт. “На дарозе да новага жыцьця”.

[17] “*Не кидайце мовы вашей беларускай, каб не умерлі!*” — У “Dudcy białaruskaj Macieja Buraczka”: “Nia pakidajcież mowy naszaj biełaruskaj, kab nia umiorli!”

[18] “*Наша бацькава спрадвечная мова,* — писал Мацей Бурачок... *Яно добра, а навет і трэба знаць суседзкую мову, але наперш трэба знаць сваю*”. — Гэта не цытата, а адвольны пераказ асобных тэзісаў прадмовы да “Dudki białaruskaj Macieja Buraczka”.

[19] Мусіла б быць “в нем”.

## *Краёвае становішча (с. 74)*

Друкуецца паводле: *Сп*. 1996. № 1, дзе апублікаваны ўпершыню А. Смаленчуком паводле рукапісу, які захоўваецца ў LMAB і падпісаны псэўд. *Ант. Навіна*.

Пад тэкстам дата: *Вільня, 1/IV. 1914 г.*

Апрацоўваючы праграму дзейнасьці БСГ (гл. арт. “Наш шлях” і “Плян работы”) на бліжэйшы пэрыяд, яе лідэры не маглі ня думаць пра саюзьнікаў у барацьбе супраць існуючых парадкаў, за разьвіцьцё “краёвага жыцьця”.

Няма адказу на пытаньне, ці прызначаўся гэты тэкст для друку, ці ён быў чымсьці накшталт рэфэрату.

[1] *Агранічэньні права куплі–прадажы зямлі...* — Гл. заўвагу 13 да арт. “Белорусы”.

## *Плян работы (с. 77)*

Друкуецца паводле: *БГЧ*. 1998. № 2, дзе апублікаваны ўпершыню з захаваньнем граматыкі арыгіналу.

Датуецца сярэдзінай 1914 г.

Другая частка “Пляну...”, датычная фінансавага боку справы, апушчаная.

“Плян...” разглядаецца як канкрэтызацыя праграмы, выкладзенай у арт. “Што трэба рабіць?” (гл. камэнт. да арт. “Наш шлях”). Праўдападобна, “Плян” быў падрыхтаваны да нарады актыву БСГ, якая праводзілася штогод у купальскія дні ў Вільні.

[1] Газ. “Biełarus” выходзіла з 13 (26).01.1913 па 7(20).08.1915 г. Яе выданьне блаславіў Папа Рымскі Пій X. У рукапісе пасьля слова “Biełarus” чыёйсьці рукою алоўкам дапісана: “Адначасна паднялося і студэнцтва”.

[2] Мусіла б быць “маглі”.

[3] Чыёйсьці рукою алоўкам надпісана: “Мінску”.

[4] Чыёйсьці рукою алоўкам дапісана: “і Мінску”.

[5] Чыёйсьці рукою алоўкам дапісана: “ці Мінску”.

## *Рэфэрат Беларускае дэлегацыі на Лязанскай канфэрэнцыі народаў Расеі (с. 78)*

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў LMAB: ф.21, адз. зах. 276, арк. 3—7.

Пад тэкстам подпіс: *Iwan Mialeszka*. На першай старонцы рукапісу надпіс: *U lipniu 1916 hodu*.

У LMAB захоўваецца і кірылічны чарнавік рэфэрату, пісаны алоўкам на вузкіх палосах паперы (тамсама, арк. 9—33).

Што аўтар гэтага рэфэрату А. Луцкевіч, сьведчыць ня толькі ягоны почырк, але й пратакол пасяджаньня БНК за 11.06.1916 г. (тамсама, арк. 1— 2). У ім напісана: “Камітэт прыступіў да разгляду праекту рэфэрату на зьезд у Лязане[14], апрацованага А. Луцкевічам. Прызнаваючы правільнымі тэзісы рэфэрату і прынімаючы формулы Я. Салаўя аб праграме на цяперашні мамэнт, камітэт прызнаў патрэбным закрануць у рэфэраце справу жыдоўскую як справу асобнай, паўнапраўнай нацыі, і справу работніцкую. Першая павінна быць устаўлена ў рэфэрат А. Луцкевіча аўтарам яго. Рэзалюцыю аб другой паручана апрацаваць Я. Салаўю да чароднага засяданьня ў чацьвер, 15 чэрвеня. На гэтым жа засяданьні пастаноўлена выпрацаваць і тактыку дэлегатаў на зьезьдзе”.

Даручэньнем асьвятліць у рэфэраце габрэйскае пытаньне й тлумачыцца надпіс “жыды” на чарнавіку. Як відаць з чыставіка, А. Луцкевіч улічыў пажаданьне БНК.

У чыставіку А. Луцкевіча ёсьць нязначныя праўкі. Так, ён палічыў патрэбным напісаць і аб правах палякаў, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі, Літвы, Латвіі і Украіны.

[14] III Кангрэс нацыяў (Лязанская канфэрэнцыя народаў Расеі) адбыўся 27—29.09.1916 г. Кангрэс прыняў Дэклярацыю правоў нацыяў, якая прадугледжвала абарону правоў асобы і нацыяў, права на культурна–нацыянальную аўтаномію.

У той самай справе (арк. 8) захоўваецца і копія друкаванага на машынцы мандату для дэлегатаў В. Ластоўскага ды І. Луцкевіча. З дак. вынікае, што яны кіраваліся ў сваёй дзейнасьці даручэньнем БНК і тэзісамі дадзенага рэфэрату.

Як можна меркаваць, тэкст гэтага рэфэрату (імаверна, перакладзены на нямецкую ці французскую) арыштавалі нямецкія акупацыйныя ўлады (гл. арт. “Уваскросшы праект” у *БЗВ*), аднак яго асноўныя палажэньні І. Луцкевіч, мабыць, данёс удзельнікам Лязанскай канфэрэнцыі, што выклікала непрыхільнае стаўленьне да яго акупантаў (гл. с. 111 гэтага выданьня).

Ідэі, артыкуляваныя ў рэфэраце, А. Луцкевіч выклаў у арт. “Нашы суседзі” (*Нт.* 1916. 2 чэрв.).

Упершыню — з пэўнымі недакладнасьцямі — тэкст рэфэрату апублікаваны ў: *С.* 1990, № 2. Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

1 *...штучнае стрыманьне разьвіцьця эканамічнага жыцьця Беларусі...* — На ўвазе маюцца абмежаваньні пры куплі–продажы зямлі (гл. заўвагу 13 да арт. “Белорусы”), продаж праваслаўным беларускім сялянам зямлі ў другую чаргу пасьля расейск. старавераў, сыстэма тарыфаў (гл. арт. “Па дарозе да новага жыцьця” і “Краёвае становішча”).

2 *...ад вялікай расейскай рэвалюцыі...* — На ўвазе маецца рэвалюцыя 1905—1907 гг.

3 *У 1905 гаду на партыйным зьезьдзе, на каторым Беларуская Рэвалюцыйная Грамада абярнулася ў Сацыялістычную...* — Гл. заўвагу 13 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

4 *Гэткая формула знайшла месца ў новай програме зрэфармаванай Беларускай Сацыялістычнай Грамады...* — У праграме БСГ, прынятай на падставе рэзалюцыі II партыйнага зьезду, сфармулявана патрабаваньне “автономии Белорусского края з местным сеймом в Вильне” (Шлюбскі А. Да гісторыі БСГ // *П.* 1925. № 5. С. 159; *Гісторыя Беларусі канца XVIII — пачатку XX ст.* С. 218). Прапанова аб супольнай аўтаноміі Беларусі і Літвы таксама выказвалася ў 1904—1905 гг., але гэтая ідэя сустрэла адпор літоўскіх дзеячоў (гл. с. 35 гэтага выданьня).

5 *...Сацыял–дэмакратычная партыя Беларусі...* — На ўвазе маецца Сацыялістычная партыя Белай Русі (1904—1906), створаная зь ініцыятывы ППС.

6 *...Беларускі мужыцкі саюз...* — Гаворка пра Беларускі сялянскі саюз, створаны ў сак. 1905 г.

7 *...Саюз беларускіх народных вучыцялёў...* — Гл. заўвагу 19 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

8 *...Саюз вучыцельскіх сэмінарый...* — Гл. заваўгу 14 да арт. “На дарозе да новага жыцьця”.

9 *...учасьце ў саюзе і зьездах аўтанамістаў–фэдэралістаў...* — Гл. с. 35, 97, 109 і 227 гэтага выданьня.

10 *...жывуць яшчэ два народы, — народы, каторыя маюць гэткае самае права на жыцьцё і свабоднае разьвіцьцё сваей культуры, як другія: гэта — палякі і* жыды. *І вось для гэтых народаў беларускі палітычных ідэал — найбольш выгодны, найбольш жаданы: ён не разьдзяляе, а яднае распыленых ад Балтыцкага да Чорнага мора палякаў [і] жыдоў...* — У першай рэдакцыі было: “жыве яшчэ адзін народ, — народ экстэрытарыяльны, але каторы мае гэткае самае права на жыцьцё і свабоднае разьвіцьцё сваей культуры, як другія: гэта — *жыды*. І вось для гэтага народа беларускі палітычны ідэал — найбольш выгодны, найбольш жаданы: ён не разьдзяляе, а яднае распыленых ад Балтыцкага да Чорнага мора жыдоў...”

11 *...“Унівэрсал” Канфэдэрацыі...* — У канцы 1915 — пачатку 1916 г. была распрацаваная і пададзеная да агульнага ведама канцэпцыя Канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага як беларуска–літоўскае дзяржавы. Аўтарам Унівэрсалу Тымчасовай Рады

Канфэдэрацыі[15], які датуецца 19.12.1915 г., зьяўляецца І. Луцкевіч (гл. с. 111, 231 гэтага выданьня). У лютым 1916 г. зьявілася і адозва[16], якую напісаў Ю. Шаўліс (гл. с. 231 гэтага выданьня). Гісторык З. Панарскі пісаў, што на сустрэчах па чацьвяргах, якія сталі традыцыйнымі, "літоўскія палітыкі ня вельмі цікавіліся Канфэдэрацыяй". Зь вядомых літоўскіх палітыкаў гэтую ідэю падтрымлівалі толькі Ю. Шаўліс ды Ё. Вілейшыс. Большасьць літоўскіх палітыкаў пасьля прыходу немцаў адразу стала на шлях тварэньня асобнае нац. дзяржавы.

[12] "*Лета 1915, месяца...*" — У апублікаваным тэксьце Ўнівэрсалу[17], слова "месяца" скарочана ("мес."). Акрамя таго, у дадзенай цытаце апушчаны другі абзац Унівэрсалу.

[13] *... адозва Рады Канфэдэрацыі...* — Гл.: заўвагу 11.

## *Эканамічная эвалюцыя і беларускі рух (Рэфэрат, чытаны ў Беларускім клюбе 28. X. 1917) С. 82*

Друкуецца паводле адбіткі з №№ 89—90 газ. "Homan" за 6, 9 лістап. 1917 г., дзе апублікаваны ўпершыню.

Адбітка (16 старонак тэксту) захоўваецца ў LMAB: ф. 21, спр. 332, арк. 1—4. Запісы і праўкі, зробленыя рукою аўтара, паказваюць, што А. Луцкевіч зьбіраўся дапрацаваць тэкст.

Аб суадносінах колькасьці вучняў у школах і колькасьці пісьменных у паасобных беларуска–літоўскіх губ. гл. таксама арт. "Движение белорусов к национальному возрождению" і "Школы і граматнасьць у Беларусі" (надрукаваны ў: *БЗВ*).

Пра закладваньне і перазакладваньне маёнткаў у банках гл. таксама арт. "Даўгі двароў", надрукаваны ў: *БЗВ*.

Тэкст рэфэрату апублікаваны А. Смаленчуком у: *Гістарычны альманах*. 2000. № 1.

[1] У тэксьце адбіткі гэты сказ закрэсьлены.

[2] *...пачуцьцё свайго я.* — У адбітцы гэтыя словы падкрэсьленыя.

[3] *Не было пачуцьця чалавечага, — як жа магла нарадзіцца сьвядомасьць нацыянальная?* — У адбітцы гэты сказ падкрэсьлены.

[4] *...самых малазямельных...* — У адбітцы гэтыя словы дапісаны аўтарам ад рукі на полі.

[5] *...менш...* — У адбітцы гэтае слова ўпісана на полі замест выкасаваных слоў "далёка не даходзілі".

[6] *Нягледзячы на тое, што да 1911 году Беларусь была зусім пазбаўлена земскага самаўпраўленьня, а палавіна краю ня мела земств ажно да нашых дзён...* — Гл. заўвагу 12 да арт. "Белорусы".

[7] Пасьля слова "што" ў адбітцы пачынаецца с. 8, а на с. 8—9 рукою аўтара зробленыя наступныя запісы: "Скасаваньне паншчыны — прымус пашыраць "управу" зямлі. Зямля народу. Сталыпінская рэформа. Банк Сялянскі. Прычыны краху (інтарэсы зямян). Зямельная рэформа павінна мець у аснове не станавыя, а агульнадзяржаўныя інтарэсы".

[8] Гэтымі словамі ў адбітцы заканчваецца с. 9.

[9] Цытата недакладная.

[10] У адбітцы (с. 14—16) гэты і наступныя абзацы закрэсьленыя, а рукою аўтара на с. 14 лацінкаю напісана: "1. Пэрыяд рэакцыі ў Расеі — да рэвалюцыі 1917 г. 2. Зьмены сац.–паліт. укладу. 3. Эканамічны рост. 4. Адбіцьцё ў нац. руху — незалежнасьць".

---

[15] Гл.: *ЛіМ*. 1990. 23 лістап.; с. 98 гэтага выданьня.

[16] Гл.: *ЛіМ*. 1990. 23 лістап.

[17] Гл.: *Архівы БНР*. Т. 1. Кн. I. С. 851.

## *Рэзалюцыя Беларускай Рады на засяданьні 18 лютага 1918 г. у Вільні (с. 88)*

Друкуецца паводле рукапіснага арыгіналу, які захоўваецца ў БДАМЛМ: ф. 3, воп. 1, адз. зах. 140, арк. 36.

Тамсама (арк. 25—27) захоўваецца пратакол паседжаньня пленуму БРВ ад 18.02.1918 г., у якім бралі ўдзел А. Луцкевіч, кс. Уладзіслаў Талочка, а. Міхал Галянкевіч, В. Сьвятаполк–Мірскі, Я. Луцкевіч, Д. Сямашка, В. Ластоўскі, Я. Салавей, Я. Туркевіч, К. Фалькевіч, А. Дулька, М. Пэрскі і Я. Станкевіч. З пратаколу вынікае, што супроць рэзалюцыі галасаваў адзін Ластоўскі.

Тамсама (арк. 37) захоўваецца тэкст рэзалюцыі на ням. мове, падпісаны А. Луцкевічам, а. Міхалам Галянкевічам, а. Уладзіславам Талочкам, К. Фалькевічам, А. Дулькам, Д. Сямашкам, І. Луцкевічам, Я. Туркевічам, Я. Салаўём, М. Родзевічам, Я. Станкевічам і М. Пэрскім, а таксама рукапіс перакладу, зроблены Э. Л. Мэнке (арк. 38—39).

Упершыню — п. з. “Пастанова Віленскай Беларускай Рады” і зь лексычнымі праўкамі — у: *ВБ*. 1918. 28 крас. Гэты тэкст передрукаваны з камэнт. у: *Arche*. 2003. № 2.

Друкавалася з пэўнымі адступленьнямі ад арыгіналу таксама ў: *Белорусское движение*.

Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

[1] Тут і далей на ўвазе маецца створаны з дазволу Часовага ўраду Расеі І польскі корпус пад камандаваньнем Ю. Доўбар–Мусьніцкага (25—29 тыс. легіянэраў), які пасьля бальшавіцкага перавароту дысьлякаваўся ў раёне Рагачоў–Жлобін–Бабруйск. Паколькі корпус у сваіх інтарэсах хацелі выкарыстаць Антанта і польск. шавіністы, бальшавікі вырашылі яго распусьціць. У адказ 12(25).01.1918 г. пачаўся мяцеж. На кароткі час мяцежнікі ўвайшлі былі ў Менск. Пра гэта гл. таксама ў “Рэзалюцыях Беларускай Канфэрэнцыі 25, 26, 27 студня 1918 г. у Вільні”.

## *Незалежная Беларусь (с. 89)*

Друкуецца паводле: *Нт*. 1918. 3 крас., дзе апублікаваны ўпершыню бяз подп.

Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

[1] *Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, выбраная Ўсебеларускім зьездам 30 сьнежня 1917 г. ...* — Хоць у праекце пастановы Ўсебеларускага зьезду аб самавызначэньні Беларусі і часовай краёвай уладзе[18] гаварылася аб дэмакратычным рэспубліканскім ладзе ў Беларусі, абвяшчэньне БНР не прадугледжвалася. У першым пункце праекту прадугледжвалася вылучэньне са складу Ўсебеларускага зьезду органу краёвае ўлады — Усебеларускага Савету (Рады) сялянскіх, салдацкіх і работніцкіх дэпутатаў. Паколькі адразу ж пасьля прыняцьця гэтага пункту пастановы Ўсебеларускі зьезд быў разагнаны, уранку 18.12.1917 г. у чыгуначным дэпо Лібава–Роменскай чыгункі адбылося паседжаньне “общего собрания членов 1–го Всебелорусского Съезда”[19]. На ім было вырашана “Совет Съезда объявить Временной Краевой Властью”. 21.12.1917 г. Рада Ўсебеларускага зьезду прызнала сябе “таковой Временной Властью” і вырашыла дапоўніць свой склад “представителями крестьян, рабочих и солдат”, а таксама “национальных меньшинств края в лице их социалистических партий”. На гэтым жа паседжаньні Рада вылучыла са свайго складу “Исполнительный Комитет 1–го Всебелорусского съезда”, які пазьней атрымаў назву Выканаўчага Камітэту Рады Ўсебеларускага зьезду. Выканкаму на чале зь

[18] Гл. *Белорусское движение*. С. 106—108.

[19] НАРБ, ф. 325, воп. 1, адз. захав. 6, арк. 21. На жаль, гэтыя копіі пратаколаў не засьведчаныя подпісам сакратара.

Я. Варонкам даручалася “принять на себя функции Исполнительной Власти в Белоруссии”, прычым гэты орган выканаўчай улады “должен быть однородно социалистическим от большевиков до народных социалистов включительно..., стоящих на платформе 1–го Всебелорусского Съезда”.

Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага зьезду стаў правобразам Ураду Беларусі (Народнага Сакратарыяту)[20], створанага ім 20.02.1918 г.[21] Празь дзесяць дзён пасьля абвяшчэньня БНР — 19.03.1918 г. — Рада Ўсебеларускага зьезду прыняла назоў Рады БНР[22]. Яе першым Старшынёй стаў Я. Серада.

[2] *...гэта — “прадпарлямэнт”...* — Прадпарлямэнтам Раду БНР А. Луцкевіч назваў таксама ў працы “Ўсходняя Беларусь”[23] і ва ўспамінах “За дваццаць пяць гадоў”. Ва ўспамінах “25 марца 1918 году” ён назваў Раду беларускім народным парлямэнтам.

[3] *...“ўнутраную велікарускую справу”...* — Калі была абвешчаная БНР, Народны Сакратарыят зьвярнуўся з дэклярацыяй да імпэрскага канцлера Нямеччыны. У адказе, датаваным 21.03.1918 г. і накіраваным на імя А. Цьвікевіча, было напісана: “Спадар імпэрскі канцлер адхіліў дэклярацыю (Erklärung) Беларускага Народнага Сакратарыяту ад 9.3.[19]18, бо гэта азначала б умяшаньне ва ўнутраныя вялікарасейскія адносіны”[24].

[4] *...а 5 гадз. па абедзе...* — Пішучы гэты арт., аўтар браў пад увагу сярэднеэўрапейскі час[25]. Гэта меў на ўвазе аўтар і тады, калі пісаў, што пастанова Рады была прынятая “да 5 гадзіны раніцы”. Ва ўспамінах “25 марца 1918 году” А. Луцкевіч пісаў, што паседжаньне Рады БНР пачалося а 6–й гадз. і што пастанова Рады была прынятая “каля шостае гадзіны раніцы”. Тут на ўвазе меўся мясцовы час.

[5] *...даўшыя...* — У *Нт* надрукавана “даўшай”.

## *Мэмарыял Беларускага Ўраду (с. 90)*

Друкуецца паводле: *З роднага краю: Памятка беларускаму палоннаму*, дзе апубліканы за подп. А. Луцкевіча і Л. Зайца.

Пад тэкстам дата: *Горадня, 22 студзеня 1919 году*.

Як вынікае зь дзёньніка А. Луцкевіча (гл. у: *БЗВ*), у асноўным тэкст мэмарыялу быў напісаны 8.01.1919 г. Пазьней ён дапрацоўваўся. 4.02.1919 г. з тэкстам мэмарыялу ў Парыж выехаў ген. Ц. Кандратовіч. У лісьце “Яго Міласьці пану Маршалку Рады Рэспублікі Язэпу Лёсіку ў Менску” (гл. у: *БЗВ*) А. Луцкевіч паведамляў, што мэмарыял разам з нотамі Ураду БНР быў уручаны ў Парыжы “Канфэрэнцыі і ўсім урадам дзяржаў Антанты”. Пасьля ўручэньня мэмарыялу дэлегацыі БНР быў дазволены прыезд у Парыж.

П. з. “Мэмарандум Савета Народных Міністраў БНР старшыні Парыскай мірнай канфэрэнцыі” дак. надрукаваны ў: *ЗПБ*. Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

Пераклад на францускую ня выяўлены.

Адной з крыніцаў гэта дак. быў Мэмарыял беларускіх дэлегатаў на мірныя перагаворы ў Берасьці А. Цьвікевіча і С. Рак–Міхайлоўскага ад 25.02.1918 г. (гл.: *Нт*. 1918. 9 крас.).

[1] Аб колькасьці беларускага насельніцтва гл. у арт. “Национальное возрождение белорусов”, “Белорусы”, “Донос”, “Рэфэрат беларускай дэлегацыі на Лязанскай канфэрэнцыі народаў Расеі” ды інш. працах А. Луцкевіча.

---

[20] У вышэйцытаванай пастанове Рада Ўсебеларускага зьезду прадпісвала Выканкаму, каб створаная ім улада мела назву “ПРАВИТЕЛЬСТВО НАРОДНЫХ КОМИССАРОВ”.

[21] НАРБ, ф. 325, воп. 1, адз. захав. 2, арк. 1; тамсама, адз. захав. 16, арк. 56.

[22] Тамсама, адз. захав. 16, арк. 56адв.

[23] Гл.: *БЗВ*. С. 167.

[24] Копія адказу захоўваецца ў LMAB: ф. 21, спр. 320, арк. 42. На ёй рукою А. Луцкевіча пазначана: “Атрымана 23.III.1918”.

[25] Гл. запрашэньне на паседжаньне Рады БНР 24.03.1918 у: *Архівы БНР*. Т. I. Кн. 1. С. 62.

[2] *...у... “Літоўскім Статуце”...* — Гл. заўвагу 1 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[3] *Ужо ў 1518 г. беларусы мелі друкаваную Біблію ў роднай мове.* — Псалтыр надрукаваны 6.08.1517 г.

[4] *Беларусь была цалкам прылучана да Расеі ў 1793 г.* — Большая частка Беларусі (безь Беластоцкае вобласьці) была далучана да Расеі ў 1795 г. У 1807 г. Напалеон перадаў з Прусіі ў склад Расеі і Беластоцкую вобл.

[5] *...забараняючы друкаваць кніжкі па–беларуску (у 1865 г.)...* — Гл. заўвагу 11 да арт. “Белорусы”.

[6] *Толькі напярададні сусьветнае вайны ў часьці Беларусі было заведзена земскае самаўпраўленьне, а Віленшчына і Гродзеншчына... асталіся безь яго.* — Гл. заўвагу 12 да арт. “Белорусы”.

[7] *У марцы ў Менску адбыўся... зьезд..., на якім быў заснованы Беларускі Нацыянальны Камітэт.* — На ўвазе маецца зьезд беларускіх нац. арганізацый 25—27.03(7—9.04).1917 г. Пратакол зьезду гл. у: *ЛіМ*. 1990. 14 сьнеж.

[8] *...Цэнтральная Рада беларускіх арганізацый і партый...* — Цэнтральная Рада створана на зьезьдзе беларускіх нац. арганізацыяў і партыяў 8—10(21—23).07.1917 г.

[9] *Пасьля трэцяе сэсіі Цэнтральнае Рады беларускіх арганізацый і партый у кастрычніку 1917 г.* — 15(28).10—24.10(6.11).1917 г. адбылася 2–я сэсія Цэнтральнае Рады.

[10] *...армейскія зьезды на ўсіх фронтах...* — 18—24.10(31.10—6.11).1917 г. у Менску адбыўся беларускі вайск. зьезд Заходняга фронту, 12–й арміі Паўночнага фронту і Балтыйскага флёту, 15—20.11(28.11—03.12).1917 г. у Віцебску — зьезд Паўночнага фронту, 03—08 (16—21).12.1917 г. у Адэсе — зьезд Румынскага фронту, 17—22.12.1917 г. (30.12.1917—04.01.1918) у Кіеве — зьезд Паўднёва–Заходняга фронту.

[11] *...два зьезды беларусаў–бежанцаў у Маскве і адзін у Менску...* — У Маскве зьезды бежанцаў адбыліся 24—27.09(7—10.10) і 19—21.11(2— 4.12) 1917 г. Зьезд у Менску невядомы.

[12] *...зьезды вучыцялёў...* — Вядомы зьезд настаўнікаў Менскае губ., які прайшоў 15—26.05(28.05—8.06).1917 г.

[13] *...заснаваньне Вялікай Беларускай Рады...* — Вялікая Беларуская Рада заснавана на 2–й сэсіі Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацыяў і партыяў (гл. заўвагу 9).

[14] *...Беларускай Цэнтральнай Вайсковай Рады...* — ЦБВР (інакш — Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада) створана на беларускім зьезьдзе Заходняга фронту, 12–й арміі Паўночнага фронту і Балтыйскага флёту ў Менску. Тады ж абраны Часовы Выканаўчы Камітэт ЦБВР на чале з С. Рак–Міхайлоўскім. Выканкам папаўняўся прадстаўнікамі іншых франтоў, абранымі на франтавых зьездах беларусаў (гл. заўвагу 10).

[15] *...скліканьне Ўсебеларускага зьезду з устаноўчымі функцыямі ў Менску 18 сьнежня 1917 году.* — Усебеларускі зьезд адбыўся 5—18(18—31).12.1917 г. А. Луцкевіч па–рознаму ацэньваў яго значэньне. Ён называў зьезд то Ўстаноўчым Соймам (успаміны “25 марца 1918 году”), то Канстытуантаю (лекцыя “Напевы ліры Янкі Купалы”[26]). Пішучы ў гэтым мэмарыяле, што зьезд меў устаноўчыя функцыі, у арт. “Палітычныя лёзунгі беларускага руху” А. Луцкевіч адзначаў, што зьезд “меў запраўдны характар Нацыянальнага Кангрэсу”.

[16] *Зьезд, выяўляючы сувэрэнную волю Беларускага народу, пастановай 31 сьнежня 1917 году ўстанавіў рэспубліканскі дэмакратычны лад... і выбраў найвышэйшую ўладу Беларусі: Раду Ўсебеларускага зьезду, якая у свой чарод пасьля аддала спаўняючую ўласьць у старонцы Радзе Народных Міністраў.* — Гл. заўвагу 1 да арт. “Незалежная Беларусь”.

---

[26] Гл.: *ПКЛіМ*. С. 244.

Рада Народных Міністраў БНР створана 11.11.1918 г. і заступала на месца Народнага Сакратарыяту, створанага 20.02.1918 г. Старшынёю Рады Народных Міністраў і мін. замежных спраў стаў А. Луцкевіч.

[17] *...адкрываючы вучыцельскія сэмінарыі...* — Магчыма, на ўвазе маюцца Беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні, якія пачалі працаваць з 15.12.1915 г.[27], а таксама курсы ў Сьвіслацкай настаўніцкай сэмінарыі. (Заняткі ў Сьвіслацкай настаўніцкай сэмінарыі пачаліся 15.10.1916 г. Першы набор вучыўся 3 мес., наступныя — па 6 мес. Сэмінарыя працавала да 15.11.1918 г. Падрыхтавала 144 настаўнікі[28].)

[18] *25—26 студзеня 1918 году беларусам зь вялікім трудом удалося склікаць у Вільні нацыянальную канфэрэнцыю...* — На ўвазе маецца Беларуская канфэрэнцыя 25—27.01.1918 г., якая сфармавала БРВ. Гл. арт. “Краёвая Рада Літвы” і “Пасьля Канфэрэнцыі” (у кн.: *БЗВ*), а таксама камэнт. да іх.

[19] *Канфэрэнцыя высказалася за адбудову незалежнай фэдэрацыйнай Беларуска–Літоўскай дзяржавы, аб’яднанай зь незалежнай Латвіяй, прызываючы да еднасьці і заакопную ўсходнюю Беларусь...* — Гл. арт. “Палітычныя лёзунгі беларускага руху”, “Зь беларускага палітычнага архіву” і “Рэзалюцыі Беларускай Канфэрэнцыі 25, 26, 27 студня 1918 г. у Вільні”.

[20] *...старой нямецкай акупацыі...* — “Старой акупацыяй” (раёнам старой акупацыі) называлі беларускія землі, акупаваныя Нямеччынай да 18.02.1918 г.

[21] *...цэнтральная ўстанова беларускай дзяржаўнай уласьці, прыняўшай пад той час імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі...* — Гл. заўвагу 1 да арт. “Незалежная Беларусь”.

[22] Дэлегацыя БРВ прыехала ў Менск праўдападобна 22.03.1918 г. У склад дэлегацыі ўваходзілі А. Луцкевіч, І. Луцкевіч, Я. Станкевіч, Д. Сямашка і Я. Туркевіч. (Гл. успаміны А. Луцкевіча “25 марца 1918 году”.)

[23] *Калі ж акт 25 марца быў пададзен нямецкаму ўраду, апошні ў афіцыяльным адказе заявіў, што... пытаньне аб Беларусі ён лічыць унутранай справай Расеі...* — Гл. заўвагу 3 да арт. “Незалежная Беларусь”.

[24] *...маніфэстам з 1 студзеня 1919 году...* — Насамрэч Маніфэст Часовага работніча–сялянскага савецкага ўраду Беларусі быў падпісаны 2.01.1919 г., што занатавана і ў дзёньніку А. Луцкевіча (гл.: *БЗВ*. С. 496).

## *Палітычныя лёзунгі беларускага руху (с. 95)*

Друкуецца паводле: *Зборнік “НН”*, дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. *Ант. Навіна*.

Арт. напісаны і надрукаваны да ліпеньскага (1920) наступу Чырвонае Арміі на савецка–польск. фронце, бо ў ім ня згадваюцца заключэньне мірнае дамовы паміж РСФСР і Літоўскаю Дэмакратычнаю Рэспублікаю (12 .07.1920 г.) і Дэклярацыя аб абвяшчэньні незалежнасьці ССРБ (31.07.1920 г.).

Тэксты Ўнівэрсалу Канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага і 3–е Ўстаўное граматы Рады БНР спраўджаныя зь іх публікацыямі ў: Архівы БНР. Т. I. Кн. 1. С. 851, 62—63.

[1] А. Луцкевіч мае тут наўвеце прадмову Ф. Багушэвіча да ягонага зб. “Дудка беларуская” (1891). Аднак раней (у 1884 г.) Беларуская фракцыя партыі “Народная Воля” ў час. “Гомон” сфармулявала як мэту сваёй барацьбы дасягненьне для Беларусі статусу

[27] БДАМЛМ, ф. 3, воп. 3, адз. зах. 126, арк. 8.

[28] Siemakowicz M. Polityka władz rosyjskich, niemickiech i polskich wobec szkolnictwa białoruskiego w latach 1903—1922 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1997. Nr 7.

аўтаноміі ў складзе Расейскае дэмакратычнае фэдэратыўнае рэспублікі. Пішучы гэты арт., А. Луцкевіч яшчэ ня быў знаёмы з публікацыямі ў “Гомоне”.

[2] У нарысе Праграмы БСГ выказвалася жаданьне мець “незалежную рэспубліку дэмократычную”[29]. У Праграме, прынятай II зьездам партыі, было запісана, што “стремясь заменить самодержавный строй Российской империи Государственной федеративно–демократической республикой с свободным самоопределением и культурно–национальной автономией народностей, входящих в состав государства, БСГ выставляет требование автономии Белорусского края с местным сеймом в Вильне”[30].

[3] У 1904 г. БРГ выпусьціла 2 улёткі. Адна выйшла з чатырма подпісамі (ППС, БРГ, ЛСДП, латвійская с.–д.), другая — з двума (ППС, БРГ). Тэксты ўлётак гл. у: *Arche*. 2009. № 1,2. С. 37—40.

[4] Называючы Лютаўскую рэвалюцыю 1917 г. у Расеі Марцоваю (Сакавіцкаю), аўтар кіруецца грыгарыянскім календаром.

[5] Слова “бежанцы” ўзятае ў дзьвюкосьсе з тае прычыны, што ў 1915 г. вялікая колькасьць жыхароў заходніх беларускіх земляў была выселеная ў Расею і ўсходнебеларускія паветы гвалтоўна.

[6] Тыднёвыя газ. “Дзяньніца” і “Świetač” выходзілі з 1.11 па 31.12.1916 г. у Пецярбургу. Выданьне іх было спынена дзеля фінансавых цяжкасьцяў і цэнзурных перашкодаў.

[7] *...фельмаршалак Гіндэнбург у сваім загадзе аб школах даў прыказ, каб беларуская мова карысталася ўсімі правамі іншых краёвых моваў.* — Афіцыйны статус беларускай мове быў нададзены 22.12.1915 г. Сам дак. пра гэта быў апублікаваны 16.01.1916 г. (Гл. арт. “Прызнаньне правоў беларускае мовы падчас сусьветнае вайны” ў: *ПКЛіМ* і *БЗВ*.)

[8] *Беларускія школы, якія пачалі засноўвацца яшчэ ў канцы 1915 году (у Вільні), шыбка пашыраліся па ўсім краю.* — У арт. “Вільня, 1 студня 1918 г.” (*Нт*. 1918. 1 студз.), А. Луцкевіч пісаў, што “...чысло школ беларускіх сягае сотні”. У арт. “Аб беларускую гімназію” (*Нт*. 1918. 15 лют.) А. Луцкевіч удакладніў гэтую лічбу і пісаў, што неўзабаве лік народных школаў “дойдзе паўтара сотні”, а вучняў у іх будзе каля 6 000. У арт. “Вільня, 13 жніўня 1918 г.” (*Нт*. 1918. 13 жн.) ён жа пісаў, што “беларускія народныя школы дайшлі ў нас даволі вялікай цыфры — 150”. У бр. “Польская акупацыя ў Беларусі” і арт. “Дзесяцілецьце Беларускае школы” (гл. абедзьве працы ў: *БЗВ*) А. Луцкевіч пісаў, што ў заходняй частцы Беларусі пад канец нямецкае акупацыі было 153 школы. Гэтая лічба названая і ў *Зборніку “НН”* (с. 48).

[9] *...пачала выходзіць... часопісь “Гоман”.* — Пра абставіны адкрыцьця газ. “Гоман” і ўмовы яе працы гл. у арт. А. Луцкевіча “Замест адказу (Гістарычная спраўка)” у: *БЗВ*.

[10] *Быў выпушчан Унівэрсал...* — Гл. заўвагу 11 да “Рэфэрату Беларускае дэлегацыі на Лязанскай канфэрэнцыі народаў Расеі”.

[11] Гл. заўвагу 11 да “Рэфэрату Беларускае дэлегацыі на Лязанскай канфэрэнцыі народаў Расеі”.

[12] Гл. таксама с. 231—232 гэтага выданьня, у прыватнасьці пра паездку ў лютым 1917 г. беларуска–літоўскае дэлегацыі ў Бэрлін.

[13] *...1915 году. — У Зборніку НН* надрукавана: “1905 году”.

[14] Гл. с. 266 гэтага выданьня.

[15] *...“старой акупацыі”...* — Гл. заўвагу 20 да “Мэмарыялу Беларускага Ўраду”.

[16] *...першага беларускага нацыянальнага зьезду ў Менску, які адбыўся зара пасьля*

[29] *Белорусское движение.* С. 86.

[30] *Гісторыя Беларусі канца XVIII — пачатку XX ст.* С. 218. Тэкст Праграмы БСГ, надрукаваны ў гэтай кн., у пэўных дэталях адрозьніваецца ад тэксту, зьмешчанага ў: Шлюбскі А. Да гісторыі БСГ // *П*. 1925. № 5.

*марцовае рэвалюцыі 1917 году...* — Гл. заўвагу 7 да “Мэмарыялу Беларускага Ўраду”.

[17] У 1914—1924 гг. Санкт–Пецярбург называлі Петраградам.

[18] *Па ўсей Беларусі і на ўсім ваенным фронце адбываліся вялізарныя зьезды...* — Гл. заўвагу 10 да “Мэмарыялу Беларускага Ўраду”.

[19] *...Усебеларускі зьезд у Менску ў сьнежні 1917 году, каторы меў запраўдны характар Нацыянальнага Кангрэсу...* — Гл. заўвагу 15 да “Мэмарыялу Беларускага Ўраду”.

[20] На Ўсебеларускім зьезьдзе прагучаў лёзунг Беларускае Народнае Рэспублікі, але да яе абвяшчэньня не дайшло.

[21] *Была ўтворана Рада Рэспублікі як часовы правадаўчы орган і Рада Народных Міністраў як выканаўчы орган.* — Гл. заўвагу 16 да “Мэмарыялу Беларускага Ўраду”.

[22] *...дэлегаты Заходняе Беларусі...* — Гл. заўвагу 22 да “Мэмарыялу Беларускага Ўраду”.

[23] *...1 студзеня 1919 году...* — Гл. заўвагу 24 да “Мэмарыялу Беларускага Ўраду”.

[24] Пастанову аб перадачы Віцебскае, Магілёўскае і Смаленскае губ. у склад РСФСР, прынятую ЦК РКП(б) 16.01.1919 г., фармальна пацьвердзіў I Усебеларускі зьезд Саветаў (2—3.02.1919 г.). Паводле пастановы гэтага зьезду, у складзе ССРБ заставаліся Гарадзенская і Менская губ., а Віленская перадавалася ў склад ССРЛ.

[25] Пастанову, у якой Зьезду Саветаў ССРБ рэкамэндавалася прыняць рашэньне пра аб’яднаньне з ССРЛ, прыняў 16.01.1919 г. ЦК РКП(б). Пад ціскам старшыні УЦВК Я. Сьвярдлова, які прыехаў у Менск, 3.02.1919 г. I Усебеларускі зьезд Саветаў прадубляваў гэтую пастанову. ССРЛіБ была створана 27.02.1919 г. Была таксама створана КП(б) ЛіБ. Фактычна ССРЛіБ праіснавала да 25.07.1919 г. Спачатку — 14.07.1919 г. — ЦК РКП(б) вырашыў ліквідаваць СНК і Савет Абароны ССРЛіБ, а 25.07.1919 г. наркаматы ССРЛіБ былі ператвораныя ў аддзелы Менскага губэрнскага ВРК. Юрыдычна ССРЛіБ спыніла існаваньне 12.07.1920 г., калі РСФСР падпісала мірны дагавор зь Літоўскай Дэмакратычнай Рэспублікай. Пасьля гэтага — 31 ліп. — са згоды ЦК РКП(б) была прынятая Дэклярацыя аб абвешчаньні незалежнасьці ССРБ. КП(б)ЛіБ (створаная 6.03.1919 г.) праіснавала да 5.09.1920 г., калі на падставе пастановы ЦК РКП(б) пачалося стварэньне асобных кампартыяў Беларусі і Літвы. КП(б)Б была адноўленая на зьезьдзе 22—25.11.1920 г.

## *Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча (с. 104)*

Друкуюцца паводле: *Памяці...*, дзе апублікаваныя ўпершыню бяз подпісу.

Датуюцца годам першае публікацыі.

Надрукаваныя таксама ў: *Пра Івана Луцкевіча*.

[1] Ё. Амбразайціс служыў у Лібаве (Ліепая, Латвія) тэлеграфістам[31]. У дзень пахаваньня І. Луцкевіч прамаўляў над яго магілай.

[2] На ўвазе маецца фальварак Ракуцёўшчына (цяпер вёска ў Маладэчанскім раёне).

[3] Я. Б. Луцкевіч памёр 4.09.1895 г.

[4] *Ён арганізуе беларускі кружок...* — Маецца на ўвазе вучнёўскі гурток, удзельнікі якога “займаліся сацыяльнымі пытаньнямі” і вывучалі марксізм (гл. 171 і 222 с. гэтага выданьня, а таксама зваўвагу 9 да арт. “Национальное возрождение белорусов”).

[5] *...і раней былі спробы гуртаваць іх на нацыянальным грунце...* — Імаверна, аўтар мае на ўвазе і БРП.

[6] *...ён арганізуе Беларускі Кружок Народнае Асьветы...* — Дакладней было б сказаць, што І. Луцкевіч быў у ліку заснавальнікаў Кругу Беларускае Народнае Прасьветы і Куль-

[31] Гл. нэкралёг “Jonas Ambrozaitis” у: *Нт*. 1916. 23 чэрв.

туры. Асноўны цяжар працы гэтай арганізацыі ўзяў на сябе В. Іваноўскі, а І. Луцкевіч з братам заняўся стварэньнем БРГ.

[7] *...рэдагуе першую адозву кружка да грамадзянства Краю...* — Увосень 1902 г. зьявілася адозва "Да інтэлігенцыі", аднак яе падпісаў ня Круг беларускае народнае прасьветы і культуры, а БРП. За подпісам партыі яе надрукаваў часопіс польск. сацыялістаў "Przedświt" (1903. № 2). Як паведамляў А. Бурбіс[32], аўтарам адозвы быў студэнт Тэхналягічнага інстытуту ў Пецярбургу Л. Малецкі. З другога боку, Ю. Туронак лічыць, што вэрсія А. Бурбіса не вырашае пытаньня пра аўтарства, бо зьмест і пастуляты адозвы былі для Малецкага абыякавыя (пра гэта сьведчыць ягоны адыход пасьля заканчэньня інстытуту ад беларускага руху). Можна, аднак, меркаваць, піша Ю. Туронак, што "гэтая адозва была апрацаваная пры непасрэдным удзеле Вацлава Іваноўскага, бо закладзеныя ў ёй ідэі засталіся галоўным арыенцірам яго далейшай шматгадовай дзейнасьці"[33].

[8] *...ён арганізуе выдавецтва літаграфаванай аднаднёўкі "Калядная Пісанка", зьбірае і падгатаўляе да друку пасьмертную спадчыну Янкі Лучыны (Неслухоўскага), творы каторага пазьней выходзяць у зборнічку "Вязанка"...* — У 1903 г. перш быў надрукаваны зборнік Я. Лучыны, а пад канец году — "Калядная Пісанка". Як паказвае Л. Глагоўская (*Н*. 2001. 16 сьнеж.), "кніжачку беларускіх вершаў" Я. Лучыны дапамог паэту — "хаця пасьля сьмерці" — выпусьціць ягоны пляменьнік (сын ягонай сястры) А. Неканда–Трэпка, які вучыўся ў Пецярбургу адначасова з В. Іваноўскім і братамі Луцкевічамі і ўваходзіў у Круг беларускае народнае прасьветы і культуры, а з Луцкевічамі, да таго ж, быў амаль суседам у Менску.

[9] *...прыцягвае да літаратурнае працы аднаго зь першых супрацаўнікоў сваіх, Казіміра Кастравіцкага (Каганца)...* — Маецца на ўвазе, што Каганец стаў аўтарам "Каляднае Пісанкі" (1903) і "Велікоднае Пісанкі" (1904). Пісаць жа ён пачаў раней.

[10] ..."*Ukrainische Rundschau*"... — Ю. Туронак у *Н* за 21.06.1981 г. піша, што пад той час выходзіў часопіс "Ruthenische Rundschau", а "Ukrainische Rundschau" пачаў выходзіць з 1906 г. У сваю чаргу, А. Каваль у *Н* за 15.11.1981 г. сьцьвярджае, што перад "Ukrainische Rundschau" выходзіў часопіс "Ukrainische Revue". Кропку ў гэтай спрэчцы, здаецца, паставіў Ант. Адамовіч. Ён піша пра часопіс "Ruthenische Revue", у якім (у № 19 за першую палову кастрычніка 1904 г.) і быў зьмешчаны артыкул І. Луцкевіча "Das totgesagte Weissrussland". Назву гэтага артыкулу Ант. Адамовіч пераклаў як "Мёртваю абвешчаная Беларусь". Ён жа паведамляе, што гэты артыкул у сьнеж. 1904 г. надрукаваны ў часопісе "The Anglo–Russian" пад загалоўкам "The White–Russians. A Nation driven back into the Middle Ages under Muscovite rule" ("Беларусы. Нацыя, адкінутая назад у сярэднія вякі пад маскавіцкім панаваньнем"). Тэкст гэты, дадае Ант. Адамовіч, выявіў В. Кіпель[34].

[11] *Варочаючыся зь Вены, ён заяжджае ў... Львоў...* — У артыкуле "Мітрапаліт Шаптыцкі і беларускі рух" аўтар пісаў, што І. Луцкевіч наведаў Львоў, "калі ўвосень 1904 г. ехаў у Вену для папаўненьня там сваіх археалягічных ведаў" (гл. с. 160 гэтага выданьня).

[12] *...зыходзіцца з кіраўнікамі PPS (Польскай партыі сацыялістычнай) і пры іх помачы ладзіць выданьне беларускіх сацыялістычных брашур за граніцай і дастаўку іх кантрабандай у Беларусь.* — Кантакты зь дзеячамі ППС, супольнае з гэтай партыяй друкаваньне літаратуры і дастаўка яе ў Беларусь былі наладжаны ў 1902 г.; у 1904—1905 гг. гаворка магла ісьці аб працягу супрацоўніцтва.

---

[32] Гл.: Весьнік Народнага Камісарыяту Асьветы СРРБ (дадатак да час. "Вестник Народного Комиссариата Просвещения"). 1921. № 1. С. 7.

[33] Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 161.

[34] Гл.: Адамовіч Ант. "Як дух змаганьня Беларусі": (Да 100–х угодкаў нараджэньня І. Луцкевіча). Нью–Ёрк: Выданьне газ. "Беларус", 1983. С. 25—26.

[13] *...у пачатку 1905 году, Іван Луцкевіч... атрымлівае... мандат на зьезд прадстаўнікоў сацыялістычных партый ў Фінляндыі.* — У сак. 1905 г. канфэрэнцыя нац. сацыялістычных партыяў Расеі праходзіла ў Жэнэве[35]. Што датычыць канфрэнцыі 1905 г. у Фінляндыі, дык пра яе дакладных зьвестак няма. Пра тое, што "зьезд прадстаўнікоў рэвалюцыйных партый усіх нацыянальнасьцяў Расейскага гаспадарства" адбыўся ў 1905 г., мы можам прачытаць і ў Луцкевічавым рукапісе 1922 г., які захоўваецца ў БДАМЛМ (ф. 3, воп. 1, адз. зах. 261, арк. 17). Што праўда, аўтар не называе ні месяца, ні пары году, калі праходзіў зьезд. У апублікаваным жа бяз подпісу артыкуле "Ад летуценьняў — да дзела"[36] Луцкевіч (зноў жа, не называючы ні месяца, ні пары году) пісаў, што гэтая сустрэча адбылася ў 1904 г. Ант. Адамовіч[37] піша пра гэтую канфэрэнцыю як пра падзею, што мела месца, спасылаючыся на А. Луцкевіча і датуючы яе 1905 годам. Затое ён падае канкрэтныя дэталі канфэрэнцыі, што адбылася ў Фінляндыі ў крас. 1907 г.

[14] *Гэта — першае міжнацыянальнае выступленьне адраджаючагася беларускага народу...* — Першы раз БРГ была запрошана на канфэрэнцыю нац. сацыяліст. партыяў Расеі, якая праходзіла ў верас. 1904 г. у Парыжы, аднак свайго прадстаўніка зь нейкіх прычынаў партыя не паслала. У кастр. 1904 г. БСГ (ужо БСГ) далучылася да рэзалюцыяў Парыскай канфэрэнцыі[38].

[15] *У Фінляндыі на зьезьдзе Іван Луцкевіч сустракаецца з прадстаўнікамі ірляндцаў...* — Пра гэта аўтар пісаў таксама ў арт. "Ад летуценьняў — да дзела" і ў рукапісе, які захоўваецца ў БДАМЛМ (гл. заўвагу 13).

[16] *...ён увосені 1905 году, нягледзячы на казацкія кардоны, прарываецца ў адну з найвялікшых фабрык і гудком дае сыгнал пачаць другую ўсерасейскую палітычную забастоўку.* — І. Луцкевіч пад выглядам заказчыка праехаў на менскі завод Якабсона (гл. с. 176 гэтага выданьня). Гаворка павінна ісьці пра пачатак зімы 1905 г., бо другі ўсерасейскі паліт. страйк адбыўся ў сьнеж. (у Маскве і некаторых іншых гарадох ён перарос у збройнае паўстаньне).

[17] *У канцы 1905 году ў Менску адбыўся партыйны зьезд БРГ...* — У літаратуры маюцца дзьве асноўныя вэрсіі што да часу правядзеньня II зьезду БСГ: канец 1905 і пачатак 1906 г. Сьвятло праліваюць успаміны Я. Хлябцэвіча "Цётка" (*П.* 1924. № 3), у якіх ён пісаў, што зьезд адбыўся ў студзені 1906 году "ў часе калядных канікул". Калі ўзяць пад увагу, што Каляды, якія ў 1905 г. паводле ст. ст. прыпадалі на 25 сьнеж., у 1924 г. належала (паводле н. ст.) датаваць 7.01.1906 г., дык слушныя абедзьве вэрсіі.

[18] Гл. заўвагу 13 да арт. "Национальнае возрождение белорусов".

[19] *...ён у лютым 1906 году асеў у старадаўняй сталіцы краю.* — І. Луцкевіч выехаў у Вільню ў канцы студзеня 1906 г., а "здаецца, 2 лютага 1906 году" (гл. с. 181 гэтага выданьня) у Вільню пераехаў А. Луцкевіч.

[20] Дорпат (ням. Derpt) — назоў гораду Тарту. У часы расейск. панаваньня ў Эстоніі горад называлі таксама Юр'евам.

[21] Гл. заўвагу 19 да арт. "Национальное возрождение белорусов".

[22] *...скасаваньне ў 1905 годзе трываўшае ад 1865 году забароны беларускага друку.* — Гл. заўвагу 11 да арт. "Белорусы".

[23] *...калекцыю ордэраў.* — Калекцыю ордэнаў (польск. order — ордэн). З успамінаў Ф.

---

[35] Гл.: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 175.

[36] Іскра. 1925. 31 траўня.

[37] Гл.: Адамовіч Ант. "Як дух змаганьня Беларусі"... С. 16—18.

[38] Гл.: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 62—63, 174.

Умястоўскага “Аб “Нашай Долі”[39], апублікаваных пад псэўд. Дзядзька Пранук, вынікае, што выданьне газэты фінанасаваў Я. Тукеркес. У арт. “1906 — 14/IX — 1926” А. Луцкевіч не вяртаецца да сюжэту пра калекцыю ордэнаў, а ў паведамленьнях А. Шлюбскаму[40] проста піша, што першы нумар *НД* выйшаў за грошы Я. Тукеркеса. Можна меркаваць, што грошы, атрыманыя за калекцыю ордэнаў, былі выдаткаваныя на выданьне *НН*.

[24] *Калі ж, пасьля безупынных канфіскацый, судовы прыгавор зьліквідаваў “Нашу Долю”, — з ініцыятывы і за грошы Ів. Луцкевіча заснавалася “Наша Ніва”...* — *НН* была заснаваная да фармальнае забароны *НД*.

[25] Беларускі хор і тэатральная дружына былі заснаваныя ў Вільні ў 1909 г. Мастацкімі кіраўнікамі хору былі Л. Рагоўскі і М. Кімант, а адміністратарам — А. Бурбіс. 22.02.1910 г. на этнаграфічнай вечарыне ў Вільні хор дэбютаваў. Тэатральная дружына, арганізацыяй якой таксама займаўся А. Бурбіс, дэбютавала 12.02.1910 г. на першай беларускай вечарыне ў Вільні.

[26] Беларускі музычна–драматычны гурток быў заснаваны 9.05.1911 г.

[27] І. Луцкевіч меў непасрэднае дачыненьне да выдавецтва “Нашае Нівы” (1907—1913), выдавецтва “Наша Хата” (1908—1911) і Беларускага выдавецкага таварыства (з 1913).

[28] Гл. заўвагу 1 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[29]*...замэльдаваліся...* — Тут: прапісаліся (ад польск. *zameldować się*).

[30] *...і толькі дзякуючы шчасьліваму здарэньню гаспадары кватэры... не папалі ў рукі паліцыі...* — Гл. с. 185—186 гэтага выданьня.

[31] *У чэрвені 1908 году... едзе ў Прагу Чэшскую на Ўсеславянскі зьезд паступовых студэнтаў...* — Пра Ўсеславянскі зьезд прагрэсыўных студэнтаў гл.: *НН*. 1908. 4(17) ліп.

[32] На ўвазе маюцца Беларусь і Літва.

[33] Газэта “Kurjer Krajowy”, як і заснаваная ў тым самым годзе “Вечерняя газета”, была неафіцыйным органам БСГ.

[34] Towarzystwo Przyjaciół Nauk — Таварыства прыяцеляў навук.

[35] *...задэпанаваў... багатую калекцыю жыдоўскіх антыкаў...* — У БДАМЛМ (ф. 3, воп. 1, адз. зах. 260, арк. 15—16) захоўваюцца пасьведчаньне Таварыства аматараў жыдоўскай старасьвеччыны аб тым, што яно прыняло ад І. Луцкевіча ў дэпазыт 9 прадметаў, і вопіс гэтых прадметаў.

[36] *Кустош* (польск. kustosz) — захавальнік (музэю, бібліятэкі). Грамата мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага аб тым, што І. Луцкевіч зьяўляецца кустошам беларускага аддзелу Царкоўнага музэю ў Львове, захоўваецца ў БДАМЛМ: ф. 3, воп. 1, адз. зах. 269, арк. 3.

[37] “*Lietuvių Tauta*” — “Літоўскі народ”.

[38] “*Rocznik Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie*” — “Гадавік Таварыства прыяцеляў навук у Вільні”.

[40] Divide et impera — дзялі і пануй.

[41] *Першы “ўнівэрсал”, выданы Канфэдэрацыяй у чатырох мовах (у сьнежні 1915 году)...* — Тэкст Унівэрсалу Тымчасовай Рады Канфэдэрацыі Вялікага Княства Літоўскага гл. на с. 98 гэтага выданьня.

[42] *Ужо ў лістападзе 1915 году адкрываецца ў Вільні першая беларуская пачатковая школа, сьледам за каторай у 1916 г. прыбывае яшчэ пяць.* — Па стане на 16.12.1915 г. у Вільні былі адчыненыя дзьве беларускія школы: на Лукішках (Сьвята–Юрскі праспэкт,

---

[39] Гл.: Беларусь. 1919. 17 сьнежня; “Беларускія Ведамасьці”. 1921. 26(13) верасьня. Гэтыя ўспаміны ў скароце перадрукаваныя ў кн.: Цётка. Выбраныя творы. Мн.: Беларускі кнігазбор, 2001. Праўда, у публікацыі паказана, што першы нумар “Нашае Долі” выйшаў накладам 1000 асобнікаў; насамрэч (пра гэта пісалі і Ф. Умястоўскі, і А. Луцкевіч) было надрукавана 10 000 асобнікаў: 5 000 лацінкаю і 5 000 кірыліцаю.

[40] Гл.: *ПКЛіМ*. С. 204—206.

44) і на Антокалі (вул. Антокальская, 23). У канцы 1915 ці на пачатку 1916 г. была адчыненая школа на Сьніпішках (вул. Артылерыйская, 1)[41].

43 6–тыднёвыя настаўніцкія курсы на Лукішках (Сьвята–Юрскі праспэкт, 44) працавалі ад 15.12.1915 г.[42]

44 Адзін з запісаў А. Луцкевіча (БДАМЛМ, ф. 3, воп. 1, адз. зах 139, арк. 19) дае падставу меркаваць, што Беларуская Сацыял–Дэмакратычная Работніцкая Група (Беларуская Сацыял–Дэмакратычная Група (БСДГ), Беларуская Работніцкая Група) была заснаваная 6.01.1916 г. Як паказваюць крыніцы, у 1917 г. дзейнічаў і Віленскі камітэт БСГ.

45 *Anlehung an Deutschland* — апора на Нямечыну.

46 Як вынікае з артыкулу А. Луцкевіча "Ўваскросшы праект"[43], на старой расейска–нямецкай мяжы немцы адабралі ў дэлегатаў Беларускага Народнага Камітэту (імі былі І. Луцкевіч і В. Ластоўскі) "Рэфэрат Беларускае дэлегацыі на Лязанскай канфэрэнцыі народаў Расеі" (гл. с. 78—81 гэтага выданьня), у якім утрымлівалася ідэя Злучаных Штатаў ад Балтыйскага да Чорнага мора. І. Луцкевіч, мабыць, выклаў удзельнікам Лязанскай канфэрэнцыі асноўныя ідэі рэфэрату, што і выклікала непрыхільнае стаўленьне да яго акупантаў.

47 Пра Э. Зузэміля гл.: Ильин А. Роль пинчанина Эдмунда Зуземиля в белорусском национальном движении // Пинск в современной Беларуси. Пінск, 2004; Пашкевіч А., Чарнякевіч А. "Стары нямецкі агент" ці "Бацька радзіміцкага народу"? // Arche. 2005. № 4.

48 *Presse–Stelle* — ведамства (управа) друку.

49 *...ён знаходзіць памочніка ў адным зь беларусаў...* — На ўвазе маецца В. Ластоўскі.

50 *...нямецкі ўрад пачынае падгатоўку арганізацыі літоўскае Тарыбы...* — Літоўская канфэрэнцыя, якая абрала Тарыбу, адбылася 18—23.09.1917 г.

51 *...начальніка ўпраўленьня Літвы...* — Акупаваныя немцамі беларускія і літоўскія землі, акрамя прыфрантавой паласы і тэрыторыі на поўдзень ад Белавескай пушчы , на час правядзеньня Літоўскае канфэрэнцыі былі падзеленыя на дзьве акругі: Літва (Litauen) зь беларускімі і літоўскімі землямі ды цэнтрам у Вільні і Беласток–Гродна (Białastok–Hrodna). Улада ў акругах належала вайсковым адміністрацыям (Militärverwaltung'ам), на чале якіх стаялі начальнікі (шэфы).

52 *...Зузэміль мае ўжо гатовага кандыдата...* — Гл. заўвагу 49.

53 *На сацыялістычным мітынгу, скліканым сацыялістычнымі партыямі...* — Мітынг сацыяліст. і дэмакратычных арганізацыяў адбыўся 16.09.1917 г. — напярэдадні Літоўскай канфэрэнцыі. Рэзалюцыя мітынгу надрукаваная ў: *БЗВ*. С. 142.

54 *...пад маршалкоўствам Івана Луцкевіча адбываецца другі мітынг — спэцыяльна беларускі...* — Гэты мітынг адбыўся 30.09.1917 г. Рэзалюцыя мітынгу надрукаваная ў: *БЗВ*. С. 144.

55 Арганізацыйны камітэт дзеля скліканьня Беларускае Канфэрэнцыі. паведамляў аб сваім заснаваньні афіцыйна 17.11.1917 г.[44], 20.11.1917 г. *Г* пісаў, што "пытаньне аб Беларускай Канфэрэнцыі разьвязана памысна", а 23 лістап. у газ. быў апублікаваны пэрсанальны склад прэзыдыюму Аргкамітэту.

56 *...у межах старой акупацыі...* — Гл. заўвагу 20 да "Мэмарыялу Беларускага Ўраду".

57 *...ён з чатырма таварышамі едзе ў Менск...* — Гл. 22 да "Мэмарыялу Беларускага Ўраду".

58 *"Цяпер мы, старыя работнікі беларускія, можам спакойна паміраць: ёсьць каму замяніць нас у працы!"* — Гл. таксама на с. 120 гэтага выданьня.

---

[41] БДАМЛМ, ф. 3, воп. 1, адз. зах. 126, арк. 8.

[42] Тамсама.

[43] Гл.: *БЗВ*. С. 319.

[44] Гл: тамсама. С. 147.

[59] *Падарожа ў Менск у сільны мароз у нятопленых вагонах...* — Я. Станкевіч сьцьвярджае, што дэлегацыя ехала зь Вільні ў Менск у грузавым аўто[45].

[60] *Ён яшчэ працуе ў Беларускай Радзе...* — На ўвазе маецца БРВ, або Віленская Беларуская Рада, абраная Беларускай канфэрэнцыяй 25—27.01.1918 г.

[61] *...створанае ім жа Беларускае навуковае таварыства...* — БНТ было заснавана на Беларускай канфэрэнцыі 26.01.1918 г. Першым яго старшынёю быў К. Шафнагель[46].

[62] Выстаўкі адбыліся ў 1918 г. 6.09.1918 г. І. Луцкевіч апублікаваў у *Г* артыкул "Аб беларускім мастацтве (Думкі з прычыны выстаўкі ў Менску)".

[63] *...Рада дэлегуе шасьцёх членаў сваіх у Тарыбу...* — 27.11.1918 г. у склад Літоўскай Тарыбы, акрамя І. Луцкевіча, былі дэлегаваныя: В. Ластоўскі, Я. Станкевіч, Д. Сямашка, кс. Уладзіслаў Талочка і К. Фалькевіч[47]. Як піша Я. Станкевіч, сябрам Тарыбы быў Я. Туркевіч[48]. Ня выключана, што ён замяніў К. Фалькевіча.

[64] Мін. беларускіх справаў у літоўскім урадзе стаў Я. Воронка.

[65] *...і вось ён... пакідае Тарыбу...* — Чарнавік заявы І. Луцкевіча і Я. Станкевіча ад 21.12.1918 г. аб выхадзе зь Дзяржаўнае Рады Літвы захоўваецца ў БДАМЛМ: ф. 3, воп. 1, адз. зах. 260, арк. 12. Чарнавік мае папраўкі, зробленыя рукою А. Луцкевіча.

[66] *...першая беларуская гімназія у Вільні...* — Да Віленскае беларускае гімназіі ўжо існавалі беларускія гімназіі ў Слуцку і Будславе. З усіх беларускіх сярэдніх навучальных установаў такога тыпу Віленская гімназія працавала найдаўжэй.

[67] *...зьяўляюцца бальшавікі дзеля арышту яго.* — Ю. Вітан–Дубейкаўская піша, што бальшавікі двойчы ўчынялі вобыскі ў І. Луцкевіча. Першы вобыск, мэтаю якога былі беларускія архівы, аўтаркаю не датаваны. Яна піша, што гэта было пасьля ад'езду А. Луцкевіча зь Вільні ў Горадзен, аднак месяцам ад'езду называе люты[49]. Між тым, з дакумэнтаў вядома, што ў Горадзен А. Луцкевіч вярнуўся напярэдадні або ў дзень 10.03.1919 г.[50] Значыць, першыператрус мог адбыцца ў сак. Другі раз чэкісты прыйшлі "па Івана"[51]. Вітан–Дубейкаўская піша, што гэта адбылося 16.04.1919 г., аднак у БДАМЛМ (ф. 3, воп. 1, адз. зах. 260, арк. 13) маецца копія пратаколуператрусу, учыненага ў кватэры І. Луцкевіча 18.04.1919 г.

[68] У 1991 г. І. Луцкевіч сымбалічна перапахаваны ў Вільні на Росе.

## *Адраджэньне нацыі (с. 115)*

Друкуецца паводле: *НДумка*. 1920. 31 сьнеж., дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. Антон Навіна.

Пад тэкстам дата: *Вільня, 1920.*

Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

Цытата з Статуту Вялікага Княства Літоўскага спраўджана паводле выданьня: Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камэнт. — Менск, 1988.

Вылучэньні ў цытаце належаць А. Луцкевічу. Аўтар не зусім карэктна трактуе сэнс арт. 1 разьдзелу першага Статуту. Вялікі князь у гэтым артыкуле абяцае толькі тое, што ў дачыненьні да "всих подданых наших и всих станов" будзе кіравацца адно пісанымі законамі і артыкуламі, якія маюцца "в том же статуте". Кіравацца пісанымі законамі —

[45] Гл.: *Пра Івана Луцкевіча*. С. 63, 64.

[46] Гл.: *БЗВ*. С. 434.

[47] Гл: Пратакол агульнага паседжаньня Беларускае Рады ў Вільні ад 24.11.1918 г. (БДАМЛМ, ф. 3, воп. 1, адз. зах. 140, арк. 33—34).

[48] Гл.: *Бацькаўшчына*. 1958. 11 тр.

[49] Гл.: Вітан–Дубейкаўская Ю. Мае ўспаміны. Вільня, 1994. С. 122—123.

[50] НАРБ, ф. 325, воп. 1, адз.зах. 22, арк. 44.

[51] Вітан–Дубейкаўская Ю. Мае ўспаміны. С. 132.

Статутам — абавязаныя таксама і падданыя. Пісаны закон, паводле аўтара прадмовы да Статуту Л. Сапегі, павінен засьцерагчы ад тыраніі і гарантаваць унутраны спакой дзяржавы. Статутам уводзіліся важныя нормы прававой дзяржавы: ніхто ня можа патрабаваць ад чалавека рабіць тое, чаго яму не прадпісвае закон; ніхто ня можа пакараць чалавека ў абыход закону. Аб роўнасьці падданых перад законам — пра аднолькавыя правы і абавязкі станаў, пра аднолькавыя меры пакараньня прадстаўнікоў розных станаў за адно і тое ж правапарушэньне — гаворкі ў Статуце няма.

Пра погляды А. Луцкевіча на Статут ВКЛ гл. арт. “Чатырохсотлецьце першага кодэксу беларускага права (1529—1929)” у: *БЗВ*.

[1] У *НДумцы* далей ідзе слова “польскі”.

[2] *...дэмас, сялянства і дробнае мяшчанства...* — Гл. заўвагу 2 да арт. “На дарозе да новага жыцьця”.

[3] *...пасьля волі...* — Пасьля скасаваньня прыгоннага права ў 1861 г.

[4] *...расейскі ўрад... забараняў прынімаць у гімназіі “кухаркіных дзяцей”...* — Цыркуляр мін. народнае асьветы пра недапушчэньне ў гімназіі “кухарчыных дзяцей” быў выдадзены 18.06.1887 г. Ён сустрэў рэзкае асуджэньне грамадзтва.

[5] *На ўсім сьвеце людзі былі ўжо вольны...* — Аўтар мае на ўвазе хутчэй за ўсё Заходнюю Эўропу. У ЗША ў 1861 г. яшчэ існавала рабства.

[6] Так у *НДумцы*. Мусіла б быць “паляпшаецца”.

[7] *У канцы 80–х і пачатку 90[–х] гадоў мы бачым закладзіны першых беларускіх дэмакратычных арганізацыяў з нацыянальным духам...* — А. Луцкевіч у час напісаньня гэтага арт. меў яшчэ цьмянае ўяўленьне пра беларускае народніцтва. Грунтоўным вывучэньнем яго ён заняўся ў 1930–х гг.

[8] *У канцы 90–х гадоў арганізуюцца ўжо гурткі школьнае моладзі...* — Гл. заўвагу 9 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[9] *...Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады — першай беларускай палітычнай партыі...* — БРГ папярэднічала спроба стварыць БРП.

[10] Гл. заўвагу 1 да працы “Плян работы”. Газ. “Biełarus” была цэнтрам, вакол якога гуртавалася частка правых — будучых беларускіх хадэкаў. У той жа час у беларускім руху пачала фармавацца і нацыяналістычная плынь, да якое належаў В. Ластоўскі.

[11] *...моцную* хрысьціянска–дэмакратычную арганізацыю *ў Менску...* — Мабыць, на ўвазе маецца тое, што на зьезьдзе беларускага каталіцкага духавенства ў Менску (24—25.05.1917 г.) была фактычна заснаваная Хрысьціянска–дэмакратычная злучнасьць, папярэдніца БХД.

[12] Інфармацыя пра тое, што В. Ластоўскі, В. Сьвятаполк–Мірскі, кс. У. Талочка і К. Шафнагель мелі намер стварыць нацыянальна–клерыкальную партыю, утрымліваецца ў пратаколе паседжаньня БРВ ад 26.05.1918 г.[52].

[13] *Расейская рэвалюцыя 1917...* — Гаворка пра Кастрычніцкую рэвалюцыю.

[14] Тут слова “мяшчанская” ўжыта ў значэньні “буржуазная” (па аналёгіі зь нямецк. der Bürger — гараджанін, грамадзянін, буржуа; bürgerlich|er — гарадзкі, грамадзянскі, буржуазны). Тое ж і ў польск. мове: mieszczański — мяшчанскі, буржуазны.

[15] Гаворка пра Беларускае народнае прадстаўніцтва (Менскае беларускае прадстаўніцтва) на чале з Р. Скірмунтам, у якое ўваходзілі і правыя (ня толькі хадэкі), і такія дзеячы, як А. Уласаў.

[16] Хутчэй за ўсё, гаворка ідзе пра Беларускую камуністычную арганізацыю (студз.—жн. 1920 г.), якая увайшла ў КП(б)Б. Беларускую камуністычную партыю спрабавалі ў 1919 г. стварыць Зьм. Жылуновіч і інш., але іх намер сустрэў адпор бальшавіцкае партыі і ня даў выніку. Беларускай камуністычнай партыяй іншы раз называла сябе ў 1919 г. і КП(б)Б.

---

[52] БДАМЛМ: ф. 3, воп. 1, адз. зах. 140.

## *25 марца 1918 году (З маіх успамінаў) (с. 118)*

Друкуюцца паводле: *НДумка*. 1921. 25 сак., дзе апублікаваныя ўпершыню.
З дадаткам ліста М. Краўцова надрукаваныя У. Ляхоўскім у: *Сп*. 1997. № 1.
Надрукаваныя таксама ў: *БЗВ*.

1 *Беларуская Рада ў Вільні... зараз жа пачала заходы перад акупантамі, каб дабіцца пазваленьня на падарожу спэцыяльнае дэлегацыі ў Менск*. — Рашэньне аб пасылцы дэлегацыі ў Менск Рада прыняла 24.02.1918 г. У склад дэлегацыі былі абраныя П. Кіршэўскі, браты Луцкевічы, Д. Сямашка і Я. Туркевіч. Пазьней П. Кіршэўскага ў дэлегацыі замяніў Я. Станкевіч.

2 Беларуская канфэрэнцыя 25—27.01.1918 г. выказалася за незалежнасьць ня ўласна Беларусі, а Беларуска–Літоўскага краю.

3 Гл. заўвагу 47 да ўспамінаў А. Луцкевіча “Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча”.

4 *...адзін зь віленскіх беларусаў...* — З Э. Зузэмілем супрацоўнічаў В. Ластоўскі[53]. Гл. таксама заўвагу 49 да ўспамінаў А. Луцкевіча “Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча”.

5 *...у нятопленых вагонах...* — Гл. заўвагу 59 да ўспамінаў А. Луцкевіча “Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча”.

6 *...на Ўстаноўчым Сойме Беларусі*. — Так А. Луцкевіч называе Ўсебеларускі зьезд (гл. заўвагу 15 да “Мэмарыялу Беларускага Ўраду”). Зьезд выказаўся за аўтаномны статус Беларусі ў складзе Расейскай дэмакратычнай фэдэратыўнай рэспублікі[54].

7 *...23 марца адбыўся пленарны сход членаў Грамады і зь незвычайнай аднадушнасьцю пастанавіў*: усе галасы свае ў Радзе падаць за незалежнасьць. — На пачатку паседжаньня фракцыі БСГ у Радзе БНР супраць абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі выказваўся М. Косьцевіч (гл. с. 189 гэтага выданьня).

8 *...у 6 гадзін...* — Гл. заўвагу 4 да арт. “Незалежная Беларусь”.

9 *...першым беларускім народным Парляманце!..* — Гл. заўвагу 2 да арт. “Незалежная Беларусь”.

10 *...старшыня Рады Рэспублікі...* — Гэтую пасаду займаў Я. Серада.

11 *...выступленьні сацыяліста–сіяніста Мар’ясіна...* — 15.04.1921 г. “Наша Думка” зьмясьціла ліст М. Краўцова з наступным удакладненьнем: “У артыкуле п. Ант. Луцкевіча “25 марца 1918 г.”... ёсьць маленькая абмылка, якую не адмоўце паправіць у інтарэсах гістарычнае праўды. У часе спрэчак у Радзе Рэспублікі ўночы з 24 на 25 сакавіка 1918 г. па пытаньні аб аглашэньні Беларусі незалежнаю да беларускіх аратараў далучыўся сваёю гарачаю прамоваю ў духу незалежнасьці прадстаўнік жыдоўскае партыі сацыялістых–сіяністых, але прозьвішча яго не Мар’ясін, а Мац, сябар Віцебскае арганізацыі с.–с. Прадстаўнікоў эсэсаў было тры ў Радзе Рэспублікі: Мац, Мар’ясін і Гутман (апошні былы таварыш Старшыні Народнага Сакратарыяту (Я. Варонкі)). Мар’ясін і Гутман стаялі за фэдэрацыю з Расеяй, і такім чынам трэці іх таварыш Мац адкалоўся ад іх, але, галасуючы як партыйны чалавек, мусіў пакарыцца іх большасьці, аб чым і заявіў пры галасаваньні”.

12 Аўтарам праекту Трэцяй Устаўнай Граматы Рады БНР быў А. Луцкевіч. Гл., напрыклад, яго артыкулы “Дывэрсанты” і “Палеміка” кс. Станкевіча” ў: *БЗВ*.

13 “*Ну, цяпер дык нам і паміраць ужо можна!..*” — Гл. таксама с. 112 гэтага выданьня.

---

53 Гл. ліст А. Луцкевіча Я. Варонку й Р. Скірмунту ў: *Архівы БНР*. Т. I. Кн. 1. С. 123—124.

54 Гл.: *Белорусское движение*. С. 106.

## *Дэмакратыя, пралетарыят і нацыянальнае пытаньне (с. 121)*

Друкуецца паводе: *НСьцяг*. 1923. 9 чэрв., дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. *К. Фалькевіч*.

Пра нац. палітыку У. Леніна, яго наступнікаў і Камінтэрну А. Луцкевіч пісаў у арт. "Вялікі Экспэрымэнтатар", "На паўдарозе", "Раскол у камуністаў", "Цень Азэфа", "Прычыны крызісу", надрукаваных у: *БЗВ*.

[1] Прадстаўнік буйнога капіталу, Г. Штынэс–малодшы фінансаваў А. Гітлера ды інш. рэваншыстаў.

[2] *...эўрапейская дэмакратыя народаў–пераможцаў вядзе такі ж недастойны паход проці адрадзіўшайся турэцкай дэмакратыі...* — У выніку 1–й сусьветнай вайны Асманская імпэрыя распалася. Пад уладай султана засталіся толькі землі, якія складаюць тэрыторыю сучаснай Турцыі. У 1919 г. пры падтрымцы Вялікабрытаніі, ЗША і асабліва Італіі ды Францыі вайну супраць Турцыі разьвязала Грэцыя, якая жадала далучыць да сваіх уладаньняў эўрапейскую частку Турцыі і тэрыторыю, прылеглую да Стамбула (Канстанцінопаля). Вайна супраць агрэсараў перарасла ў рэвалюцыю, якою кіраваў урад у Ангоры (Анкары). Пасьля выхаду з вайны Францыі ды Італіі турэцкі рэвалюцыйны ўрад з дапамогаю РСФСР нанёс Грэцыі паразу, а ў самой Турцыі была абвешчана рэспубліка (1923) і ліквідаваны халіфат (1924). Вынікам вайны стала таксама масавае выгнаньне грэкаў з Турцыі.

[3] *...аб вілсанаўскім прынцыпе самавызначэньня нацыянальнасьцяў...* — Ацэнка вілсанізму і ленінізму ў нац. пытаньні ўтрымліваецца ў арт. А. Луцкевіча "Дзьве дарогі" (гл. у: *БЗВ*).

[4] Гл. заўвагу 24 да арт. "Палітычныя лёзунгі беларускага руху".

## *Шкоднае непаразуменьне (с. 123)*

Друкуецца паводле: *НСьцяг*. 1923. 20 чэрв., дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. *К. Фалькевіч*.

Пад арт. зьмешчана прыпіска ад рэдакцыі: "Для выясьненьня закранутага пытаньня ў гэтым артыкуле зьмяшчаем яго ў дыскусыйным парадку".

## *"Ахілесаўская пята" (с. 125)*

Друкуецца паводле: *ВС*. 1923. 9 верас., дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. *К. Фалькевіч*.

Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

Аб вяртаньні ў склад ССРБ усходнебеларускіх земляў, далучаных да Расеі на падставе рашэньня ЦК РКП(б) ад 16.01.1919 г., А. Луцкевіч пісаў таксама ў арт. "Будаваньне Беларусі", "Вялікая пара!" і "Расьце Беларусь!".

[1] *Гакатысты* — сябры нямецкай нацыяналістычнай арганізацыі "Deutscher Ostmarkenverein", заснаванай у 1894 г. дзеля германізацыі палякаў на тэрыторыі пад уладай Прусіі.

[2] *Радавая Беларусь — гэта ўсяго некалькі паветаў Меншчыны...* — На момант абвяшчэньня ССРБ — 2.01.1919 г. — у яе склад уваходзілі Віцебская, Гарадзенская, Магілёўская і Менская губ., бел паветы Віленскай і Ковенскай губ., а таксама заходнія пав. Смаленскай губ. Пастановаю ЦК РКП(б) ад 16.01.1919 г. са складу Рэспублікі былі выведзеныя Віцебская і Магілёўская губ., а таксама заходнія пав. Смаленскай губ. Калі ў 1919 г. Магілёўская губ. была пераўтворана ў Гомельскую, у склад апошняе быў

уключаны Рэчыцкі пав. Менскае губ. У 1919 г. у складзе РСФСР апынуліся і іншыя часткі Менскае губ. Пасьля падпісаньня 18.03.1921 г. Рыскага трактату ў складзе ССРБ засталіся толькі Бабруйскі пав. Менскае губ., часткі Вялейскага пав. Віленскае губ., а таксама Барысаўскага, Ігуменскага, Мазырскага, Менскага і Слуцкага пав. Менскай губ.

[3] *Rdzennie polski* — адвечна (сапраўды) польскі.

[4] *... “обстаўскі” орган “Dziennik Wileński”...* — Рэдактарам газ. быў Ян (Ёган) Обст.

[5] *...тэй партыяй, якая хоча мець манаполію на беларускі рух.* — Гаворка пра бальшавікоў.

## *Крызіс ідэі ці крызіс грамадзянства? (с. 127)*

Друкуецца паводле: *ЗБ*, дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. *Ант. Навіна*. Пад тэкстам: *Вільня, у ліпні 1923 году.*

[1] *Азэфіяда* — слова, утворанае ад прозьвішча Е. Азэфа, кіраўніка Баявое групы ПС–Р, які, арганізуючы тэрарыстычныя акты, з 1892 г. працаваў на паліцыю.

[2] *...да разьвязаньня беларускае праблемы ў дзяржаўнай плоскасьці варожа аднясьліся вялікія дзяржавы, аддаўшыя Беларусь “у сфэру ўплываў” Францыі...* — Гл. пра гэта на с. 240 гэтага выданьня і інтэрвію “Беларускія справы” ў: *БЗВ*.

[3] *...dii minores...* — Літаральна: меншыя (малодшыя) багі (у значэньні: другарадныя асобы).

[4] *... больш агідны від “угоды”, чым аслаўленая ў царскія часы польская “ўгода”, што дзеля белых парток камэргера гатова была ісьці на такія “ўслугі” ўраду, як даносы на сваё ж грамадзянства, як учасьце ў трыюмфальным адкрыцьці ў Вільні памятніку Кацярыны II...* — Пра ўдзел буйных земляўласьнікаў Віленскае, Горадзенскае і Ковенскае губ. ва ўрачыстасьцях з нагоды адкрыцьця ў Вільні помніка Кацярыне II (1904) А. Луцкевіч надрукаваў памфлет “Pro memoria” (*Г.* 1917. 19 чэрв.).

[5] *Conditio sine qua non* — неабходная (абавязковая, неадменная) умова.

## *Двaццатыя ўгодкі БРГ (с. 130)*

Друкуецца паводле: *З*. 1923. 23 сьнеж., дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *Г. Б.*

[1] *...у Менску залажыўся беларускі гурток моладзі, на чале якога стаяў ініцыятар яго, Іван Луцкевіч.* — Гл. заўвагу 9 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[2] Гл. заўвагу 10 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[3] *...трываўшая яшчэ тады ад 1865 году забарона беларускага друку...* — Гл. заўвагу 11 да арт. “Белорусы”.

[4] *...выданьне за граніцай пры дапамозе і над фірмай ППС рэвалюцыйнае брашуркі “Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць”...* — Гл. заўвагу 3 да арт. “Данос”.

[5] *...на марксістаўскай праграме...* — Так у тэксьце. Мусіла б быць “на марксістаўскай плятформе”.

[6] *...Іван Луцкевіч... сядзіць некалькі месяцаў у Пецярбурскай перасыльнай, а пасьля Выбарскай турме (1903).* — І. Луцкевіча арыштавалі да заснаваньня БРГ. Гл. с. 105 і 173 гэтага выданьня.

[7] *Пападае ў менскі вастрог Антон Луцкевіч, Казімер Кастравіцкі, браты Кардэцкія...* — А. Луцкевіч піша тут пра падзеі 1904 і 1905 гг. Гл. с. 174 і 180 гэтага выданьня.

[8] *I вось у 1905 годзе ў Менску... зьмяняе свой назоў на* Беларускую Сацыялістычную Грамаду. — Гл. заўвагу 13 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

## *Нацыянальнае пытаньне і пралетарыят (с. 133)*

Друкуецца паводле: *З*. 1924. 13 студз., дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. *Кумельган*.

1 Крыніцу выявіць не ўдалося.

2 Цытата зь ліста Ф. Энгельса да К. Каўцкага за 7.02.1882 г.

3 *“Пакуль трываў прамысловы манаполь Англіі (...) І гэта будзе і прычынаю, чаму тады ў Англіі зноў паўстане сацыялістычны рух”*. — Гэта не цытата, а больш–менш дакладны пераказ напісанага Ф. Энгельсам у арт. “Англія ў 1845 і 1885 гадах”[55]. На гэты арт. Энгельс спасылаўся ў прадмове да ангельскага выданьня “Становішча работніцкае клясы ў Англіі” (11.01.1892) і ў прадмове да 2–га нямецкага выданьня тае ж працы (21.07.1892).

4 *...нацыянальны рух разглядаў як рух контрарэвалюцыйны.* — Такое стаўленьне да нац. руху тлумачылася тым, што на чале яго стаяла буржуазія, і тым, што, на думку лідэраў ІІ Інтэрнацыяналу (у прыватнасьці Р. Люксэмбург), ён парушаў адзінства пралетарыяту. Між тым, Маркс лічыў, напрыклад, што рух славянскіх народаў, асабліва ў Чэхіі, нягледзячы на “контрарэвалюцыйнасьць”, можа “паслужыць фэрмэнтам для сапраўднага руху”[56], руху да сацыяльнага вызваленьня.

5 *“Мы прызнаём і сымпатызуем нацыянальным змаганьням толькі вялікіх і вядомых гісторыі нацыяў Эўропы”*. — Крыніцу выявіць не ўдалося. Праводзячы адрозьненьне паміж нацыямі і нацыянальнасьцямі, Энгельс пісаў аб праве гістарычных і жыцьцяздольных нацыяў (у прыватнасьці палякаў) на незалежнасьць у працы “Якая справа рабочай клясе да Польшчы?” (1866).

6 *Прыклад Японіі, якую Энгельс залічаў да нежыцьцяздольных...* — Памылка наборшчыка. Энгельс залічаў да нежыцьцяздольных Чэхію[57].

7 *...цяпер робіць ІІ Інтэрнацыянал...* — З 1923 г. існаваў Сацыялістычны Рабочы Інтэрнацыянал, які па звычцы называлі ІІ Інтэрнацыяналам.

8 *Экзэкутывы Камінтэрну...* — выканаўчага камітэту Камінтэрну.

9 *...адыграе...* — Тут і далей мусіла б быць “адыгрывае”.

10 *Прыклад Ірляндыя.* — Калі ў 1921 г. Ірляндыя ў выніку барацьбы стала брытанскім дамініёнам, больш радыкальныя сілы паўсталі за поўную незалежнасьць краіны. Памяркоўнае крыло партыі Шын фэйн, якое стаяла ва ўладзе, у ходзе грамадзянскае вайны 1922—1923 гг. стлуміла незалежнікаў.

11 *...на Кракаўскім Кангрэсе...* — Прызначаны сьпярша на лістап. 1923 г., кангрэс ППС адбыўся ў канцы 1923 — пачатку 1924 г. Луцкевіч прысьвяціў гэтай падзеі арт. “Перад XIX Кангрэсам PPS” і “XIX Кангрэс PPS” (гл. у: *БЗВ*).

## *Будаваньне Беларусі (с. 137)*

Друкуецца паводле: *З*. 1924. 24 студз., дзе апублікаваны ўпершыню бяз подп.

Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

Нагодай для напісаньня гэтага арт. быў распачаты — пасьля неаднаразовых зваротаў кіраўніцтва ССРБ у ЦК РКП(б) — працэс вяртаньня ў склад Савецкай Беларусі часткі ўсходнебеларускіх земляў, якія на падставе пастановы ЦК РКП(б) ад 16.01.1919 г. былі далучаныя да РСФСР. Пастанова ЦК РКП(б) аб перадачы ССРБ роднасных у бытавых,

[55] Гл.: Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Изд. 2–е. Т. 21. С. 204—205.

[56] Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Изд. 2–е. Т. 29. С. 295.

[57] Гл.: Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Изд. 2–е. Т. 8. С. 54—55.

гаспадарчых і этнічных адносінах пав. сумежных губ. была прынятая ў лістап. 1923 г., а 7.12.1923 г. пачала працаваць беларуска–расейская камісія па разьмежаваньні. Меркавалася, што ў склад ССРБ будуць перададзеныя Віцебская і Гомельская губ., а таксама Горацкі і Мсьціслаўскі пав. Смаленскае губ. (да 16.01.1919 г. гэтыя тэрыторыі ўваходзілі ў склад Віцебскае, Магілёўскае і Менскае губ.). У дні, калі пісаўся гэты арт. А. Луцкевіча, камісія скончыла працу. Нягледзячы на пратэст прадстаўнікоў ССРБ, было вырашана пакінуць у складзе РСФСР Вялікі, Невельскі і Себескі пав. Віцебскае губ., а таксама Гомельскі большую і частку Рэчыцкага пав. Гомельскае губ. і Мсьціслаўскага пав.

“Узбуйненьне” ССРБ мела, апрача іншых, і зьнешнепалітычную прычыну: яно было разьлічана на прыцягненьне сымпатыяў заходнебеларускага насельніцтва да СССР. Як успамінаў А. Луцкевіч, пасьля выбараў 1922 г. у Сойм і Сэнат Польскай Рэспублікі савецкае паўнамоцнае прадстаўніцтва ў Польшчы прасіла яго напісаць даклад, “какие мероприятия были бы желательны в БССР с точки зрения западных белорусов”. Пішучы гэты даклад, Луцкевіч на першым месцы паставіў “вопрос об увеличении территории БССР” (гл. с. 249 гэтага выданьня).

З апошняга сказу гэтага арт. можна зразумець, што Луцкевіч факт вяртаньня ў склад ССРБ часткі ўсходнебеларускіх земляў разглядаў як крок да зьдзяйсьненьня незалежніцкага ідэалу.

Гл. таксама арт. “Ахілесаўская пята”, “Вялікая пара!” і “Расьце Беларусь!”.

1 *...будаваньне Радавае Беларусі ў межах шасьцёх паветаў.* — Гл. заўвагу 2 да арт. “Ахілесаўская пята”.

## *Дзьве дарогі (с. 139)*

Друкуецца паводле: *ГБ*. 1924. 14 лют., дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. *К. Фалькевіч*.

Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

## *Дыктатар Літвы*
## *(У шасьцідзясятую гадавіну сьмерці) (с. 141)*

Друкуецца ў перакладзе з польск.

Упершыню — *PW*. 1924. № 6, дзе апублікаваны пад крыпт. *L. A.*

Надрукавана таксама ў: *БЗВ*.

1 *...“Пісьмо ад Яська–гаспадара з–пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай”.* — Аўтарства гэтай адозвы канчаткова не ўстаноўлена, хоць і прыпісваецца яна Каліноўскаму. Ёсьць падставы лічыць гэты твор падробкаю[58].

2 У *PW* надрукавана “Gleininga”.

3 *Першая зь іх дастаткова вядомая, бо хадзіла ў шматлікіх копіях, другая першы раз была апублікаваная з рукапісу В. Ластоўскім у беларускім календары на 1919 год п. з. “Сваяк”.* — Насамрэч В. Ластоўскі першы раз апублікаваў гэтыя творы Каліноўскага ў: *Нт*. 1916. 15 лют. У календары “Сваяк” творы былі перадрукаваныя з *Нт*.

4 *...“нарадовай”...* — Нацыянальнай (ад польск. *narodowy*).

---

58 Гл.: Каліноўскі К. За нашую вольнасць: Творы, дакументы / Уклад., прадм., паслясл., і камент. Г. Кісялёва. Мн., 1999. С. 279—280, 388—389.

### *Жанчына ў беларускім адраджэнскім руху (с. 143)*

Друкуецца паводле: *ГБ*. 1924. 2 сак, дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. *Ант. Навіна*.

Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

[1] *...дзяячка польскага паўстаньня...* — Гл. заўвагу 7 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[2] *...ужо ў самым пачатку існаваньня гэтае арганізацыі (прыблізна ў 1904 годзе).* — БРГ заснавана пад канец 1903 г. Цётка ж прыйшла ў беларускі рух не пазьней як у 1902 г.

[3] *...творыцца першая... беларуская драматычная дружына.* — Гл. заўвагу 25 да ўспамінаў “Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча”.

[4] *...Дорпат...* — Гл. заўвагу 20 да ўспамінаў “Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча”.

[5] *...першыя беларускія народныя школы і вучыцельскія падгатаваўчыя курсы.* — Гл. заўвагі 42 і 43 да ўспамінаў “Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча”.

[6] *...пасьля расейскае рэвалюцыі 1917 году...* — На ўвазе маецца Лютаўская рэвалюцыя.

[7] *...працэсам 45 беларусаў...* — Працэс 45–ці адбываўся адбываўся ў тр. 1923 г. у Беластоцкім акруговым судзе.

### *Зь беларускага палітычнага архіву (с. 146)*

Друкуецца паводле: *ГБ*. 1924. 23 сак., дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *А. Н.*

Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

[1] *...на Захадзе акупацыйная ўлада афіцыяльна прызнала правы беларускага народу...* — Гл. успаміны “Замест адказу (Гістарычная спраўка)” і арт. “Прызнаньне правоў беларускае мовы падчас сусьветнае вайны” ў: *БЗВ*.

[2] *...аб’яднаньне Беларускае Рэспублікі.* — На ўвазе маецца вяртаньне ў склад ССРБ часткі яе ўсходніх земляў, якія раней уваходзілі ў склад Віцебскае, Магілёўскае і Менскае губ. (гл. арт. “Будаваньне Беларусі”).

[3] *...беларускі работнік і селянін... рукой сваей упісывае ў кнігу сусьветнае гісторыі імя сваей Бацькаўшчыны* як рэальна існуючай дзяржавы... — Пра стаўленьне А. Луцкевіча да БССР гл. у прадмове.

[4] У *ГБ* надрукавана “па”.

[5] Гл. “Рэзалюцыі Беларускай Канфэрэнцыі 25, 26, 27 студня 1918 г. у Вільні” і камэнтары да іх, а таксама у арт. “Палітычныя лёзунгі беларускага руху”.

[6] Словы “ў пастаці незалежнага В. Кн. Літоўскага” адсутнічаюць у копіі гэтай рэзалюцыі, засьведчанай С. Рак–Міхайлоўскім, і ў гранках яе тэксту, набранага лацінкаю. Гл. “Рэзалюцыі Беларускай Канфэрэнцыі 25, 26, 27 студня 1918 г. у Вільні”.

[7] *...у гэтым акце прымае ўчасьце прадстаўніцтва Заходняе Беларусі...* — Гл. заўвагу 22 да “Мэмарыялу Беларускага Ўраду” і с. 118 гэтага выданьня.

[8] *...1 студня 1919 году...* — Гл. заўвагу 24 да “Мэмарыялу Беларускага Ўраду”.

[9] *...апошняе далучэньне да менскага цэнтру Віцебшчыны, Смаленшчыны, Гомельшчыны.* — Гл. арт. “Будаваньне Беларусі”.

### *На паўдарозе (с. 148)*

Друкуецца паводле: *НШ*, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. *К. Фалькевіч*.

Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

[1] *...камуністычная партыя Заходняе Беларусі адмовілася падчыняцца варшаўскім правадырам.* — Гаворка пра г. зв. сэцэсію (лац. *secessio* — выхад) 1924—1925 гг., калі частка КПЗБ на чале з М. Гурыным, А. Капуцкім і Л. Родзевічам настойвала на адыходзе ад КПП і афармленьні КПЗБ як самастойнае сэкцыі Камінтэрну. З дапамогаю Масквы і Менску сэцэсія была ліквідаваная.

## *Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады (с. 150)*

Друкуецца паводле: *БН*. 1925. 5 сьнеж., дзе апублікавана ўпершыню.

Публікацыя складаецца з уступнае нататкі "Пад сьцягам сацыялізму", успамінаў "З гісторыі БСГ" (падпісаныя крыпт. *Г. Б.*; пад тэкстам дата: *Вільня, 27.XI.1925*), нататкі "БСГ падчас рэвалюцыі 1917 году", пераказу пратаколу III зьезду БСГ і нататкі "Ліквідацыя БСГ".

Несумненным аўтарам усіх матэрыялаў зьяўляецца А. Луцкевіч, які адлюстраваў гэтыя сюжэты і ва ўспамінах "За дваццаць пяць гадоў".

[1] Маецца на ўвазе сьнежаньскі ўсерасейскі паліт. страйк 1905 г., які ў Маскве і некаторых іншых гарадох перарос у збройнае паўстаньне.

[2] *Зьезд... адбыўся ў Менску — у канцы лістапада ці пачатку сьнежня (ст. ст.) 1905 году.* — Гл. заўвагу 17 да ўспамінаў "Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча".

[3] *...супрацоўніцтва... пры арганізацыі няўдаўшагася бомбавага замаху на менскага губэрнатара Курлова, даўшага загад расстрэлу многатысячнага мітынгу 17 кастр. (ст. ст.)...* — 18(31).10.1905 г. П. Курлоў даў згоду на прапанову жандарскага палкоўніка ўчыніць стральбу па ўдзельніках мітынгу на плошчы Віленскага вакзала ў Менску (цяпер Прывакзальная плошча). Як вынікае з дакумэнтаў, загад страляць быў дадзены пасьля таго, як дазволены ўладамі мітынг быў скончаны. Многія былі забітыя і параненыя стрэламі ў сьпіну[59]. На жыцьцё Курлова былі ўчынены два замахі: адзін — у кастр. 1905 г., другі — у студз. 1906 г.

[4] Я. Хлябцэвіч піша, што В. Іваноўскі не прысутнічаў на зьезьдзе і быў абраны ў ЦК БСГ завочна[60].

[5] *Гасьпітант* (польск. hospitant — вольны слухач). — Тут: вольнапісаны.

[6] *Арганізацыю з "Рэвалюцыйнай" пастаноўлена было... перайменаваць у "Беларускую Сацыялістычную Грамаду".* — Гл. заўвагу 13 да арт. "Национальное возрождение белорусов".

[7] *...маслаўская ідэя муніцыпалізацыі ўсіх зямельных прастораў...* — Ідэя П. Маслава ў 1906 г. абмяркоўвалася на IV зьезьдзе РСДРП.

[8] *...пры Нямігскай вуліцы...* — Парт. друкар Ф. Стацкевіч пісаў, што друкарня БСГ знаходзілася "на Нізкім рынку па Тарговай вул., 40"[61]. Месцазнаходжаньне друкарні ўдакладніў ва ўспамінах "За дваццаць пяць гадоў" і сам А. Луцкевіч: на Тарговай вуліцы (каля Нізкага рынку).

[9] *...дом Луцкевічаў у Менску...* — Дом 27 па вуліцы Хрышчэнскай (у міжваенны час па Кастрычніцкай, 27/2); недалёка ад цяперашняга Дзяржаўнага літаратурнага музэю Я. Купалы.

[10] *...перабраліся ў пару зь Менску у Вільню, дзе ад лютага... працуюць далей пад фальшывымі прозьвішчамі.* — Гл. заўвагу 19 да ўспамінаў "Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча".

---

[59] Гл.: 1905 год у Беларусі: Зборнік архіўных дакумэнтаў пад рэдакцыяй С. Агурскага, Б. Аршанскага і Іл. Барашкі. Мн., 1926. С. 54—61.

[60] Гл.: Хлябцэвіч Я. Цётка // *П.* 1924. № 3. С. 142.

[61] Стацкевіч Ф. Успаміны // Arche. 2006. № 9. С. 167.

[11] *...беларускі работніцкі дзеяч Тубіс...* — Гл. нэкралёг "Памяці Вінцука Тубіса (У гадаўшчыну сьмерці)" у: *БЗВ*.

[12] *Яшчэ за існаваньня БРГ — улетку 1905 году...* — Гл. заўвагу 13 да арт. "Национальное возрождение белорусов".

[13] *...у Менску... настроі сярод "грамадаўцаў" яшчэ вельмі гарачыя — бунтарскія. (...) сярод тамтэйшых працаўнікоў растуць уплывы эсэраўска–тэрарыстычныя.* — Ва ўспамінах "За дваццаць пяць гадоў" А. Луцкевіч піша, што эсэраўская тактыка выявілася ў экспрапрыяцыі (эксе) казённых грошай. Аднак эксы праводзілі і ППС, і бальшавікі. Па–другое, на экспрапрыяцыі сяброў БСГ арыентавала парт. канфэрэнцыя 3—4.06.1906 г.[62] ЦК БСГ асудзіў гэтую акцыю таму, што яна не была ўзгоднена зь ім (гл. с. 182 і 184 гэтага выданьня). Акрамя таго, у літаратуры маюцца зьвесткі, што экс быў учынены грамадаўцамі і анархістамі ўлетку 1907 г. (гл.: Стацкевіч Ф. Успаміны // *Arche*. №9. С. 169).

[14] Паведамленьне пра канфэрэнцыю, што адбылася 3—4.06.1906 г., надрукавана ў: *БЗВ*.

[15] *...так званай ППС Б. і Л.* — На ўвазе маецца ППС у Літве (гл. заўвагу 3 да арт. "Данос").

[16] "Стан посядання" (польск. stan posiadania) — стан валоданьня.

[17] *...зтаджаліся толькі на так званыя прырэзкі...* — Гаворка павінна ісьці пра адрэзкі — участкі зямлі, адрэзаныя ад сялянскіх надзелаў у выніку рэформы 1861 г. Сялянства дамагалася іх вяртаньня. Гэты пункт быў уключаны па прапанове М. Ражкова ў аграрную праграму РСДРП.

[18] Гл. заўвагу 19 да арт. "Национальное возрождение белорусов".

[19] Гл. заўвагу 14 да арт. "На дарозе да новага жыцьця".

[20] *...найвыдатнейшым пачынаньнем БСГ... зьяўляецца выпуск першае беларускае легальнае часопісі — тыднёвіка "Наша Доля"... — з ініцыятывы пачынальніка сучаснага адраджэнскага руху Івана Луцкевіча.* — "Весьма сильное пожелание, чтобы ЦК поскореее приступил к изданию партийного органа", выказала канфэрэнцыя БСГ 3—4.06.1906 г., трэба думаць, з ініцыятывы І. Луцкевіча.

[21] Гл. заўвагу 17 да арт. "Национальное возрождение белорусов".

[22] *...зазначыўся аканчальнай перамогай рэакцыі над Рэвалюцыяй.* — Лічыцца, што рэакцыя перамагла 3.06.1907 г. (трэцячэрвеньскі пераварот). У гэты дзень была разагнана ІІ Дзяржаўная Дума і апублікаваны новы выбарчы закон. Гл. заўвагу 22 да арт. "На дарозе да новага жыцьця"..

[23] Больш падрабязна пра гэта гл. у арт. "Палітычны працэс Якуба Коласа і тт.".

[24] Гл. заўвагу 1 да арт. "Данос". Засуджаны В. Зелязей у 1909 г.

[25] Як успамінаў М. Шыла, у Менску быў павешаны сябар БСГ Караткевіч. Гл.: На суд гісторыі: Успаміны, дыялёгі / Уклад. Б.І. Сачанка. Менск, 1994. С. 41.

[26] *...адну штодзённую расейскую і адну штодзённую польскую...* — Гл. заўвагу 33 да ўспамінаў "Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча".

[27] Гл. заўвагу 44 да ўспамінаў "Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча".

[28] *...арганізацыі Паўлюкевіча...* — На ўвазе маецца палянафільская Часовая беларуская рада.

[29] *Згуртаваньне... "грамадаўцаў" прыпадае яшчэ на чэрвень месяц 1917 году.* — Першая ў 1917 г. канфэрэнцыя БСГ адбылася 25.03 (перад пачаткам зьезду беларускіх нац. арганізацый, які праводзіўся 25—27.03(7—9.04)). Паведамленьне пра канфэрэнцыю гл. у: *Arche*. 2006. № 4. С. 160—161. .

[30] Поўны тэкст пратаколу ІІІ зьезду БСГ гл. у: *Arche*. 2006. № 4. С. 168—169.

[31] *Калі — у выніку Ўсебеларускага зьезду — утварылася Рада Беларускае Народнае Рэспублікі...* — Гл. заўвагу 1 да арт. "Незалежная Беларусь".

---

[62] Гл.: *БЗВ*. С. 41.

[32] 1.05.1918 г. Т. Грыб заявіў на паседжаньні Рады БНР аб утварэньні ў складзе Рады асобнае эсэраўскае фракцыі і аб тым, што ён і П. Бадунова складаюць з сябе абавязкі народных сакратароў БНР. З гэтага моманту пачалося арганізацыйнае афармленьне БПС–Р.

[33] Праграму БПС–Ф гл. у: *Октябрь 1917 и судьбы политической оппозиции*. Зьяўляючыся колькасна самай малой групай, што выйшла з БСГ, яна аб'яднала ў сваіх шэрагах некаторых відных дзеячоў: Я. Варонку, В. Захарку, К. Езавітава, П. Крачэўскага, А. Цьвікевіча ды інш.

[34] У верас. 1917 г. з БСГ вылучылася БСДРП (каля 500 чалавек, пераважна ў Петраградзе), якая не парывала арганізацыйных сувязаў з БСГ да канца 1917 г. У крас. 1918 г. БСДРП пераўтварылася ў Беларускую сэкцыю пры Пецяргофскім райкаме РКП(б) і паклала пачатак стварэньню беларускіх сэкцыяў бальшавіцкай партыі ў іншых гарадох Расеі. Гэтыя сэкцыі ў канцы 1918 г. сталі сузаснавальнікамі КП(б)Б.

[35] *...зьліквідаваных нядаўна эсэраў* — На ўвазе маецца, што пад ціскам бальшавікоў у чэрв. 1924 г. БПС–Р на зьезьдзе ў Менску самараспусьцілася. Аднак за межамі СССР асобныя групы беларускіх эсэраў працягвалі дзейнасьць і пазьней.

[36] *...беларускія эсдэкі гуртуюць пераважна элемэнты культурніцкія...* — Сацыял–дэмакраты, у тым ліку такія дзеячы культуры, як І. Краскоўскі, Я. Лёсік і А. Смоліч, былі ў БССР беспартыйнымі.

[37] *У Заходняй Беларусі ролі абедзьвюх груп падзяліліся зусім аналягічна да таго, як і ў Усходняй.* — У Заходняй Беларусі частка сяброў БСДП перайшла ў КПЗБ і адыграла важную ролю ва ўтварэньні БСРГ. Тыя, хто застаўся на с.–д. пазыцыях, належалі да гэтак званай групы Луцкевіча. Гэтая група адыгрывала да 1933 г. прыкметную ролю і ў паліт. жыцьці Заходняе Беларусі.

### *Вялікая пара! (с. 158)*

Друкуецца паводле: *БН*. 1926. 3 лют., дзе апублікаваны ўпершыню бяз подп.

Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

Гл. арт. "Ахілесаўская пята" і "Расьце Беларусь!".

[1] *...крысталізацыі беларускае нацыі...* — Гл. арт. "Крысталізацыя нацыі" ў: *БЗВ*.

[2] *...латвійскія кулацка–нацыяналістычныя ўрады ганебна прадаюць статысячную беларускую масу маскоўскаму і польскаму чарнасоценству...* — На ўвазе маецца тое, што латвійскі ўрад ствараў спрыяльныя ўмовы для польск. і расейск. меншасьцяў і дыскрымінаваў беларускую. Беларусы — у залежнасьці ад вызнаньня — мусілі адпраўляць дзяцей у польск. і расейск. школы. У 1925 г. у Латвіі адбыўся працэс у справе групы беларускіх дзеячоў, якому А. Луцкевіч прысьвяціў арт. "Перад дзьвінскім працэсам" (*БД*. 1925. 16 студз.) і "Латвійская "юстыцыя" (*БД*. 1925. 13 сак.)..

[3] *...два гады назад, калі адбывалася частковае пашырэньне межаў Радавае Беларусі...* — Гл. арт. "Будаваньне Беларусі".

[4] *...з Магілёўскае губ.* — 26.4.1919 г. Магілёўская губ. была ліквідаваная. 9 яе паветаў былі ўключаныя ў склад наваствoранае Гомельскай губ., Сеньненскі пав. — у склад Віцебскае губ, Мсьціслаўскі пав. — у склад Смаленскае губ. Гарадоцкі пав. з 1802 па 1923 г. знаходзіўся ў Віцебскай губ. У 1924 г. ён ліквідаваны. 12 воласьцяў былі далучаныя да Віцебскага і Полацкага пав. і ў 1924 г. трапілі ў склад ССРБ, а 9 воласьцяў, далучаных да Вяліскага і Невельскага пав., у 1924 г. былі пакінутыя ў складзе РСФСР.

[5] *...аб часьці Рэчыцкага (Меншчына)...* — У 1919 г. Рэчыцкі пав. Менскае губ. быў уключаны ў склад Гомельскае губ. У 1924 г. да ССРБ была далучана толькі частка гэтага пав.

[6] *...ад нашых паслоў, толькі што вярнуўшыхся з падарожы ў БСРР...* — У СССР езьдзілі П. Мятла і Ф. Ярэміч. Сваімі ўражаньнямі ад паездкі яны дзяліліся адпаведна ў *БН* і "Сялянскай Ніве". Луцкевіч прысьвяціў гэтым публікацыям адмысловы арт.

“Дзьве праўды” ў газ.–аднадзёнцы “За Праўду” (18.03.1926).

[7] Арт. “Вялікі вадзяны шлях (Злучэньне каналам Дзьвіны з Дняпром)” надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

### *Мітрапаліт Шаптыцкі і беларускі рух (с. 160)*

Друкуецца паводле: *Богословія* (Львоў). 1926. Т. 4. Кн. 1—2, дзе апублікаваны ўпершыню.

Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

У перакладзе на польск. пад крыпт. *A. N.* апублікаваны ў: *PW*. 1926. № 9.

[1] *...беларускага гуртка ў Менску...* — Гл. заўвагу 9 да арт. “Национальное возрождение белорусов”..

[2] Ва ўспамінах “Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча” А. Луцкевіч пісаў, што ягоны брат заехаў у Львоў, “варочаючыся зь Вены” (с. 105 гэтага выданьня).

[3] У перакладзе на польск. да гэтых слоў маецца заўвага: “Біёграф мітрапаліта Шаптыцкага а. Кірыла Каралеўскі піша, што ў 1907 г.”.

[4] *...часопісь “Гоман” пасьвяціла дзеяльнасьці мітрапаліта і яго адносінам да беларусаў абшырныя стацьці, зьмяшчаючы партрэт архіўладыкі...* — На ўвазе маецца нэкралёг “Андрэй Шаптыцкі” (*Г*. 1916. 15 верас.). 17.10.1916 г. у карэспандэнцыі “Весткі аб мітрапаліце Шаптыцкім” *Г* абвяргаў паведамленьні аб сьмерці архіўладыкі.

[5] У перакладзе на польск. да гэтых слоў маецца заўвага: “Іншых, аднак, запэўніваў, што зьяўляецца прыяцелем Уніі”.

### *1906 — 14/IX — 1926 (с. 162)*

Друкуецца паводле: *НСпр*. 1926. 15 верас., дзе апублікаваны ўпершыню бяз подпісу.

Надрукаваны таксама ў: *ПКЛіМ*.

[1] *...колішняе панскае Польшчы...* — Гл. заўвагу 7 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[2] *Улетку 1906 году... адбывалася канфэрэнцыя Беларускае Сацыялістычнае Грамады*. — Маецца на ўвазе канфэрэнцыя 3–4. 06. 1906 г.

[3] *...Іван Луцкевіч, як галоўны арганізатар і ідэйны кіраўнік часопісі...* — Дзядзька Пранук у сваіх успамінах паказвае, што кандыдатуру на пасаду рэдактара–выдаўца і фундатара *НД* знайшоў ён. Акрамя таго, Дзядзька Пранук сьцвярджаў, што І. Луцкевіч не ўваходзіў у склад рэдакцыі *НД*[63].

[4] *...адказны рэдактар засуджаны на год крэпасьці*. — “Адказным рэдактарам” (рэдактарам–выдаўцом) газеты быў Я. Тукеркес.

[5] *...сьледам за “Нашай Доляй” выходзе “Наша Ніва”...* — Гл. заўвагу 17 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[6] *...на 2 месяцы...* — На 2 месяцы крэпасьці быў асуджаны рэдактар–выдавец *НН* А. Уласаў.

[7] *...на 1 год крэпасьці...* — Гл. заўвагу 4.

### *Наша Ніва (2–га лістапада 1906 г. — 2–га лістапада 1926 г.) с. 164 )*

Друкуецца паводле: *НСпр*. 1926. 23 ліст., дзе апублікаваны ўпершыню бяз подпісу.

Надрукаваны таксама ў: *ПКЛіМ*.

[63] Гл.: Дзядзька Пранук. Аб „Нашай Долі” // Гл.: *Беларусь*. 1919. 17 сьнежня; *Беларускія Ведамасьці*. 1921. 26(13) верасьня.

[1] *... “Нашае Нівы”, замяніўшае сваю папярэдніцу...* — Гл. заўвагу 17 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[2] Кальпартэр (польск. kolporter) — распаўсюднік; гандляр з рук друкаванымі выданьнямі.

[3] *У апошнія гады перад вайной кіруюць газэтай сьпярша Ластоўскі, пасьля — Купала.* — У сувязі з тым, што рэдактар–выдавец *НН* А. Уласаў быў адначасова рэдактарам час. “Саха” (з крас. 1912 г. у Вільні, з кастр. 1913 г. у Менску), фактычнае кіраўніцтва вытворчым працэсам ажыцьцяўляў сакратар рэдакцыі Ластоўскі. Калі ж Уласаў стаў і рэдактарам–выдаўцом час. “Лучынка” (з 1914 г., таксама ў Менску), на пасаду рэдактара *НН* быў запрошаны Купала (з сак. 1914; з тр. — рэдактар–выдавец).

[4] *...была зроблена спроба ўзнавіць “Нашу Ніву” — сьпярша ў пастаці зборніку...* — Маецца на ўвазе *Зборнік “НН”*.

## *Расьце Беларусь! (с. 166)*

Друкуецца паводле: *НС*. 1927. 1 студз., дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. *Каз. Фалькевіч*.

Гл. арт. “Ахілесаўская пята”, “Будаваньне Беларусі”, “Вялікая пара!”.

## *Роля моладзі ў пачатках адраджэнскага руху (с. 167)*

Друкуцца паводле: *РГ*. 1927. Кн. 5, дзе апублікаваны ўпершыню пад псэўд. *Ант. Навіна* і з прыпіскай ад рэдакцыі: “Аўтар гэтае стацьці абмежыўся пэрыядам да выбуху сусьветнае вайны і не зачапляе студэнцкага руху апошніх гадоў па вайне”.

Пад тэкстам дата: *Вільня, ліпень 1927 г.*

[1] *Сярод гуртка нарадавольцаў, якія ў 1884 годзе распачалі былі выдаваць у Менску нелегальную гектаграфаваную часопісь “Гомон”...* — У другой палавіне 1920–х гг. заняўся вывучэньнем гісторыі беларускага народніцтва, пра што сьведчыць перапіска з А. Багдановічам. Яго веды пра народніцтва ў параўнаньні з пачаткам стагодзьдзя (гл. заўвагу 10 да арт. “На дарозе да новага жыцьця”) істотна абагаціліся.

[2] *...у сваіх пісьмах да аўтара гэтых радкоў.* — Лісты А. Багдановіча да А. Луцкевіча захоўваюцца ў 21–м фондзе LMAB.

[3] *Пачынальнікі гэтага руху, браты Луцкевічы...* — Братоў І. і А. Луцкевічаў нельга адназначна назваць пачынальнікамі беларускага руху XX ст. Далей аўтар сам піша, што пачынальнікамі беларускае культурна–асьветнае і палітычнае працы ў XX ст. былі як менчукі, гэтак і віленцы.

[4] *Каля іх у самым пачатку дзевяцісотных гадоў гуртуюцца ўжо і Карусь Каганец (Казімер Кастравіцкі)...* — У канцы 1890–х К. Каганец уплываў на фармаваньне сьвядомасьці братоў Луцкевічаў (гл. с. 171 гэтага выданьня). Іншая справа, што на пачатку 1900–х пры пасярэдніцтве Луцкевічаў К. Каганец быў уцягнуты ў асьветніцкую, а потым і ў паліт. працу.

[5] *...Кружок Беларускае Народнае Асьветы...* — Гл. заўвагу 10 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[6] *Першую адозву да грамадзянства з заклікамі распачаць асьветную работу сярод беларускага сялянства... укладае і выдае тая ж групка студэнтаў пецярбурскіх вышэйшых школаў, якая заклала сказаны Кружок.* — Гл. заўвагу 7 да ўспамінаў “Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча”.

[7] Гл. заўвагу 20 да ўспамінаў “Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча”.

[8] *Тут моладзь ад 1906 году праходзіла школу культурнае працы ў выдавецкай су-*

*полцы “Загляне сонца і ў наша ваконца”, дзе вялізарны ўплыў на яе аказаваў праф. Эпімах–Шыпіла, унівэрсытэцкі бібліятэкар.* — Б. Эпімах–Шыпіла быў памочнікам бібліятэкара (дырэктара) унівэрсытэцкай бібліятэкі. Адыгрываючы прыкметную ролю ў беларускім руху ў Пецярбургу і маючы ўплыў на моладзь, Б. Эпімах–Шыпіла ў 1906—1908 гг. адыгрываў другарадную ролю ў дзейнасьці выдавецкай суполкі “Загляне сонца і ў наша ваконца”, а ў канцы 1909 г. выбыў зь яе ўправы[64].

[9] В. Іваноўскі прыехаў у Пецярбург на вучобу ў 1899 г., а Цётка — улетку 1902 г.

[10] На ўвазе маецца Беларускі навукова–літаратурны гурток студэнтаў С.–Пецярбурскага ўн–ту. У нэкралёгу “Валадзімер Хлябцэвіч” (*Нт.* 1918. 13 верас.) А. Луцкевіч пісаў, што студэнты з Горадзенскае губ. заснавалі пры ўн–це, апроч таго, Горадзенскі гурток пазнаньня Беларусі.

[11] Гл. заўвагу 14 да арт. “Па дарозе да новага жыцьця”. Забастоўка ў Маладэчанскай сэмінарыі адбылася ў канцы 1906 г. (гл.: *НН.* 1906. 10(23) лістап.), а ў Полацкай — увесну 1907 г. (гл.: *НН.* 1907. 13(26) крас.).

### *За дваццаць пяць гадоў (1903 — 1928): Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацый: Беларуская Рэвалюцыйная Грамада Беларуская Сацыялістычная Грамада (с. 170)*

Друкуюцца паводле аднайменнай бр. (Вільня, 1928), дзе апублікаваныя ўпершыню.

У 1991 г. успаміны перавыдадзеныя выдавецтвам “Беларуская Савецкая Энцыклядэдыя” імя Петруся Броўкі.

Гл. таксама: “Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады”.

Успаміны “За дваццаць пяць гадоў” выклікалі рэзка адмоўную рэакцыю бальшавікоў. У гэтым сэнсе паказальны арт. Ан. Зоркага “Беларускі нацыянал–фашызм” у *Зьв* за 26—28.03.1929 г. Аўтара арт. абурала, у прыватнасьці, сьцьвярджэньне А. Луцкевіча, што ў форме БССР дзяржаўны ідэал, абвешчаны Актам Рады Рэспублікі 25.03.1918 г., зьдзейсьніўся толькі часткова. Гэтае сьцьвярджэньне аўтар арт. расцэньваў як заклік да барацьбы “супроць “абмаскальваньня”, супроць “маскоўскага імпэрыялізму”, “за поўнае ажыцьцяўленьне беларускага дзяржаўнага ідэалу, г. зн. за поўную незалежнасьць Беларусі ад Расіі”. Далей аўтар “лёгічна” выводзіў, што калі Пілсудзкі пачне вайну з СССР і паабяцае “незалежную дэмакратычную Беларусь”, дык дзеля вызваленьня ад маскоўскай залежнасьці Луцкевіч будзе заклікаць беларускія масы выступіць на баку Пілсудзкага. Ва ўспамінах “За дваццаць пяць гадоў” Ан. Зоркі бачыў ідэалягічную падрыхтоўку мас “да вайны супроць СССР” і верную службу польск. фашызму.

[1] І. Грынявіцкі быў ініцыятарам заснаваньня “мясцовае беларускае фракцыі” партыі “Народная Воля”. Фракцыя магла быць створана як пры жыцьці, так і па сьмерці І. Грынявіцкага. Час. “Гомон” фракцыя выпусьціла ў 1884 г.

[2] Spiritus movens — рухаючы дух.

[3] На ўвазе маецца Круг беларускае народнае прасьветы і культуры (1902—1904).

[4] *Была выдадзена адозва да грамадзянства...* — Гл. заўвагу 7 да ўспамінаў “Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча”.

[5] На ўвазе маецца, што В.Зелязей быў партыйным работнікам.

[6] *...ППС Літвы...* — На ўвазе маецца ППС у Літве (гл заўвагу 3 да арт. “Данос”).

[7] Гл. заўвагу 3 да арт. “Палітычныя лёзунгі беларускага руху”.

[8] *...тры беларускія брашуркі (“Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць”, “Хто праўдзівы прыяцель беднага народу” і “Як зрабіць, каб людзям было добра жыць на сьвеце” — здаецца, такія точна былі загалоўкі іх), што была выпусьціла ў Лёндане ў*

[64] Гл.: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 180—185.

*1903 годзе ППС...* — Гэтыя бр. выпусьціла ППС у Літве (гл. заўвагу 3 да арт. “Данос”) у лёнданскай друкарні ППС.

[9] Сялянскі зьезд адбыўся ў сак. 1905 г. Улётка “Першы мужыцки зъезд” захоўваецца ў НАРБ: ф. 325, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 4. На ўлётцы маецца дэвіз БСГ: “Працовитая беднота усих краіоу, злучайся!”. Зь некаторымі адхіленьнямі ад арыгіналу ўлётка надрукавана ў: *Сацыялістычны рух на Беларусі*, дзе пазначана: “Бяз пэўнай даты”.

[10] *...ды рабіў выезды за граніцу, завязваючы рэвалюцыйныя сувязі — у першы чарод з украінцамі.* — У канцы 1904 г. І. Луцкевіч займаўся ў славянскім сэмінары праф. Ягіча ў Вене і наведаў Львоў (гл. с. 105 і 160 гэтага выданьня).

[11] *У Менску мы выпусьцілі спэцыяльную лістоўку аб сялянскіх забастоўках...* — Улётка “Да усих работникоу и работниц дваровых, да усих дзеравенских людзей на тутошней зямли Беларускай” надрукавана ў: *Сацыялістычны рух на Беларусі*.

[12] Усе ўлёткі ў 1905 г. выдавала не БРГ, а БСГ.

[13] *У 1905 годзе ўлетку была зроблена спроба выпусьціць першы нумар падпольнага органу Грамады (яшчэ “Рэвалюцыйнай”)...* — Гл. заўвагу 13 да арт. “Национальнае возрождение белорусов”.

[14] У арт. “10–летні юбілей беларускай прэсы” (1916) А. Луцкевіч пісаў, што “Свабода” выйшла як орган БРГ у 1903 г.[65]. Пра “спробу выдаваць... падпольную “Свабоду” (на цыклястылю) як орган Беларускае Рэвалюцыйнае Грамады” ў 1903 г. А. Луцкевіч пісаў і ў 1921 г. І дадаваў, што газ. “ня бачылі дзеля тае простае прычыны, што ўвесь наклад перад жандарскім обыскам быў зьнішчаны ў канспірацыйным складзе”[66]. Як паказвае Ю. Туронак, газ. “Свабода” была выпушчаная В. Іваноўскім ды інш. падчас калядных вакацыяў, г. зн. у канцы 1902 г. (паводле ст. ст.) або на пачатку 1903 г. (паводле н. ст.) як орган БРП[67].

[15] *... каля крытычных дзён кастрычніка...* — Маецца на ўвазе кастрычніцкі ўсерасейскі паліт. страйк 1905 г.

[16] *...царскі маніфэст аб “свабодах”...* — Маецца на ўвазе маніфэст 17(30).10.1905 г., у якім Мікалай II абвяшчаў, у прыватнасьці, аб дараваньні народу “непахісных асноў грамадзянскай свабоды на пачатках сапраўднай недатыкальнасьці асобы, свабоды сумленьня, слова, сходаў і саюзаў” ды абяцаў склікаць заканадаўчую Дзярж. Думу, даўшы пры гэтым выбарчае права рабочым.

[17] *Расстрэл 17–га кастрычніка 1905 г.* — Гл. заўвагу 3 да працы “Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады”.

[18] *... абвешчана другая агульная забастоўка.* — На ўвазе маецца сьнежаньскі ўсерасейскі паліт. страйк 1905 г. У Маскве і некаторых іншых гарадох ён перарос у збройнае паўстаньне.

[19] *...шапку “батаруўку”...* — Круглая высокая шапка зь пяром (на ўзор тае, якую насіў Сьцяпан Батура).

[20] *...“прэзыдэнт” яе... быў пасьля засуджаны на тры гады крэпасьці.* — А. Бурбіса арыштавалі 24.08.1906 г. у Шчорсаўскай вол. Наваградзкага пав.

[21] *... на другога брата, Віцюка...* — Як падае Ф. Стацкевіч, імя другога з братоў Умястоўскіх было Вітольд[68].

[22] Каўцыя (польск. kaucja) — грашовы залог.

[23] Вядома, што са жн. 1918 г. Я. Ліцкевіч уваходзіў у Краёвы камітэт камуністычных арганізацыяў Беларусі і Літвы[69].

---

[65] Гл.: *ПКЛіМ*. С. 28.

[66] Тамсама. С. 102.

[67] Гл.: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 46—47, 161—163.

[68] Гл.: Стацкевіч Ф. Успаміны // Arche. 2006. № 9. С. 165.

[69] Гл.: *ЭГБ*. Т. 4. С. 257. Што праўда, у энцыкляпэдычным арт. напісана “Ю. [Юзаф?] Ліцкевіч”.

[24] ...*"Сацыял–Дэмакратычная Партыя Беларусі"...* — Гл. заўвагу 5 да "Рэфэрату Беларускае дэлегацыі на Лязанскай канфэрэнцыі народаў Расеі".

[25] ...*"Царская гаспадарка"...* — Праклямацыя "Царская гаспадарка" надрукаваная на замову Кругу беларускае народнае прасьветы і культуры ў крас. 1904 г.[70]

[26] ...*адозва да рэкрутаў і інш.* — На ўвазе маецца праклямацыя "Прызыўныя!". Частковы пералік улётак, якія выпусьціла СПБР, гл. у: Туронак. Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 64.

[27] ...*у канцы 1905 году быў склікaны партыйны (дэлегацкі) зьезд БРГ...* — Гл. заўвагу 17 да ўспамінаў "Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча".

[28] ...*у духу Маслава.* — Гл. заўвагу 7 да працы "Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады".

[29] ...*зь Пецярбургу — Іваноўскі...* — Гл. заўвагу 4 да працы "Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады".

[30] ...*зьмену партыйнага назову на: "Беларуская Сацыялістычная Грамада"...* — Гл. заўвагу 13 да арт. "Национальное возрождение белорусов".

[31] *Галоўныя пункты нашае зямельнае праграмы...* — Гл. таксама арт. А. Луцкевіча "Аграрная праграма" ў: *БЗВ*. Праграма БСГ зь нязначным скаротам надрукавана ў: *Гісторыя Беларусі канца XVIII — пачатку XX ст.* С. 218—220. Тэкст Праграмы БСГ, надрукаваны у гэтай кн., у пэўных дэталях адрозьніваецца ад тэксту, зьмешчанага ў: Шлюбскі А. Да гісторыі БСГ // *П*. 1925. № 5.

[32] ...*Фэлюк Стацкевіч быў спэцыяльна адкамандзіраваны да чужое нелегальнае друкарні ў Вільні, каб навучыўся друкарскае штукі...* — Ф. Стацкевіч спачатку вучыўся ў Кракаве, а потым працаваў у віленскай друкарні ППС. 1.03.1906 г. ён прыехаў для наладжваньня друкарні ў Менск[71].

[33] ...*На Тарговай вуліцы (каля Нізкага Рынку)...* — Гл. заўвагу 8 да працы "Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады".

[34] *Першы з ... "правалаў" стаўся мо навет у канцы 1905 году...* — С. Багушэўскі і К. Каганец былі арыштаваныя 19.12.1905 г.

[35] ...*перад і ў часе агульнае забастоўкі...* — На ўвазе маецца кастрычніцкі ўсерасейскі паліт. страйк 1905 г., які ў Менску завяршыўся расстрэлам 18 (31) кастр.

[36] ...*у нашым доме (Крашчэнская, 27)...* — Гл. заўвагу 9 да працы "Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады".

[37] Старэйшую зь сясьцёр Ізмайлавічанак звалі Аляксандраю. Мажліва, тут памылка друку (мусіла б быць "Саша").

[38] ...*нявeдамы й нявыкрыты матрос.* — Гэта быў матрос эсэр Я. Акімаў.

[39] ...*у Зелязея, каторы быў за гэта сасланы ў Сібір.* — Гл. заўвагу 1 да арт. "Данос".

[40] Цяпер в. Ракуцёўшчына Маладэчанскага раёну.

[41] ...*была зарганізавана экспрапрыяцыя...* — Гл. заўвагу 13 да працы "Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады".

[42] ...*у працягу 1906 году... нашы менскія таварышы...* — У далейшым пераліку памылкова названы К. Каганец, які быў арыштаваны ў канцы 1905 г.

[43] Гл. заўвагу 23 да арт. "Белорусы".

[44] ...*Юраўскі праспэкт, цяпер вул. Міцкевіча...* — У сучаснай Вільні — праспэкт Гедыміна.

[45] ...*літоўскі эсдэк Біржышка (брат Міхала, імя яго не памятаю)...* — У Міхала (Мікаласа) Біржышкі было два браты: Вацловас і Віктарас. Абодва яны былі сябрамі ЛСДП.

[46] Канфэрэнцыя БСГ адбылася 3—4.06.1906 г.

[47] ...*праекту зямельнае рэформы Ражкова аб "прырэзках"...* — Гл. заўвагу 17 да

---

[70] Гл.: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. С. 49—52.

[71] Гл.: Стацкевіч Ф. Успаміны // Arche. 2006. № 9. С. 165—167.

працы “Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады”.

[48] Гл. заўвагу 14 да арт. “Па дарозе да новага жыцьця” і заўвагу 11 да арт. “Роля моладзі ў пачатках адраджэнскага руху”.

[49] Гл. заўвагу 19 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[50] *Пасьля Колас (Костусь Міцкевіч) пробаваў..., ды сход вучыцялёў быў “накрыты” паліцыяй, і Колас зь нешта пяцьма таварышамі былі засуджаны на тры гады крэпасьці кожны.* — Гл. арт. “Палітычны працэс Якуба Коласа і тт.”.

[51] *...асуджэньне экспрапрыяцыі, зарганізаванай у Менску бязь ведама і згоды ЦК...* — Гл. заўвагу 41.

[52] *...Іван... тут кінуў думку аб патрэбе друкаваньня легальнае беларускае газэты...* — Гл. заўвагу 20 да працы “Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады”.

[53] *Ня буду тут затрымліваца над гэтымі часопісамі: аб іх мне ўжо даводзілася пісаць у беларускіх газэтах даволі падробна — у сувязі зь нядаўным 20–лецьцем іх.* — Гл. артыкулы “1906 — 14/IX — 1926” і “Наша Ніва (2–га лістапада 1906 г. — 2–га лістапада 1926 г.)”.

[54] *...у 1906 (а мо і ў 1907?) годзе БСГ апошні раз прымала ўчасьце ў зьезьдзе рэвалюцыйных партыяў усяе Расеі, які адбыўся ў Фінляндыі. Дэлегатам нашым быў Іван.* — Канфэрэнцыя сацыялістычных партыяў адбылася 16—20.04.1907 г.[72]

[55] *...мы адбылі канфэрэнцыю ў Докшыцах, на якую прыехалі — апрача нас двайга — Уласаў і Стацкевіч...* — Як успамінаў Ф. Стацкевіч, у канфэрэнцыі браў удзел і В. Зелязей[73].

[56] *Ластоўскі... марнаваў свае сілы й бясспрэчныя здольнасьці на няўдзячную ролю тварца клерыкальна–кансэрватыўнае партыі...* — Гл. заўвагу 12 да арт.”Адраджэньне нацыі”.

[57] *...мы ўтварылі — нібы філію Грамады — Беларускую Сацыял–Дэмакратычную Работніцкую Групу...* — Гл. заўвагу 44 да ўспамінаў “Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча”.

[58] Гл. заўвагу 30 да працы “Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады”.

[59] Праграму БСГ, прынятую ІІІ зьездам партыі, гл. у: *Arche*. 2006. № 4. С. 169—172.

[60] *Сярод грамадаўцаў... пачала выяўляцца дыфэрэнцыяцыя. Выдзялілася спаміж іх больш радыкальная сацыяльна група..., якая... узяла на сябе ініцыятыву будаваньня Радавае Беларусі...* — Гл. заўвагу 34 да працы “Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады”.

[61] Гл. заўвагу 24 да “Мэмарыялу Беларускага Ўраду”.

[62] *Першы Ўсебеларускі Кангрэс..., вынікам якога было першае абвяшчэньне самастойнае Беларускае Рэспублікі ў фэдэрацыйнай сувязі з Расеяй ды стварэньне Рады Рэспублікі (“прадпарляманту”), пад старшынствам Язэпа Лёсіка, і яе выканаўчага органу — першага беларускага ўраду пад назовам Народнага Сакратарыяту, зь Язэпам Варонкай на чале.* — Гл. заўвагі 1 да арт. “Незалежная Беларусь” і 16 да “Мэмарыялу Беларускага Ўраду”.

[63] *... мы ўжо былі падгатаваны да незалежніцкае канцэпцыі, якая ў нас знайшла была сваё выражэньне ў адпаведнай рэзалюцыі віленскае канфэрэнцыі 25—27 студзеня 1918 году.* — Рэзалюцыі канфэрэнцыі гл. у *Дадатку*. Абраная канфэрэнцыяй БРВ 18.02.1918 г. абвясьціла дзяржаўныя сувязі з Расеяй парванымі (гл. с. 88 гэтага выданьня).

[64] *...на скліканым адумысна паседжаньні Рады, якое... скончылася ў 8 гадз. раніцы 25 сакавіка 1918 году...* — Гл. заўвагу 4 да арт. “Незалежная Беларусь”.

[65] ССРР (СССР) створаны 30.12.1922 г. як саюз самастойных дзяржаў.

[66] *...былі ў той час згуртаваны ў так званым “Беларускім Прадстаўніцтве”...* —

[72] Гл.: Адамовіч Ант. “Як дух змаганьня Беларусі”... С. 18.

[73] Гл.: Стацкевіч Ф. Успаміны // Arche. 2006. № 9. С. 169—170.

Гл. заўвагу 15 да арт. “Адраджэньне нацыі”..

[67] *...“Хрысьціянскай Злучнасьці”...* — На ўвазе маецца заснаваная ў тр. 1917 г. ХДЗ, перайменаваная ў сярэдзіне 1920–х гг. у БХД.

[68] *Толькі праз пару месяцаў, пасьля паўторнага прыезду ў Менск Івана і зробленага ім на “Прадстаўніцтва” націску, апошняе ўвайшло ў склад Рады Рэспублікі...* — Сябры Менскага Беларускага прадстаўніцтва на чале з Р. Скірмунтам былі кааптаваныя ў склад Рады БНР 12.04 і 14.04.1918 г. У тыя ж дні другі раз у 1918 г. у Менск дзеля гэтага прыяжджаў І. Луцкевіч[74].

[69] *...габінэт Скірмунта не пратрываў, здаецца, і двух тыдняў...* — Кабінэт Р. Скірмунта існаваў з 9.07 па 22.07.1918 г.

[70] *...у працягу 1918 году ў Грамадзе зрабіўся раскол, які выклікаў ліквідацыю партыі: яна развалілася на дзьве арганізацыі...* — БСГ распалася на тры арганізацыі: БСДП, БПС–Р і БПС–Ф. Гл. заўвагі 32 і 33 да працы “Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады”.

[71] *Яны выпускалі сваю часопісь...* — З 14.01 па 25.03.1919 г. левая фракцыя БСГ выдавала газ. “Hramadzianin” пад ідэйным кіраўніцтвам Т. Грыба.

[72] *Партыя беларускіх эсэраў — пасьля некалькіх гадоў бязьдзейнасьці і пустых гутарак ды разьбіцьця Рады Рэспублікі...* — А. Луцкевіч не зусім карэктны, калі піша пра бязьдзейнасьць БПС–Р. Пішучы, што БПС–Р разьбіла Раду БНР (на ўвазе маюцца падзеі 13.12.1919 г.), аўтар выпускае з–пад увагі, што што ня меншую ролю ў гэтым адыгралі дзеячы БПС–Ф (П. Крачэўскі, В. Захарка ды інш.).

[73] *...зьліквідавалася і блізу ўся... увайшла ў склад Камуністычнае Партыі Беларусі...* — Гл. заўвагу 35 да працы “Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады”. Сьцьвярджэньне, што ў КП(б)Б перайшла блізу ўся БПС–Р, памылковае, бо ў бальшавіцкую партыю былых эсэраў прымалі ў індывідуальным парадку.

[74] *А Бел. С.–Д. Партыя, хоць і працавала нейкі час ды апублікавала сваю праграму...* — Асобнаю бр. у 1919 г. быў апублікаваны папулярны выклад праграмы.

[75] *...эсэры праграмы ня мелі...* — Тэкст праграмы БПС–Р гл. у.: *Октябрь 1917 и судьбы политической оппозиции*.

## *Найгоршая балячка (с. 191)*

Друкуецца паводле: *БЗвон*. 1931. 29 чэрв., дзе апублікаваны ўпершыню бяз подп.

[1] На ўвазе маецца БСРГ.

## *Да гісторыі Беларускае Рэвалюцыйнае (пасьля Сацыялістычнае) Грамады (Даты і факты) (с. 193)*

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў БДАМЛМ: ф. 3, воп. 1, адз. зах. 274.

Рукапіс складаецца з двух аркушаў у клетку з вучнёўскага або агульнага сшытку і трох аркушаў, кожны зь якіх роўны палавіне аркушу фармату А4. Тэкст пісаны чорным атрамантам. Падзагаловак “(Даты і факты)” упісаны сінім алоўкам.

Першыя 2 старонкі рукапісу — уступ да арт., мэтаю якога было зьняць пэўныя супярэчнасьці паміж зьвесткамі з гісторыі БРГ/БСГ, што ўтрымліваліся ў пісьмовых успамінах А. Бурбіса, В. Іваноўскага ды А. Луцкевіча і на якіх завастрыў увагу А. Станкевіч у сваёй працы “Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня”.

---

[74] Гл.: *Архівы БНР*. Т. І. Кн. 1. С. 114—115.

Поўнага тэксту гэтага рукапісу ў БДАМЛМ няма: адсутнічае асноўная частка артыкулу (арк. 4—23 паводле аўтарскае нумарацыі).

На аркушах 24—26 паводле аўтарскае нумарацыі ўтрымліваецца сьпіс улётак, якія ў 1905 г. выпусьціла БСГ. Нумарамі 5—8 (ад “Да ўсіх работникоў...” да “Carawa Duma”) пазначаныя ўлёткі, надрукаваныя ў: *Сацыялістычны рух на Беларусі*.

Пералік улётак, зроблены А. Луцкевічам, ня поўны. Напрыклад, у апошняй кнізе выбраных твораў Цёткі[75] маюцца ўлёткі, ня ўключаныя ў *Сацыялістычны рух на Беларусі*.

Спасылка на № 3 час. “Шлях Моладзі” за 1930 г., у якім А. Станкевіч пачаў друкаваць сваю працу “Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня”, і адсутнасьць згадкі пра аднайменную кнігу, што выйшла ў 1934 г., даюць падставу меркаваць, што арт. “Да гісторыі Беларускае Рэвалюцыйнае (пасьля Сацыялістычнае) Грамады” А. Луцкевіч пісаў паміж сакавіком 1930 і пачаткам 1934 г.

[1] *...“старое” Грамады* — “Старою” Грамадою ў 1920–х называлі БСГ ў адрозьненьне ад БСРГ.

[2] *Адзначаю..., што Ал. Прушынскі (Алесь Гарун)... да Грамады не належаў...* — Гарун быў эсэрам–максымалістам; у БСГ уступіў па вяртаньні з Сібіру.

[3] “Сканкрэтызую” напісана замест закрэсьленага слова “адзначу”.

[4] *...“Беларусь”, Менск, 1924...* — Поўная назва зб.: Беларусь: Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху. / Калект. праца пад агульнай рэд. А. Сташэўскага, З. Жылуновіча і У. Ігнатоўскага з дапамогай А. Смоліча, С. Некрашэвіча і Я. Пятровіча. Мн., 1924. Зьмешчаны ў гэтым зб. тэкст А. Бурбіса зьўяляецца фрагмэнтам ягонае шырэйшае працы “Кароткі агляд беларускага нацыянальна–рэвалюцыйнага руху”, якая ўпершыню надрукавана ў: Вестник Народного комиссариата просвещения. 1921. №№ 1, 2. (Час. выходзіў у 1921—1922 гг. у Менску; меў беларускі аддзел.)

[5] Улётка “Царава “Дума” надрукавана таксама ў кн.: Цётка. Выбраныя творы. Менск, 2001.

[6] *У бібліятэцы ім. Урублеўскіх у Вільні...* — Цяпер LMAB.

[7] Улётка “Чым цар ратуецца” з пэўнымі адхіленьнямі ад арыгіналу апублікавана ў кн.: Цётка. Выбраныя творы. Мн., 2001.

[8] Улётка “Далоў цараву “думу”!” з пэўнымі адхіленьнямі ад арыгіналу апублікавана ў кн.: Цётка. Выбраныя творы. Мн., 2001.

[9] Праклямацыя “Беларуски Крестьянски Союз” захоўваецца ў НАРБ: ф. 325, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 5—6.

[10] *...да арганізацыі.* — Да партыі.

[11] Справаздача аб канфэрэнцыі БСГ 3—4.06.1906 г. апублікавана ў: *БЗВ*.

[12] *...дзьве проціваенныя адозвы ў беларускай мове з чатырма і двума подпісамі...* — Гл. заўвагу 3 да арт. “Палітычныя лёзунгі беларускага руху”.

[13] Пераклад арт. “Program agrarny” надрукаваны ў: *БЗВ*. С. 39—40.

[14] *...на Другім Партыйным Зьезьдзе ў канцы 1905 году...* — Гл. заўвагу 17 да ўспамінаў “Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча”.

## *Нарадавольцы–беларусы і іх орган “Гомон”. К 50–лецьцю выхаду “Гомона” (с. 195)*

Друкуецца паводле рукапісу, які захоўваецца ў LMAB: ф. 21, спр. 339. Устаўка на с. 4 рукапісу захоўваецца тамсама (спр. 341, арк. 4—5).

Упершыню апублікавана ў: *БЗВ*.

---

[75] Цётка. Выбраныя творы. / Уклад., прадм. В. Коўтун. Камэнт. С. Александровіча і В. Коўтун. — Мн.: Беларускі кнігазбор, 2001.

Дадатковыя матэрыялы і даведкі да рэфэрату захоўваюцца таксама ў LMAB: ф. 21, спр. 341, арк. 6—14.

У рукапісе рэфэрату выкасаваны падзагаловак: "Лекцыя, прачытаная ў Т–ве Прыяцеляў Беларусаведы — студэнтаў Ун–ту Ст[эфана] Б[аторага] у Вільні". У канцы рукапісу: "Чытана з памяці ў студз. 1934 г. у Т–ве Беларусаведы УСБ. Вільня, 4 сакавіка 1934 г. Канчальна апрацована на пісьме".

Мяркуючы па спасылцы на арт. В. Дабачэўскай, гэтая апрацоўка была зьдзейсьнена ў 1935 г. Чыставік рэфэрату ня выяўлены.

Цытаты з часопіса "Гомон" спраўджаныя паводле кн.: Публицистика белорусских народников: Нелегальные издания белорусских народников (1881—1884). / Сост. и подгот. текстов С. Х Александровича и И. С. Александрович; предисл. и комм. И. С. Александрович. Мн., 1983.

Цытаты з В.К. Каліноўскага спраўджаныя паводле кн.: Каліноўскі К. За нашую вольнасць: Творы, дакументы / Уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва. Мн., 1999.

Акрамя гэтае лекцыі, вядомы таксама рэфэрат А. Луцкевіча "Нарадавольцы–беларусы і іх орган "Гомон" (Да пытаньня пра эвалюцыю палітычнай ідэалёгіі беларусаў у XIX ст.)". Абодва гэтыя тэксты ўзаемадапаўняюцца і іх можна разглядаць як дзьве часткі не аформленага да канца дасьледаваньня.

[1] Слова ўпісанае замест закрэсьленага "перадрук".

[2] *Pium desiderium* — добрае пажаданьне.

[3] *...з ініцыятывы...* — Словы ўпісаныя замест выкасаваных "пры актыўным учасьці, а можа і з ініцыятывы".

[4] *Ужо і да нарадавольцаў шмат хто разглядаў Беларусь як палітычную катэгорыю.* — Пачатковая рэдакцыя сказу: "Бо ж Беларусь як палітычную катэгорыю разглядаў ужо шмат хто і да нарадавольцаў".

[5] Відавочна, што А. Луцкевічу ня быў вядомы плян аднаўленьня ВКЛ, прадстаўлены Аляксандру I у 1811 г. М. К. Агінскім[76].

[6] *...эмігрантаў...* — Было: "паўстанцаў–эмігрантаў".

[7] *...з 1831 году, заклаўшых у Парыжу "Towarzystwo Demokratyczne"...* — Было: "...з Беларусі, увайшоўшых у склад закладзенае ў Парыжу арганізацыі "Towarzystwo Demokratyczne"..."

[8] *..."bez sastrzezeń"...* — Без агаворак.

[9] Гэты сказ упісаны на адвароце 2–га арк.

[10] *...7 адозваў...* — А. Луцкевіч не лічыў "Мужыцкую Праўду" газэтай. Гл. заўвагу 16 да арт. "Национальное возрождение белорусов".

[11] *"Дзецюкі! — пісаў Каліноўскі ў аднэй із сваіх адозваў да беларускіх сялян. — Калі цяпер Ронд Польскі..."* — Гл. заўвагу 1 да арт. "Дыктатар Літвы (У шасьцідзясятую гадавіну сьмерці)".

[12] Слова ўпісанае замест "усё ж залічаюць".

[13] Загаловак бр. не напісаны, але можна думаць, што на ўвазе маецца праца А. Станкевіча "Кастусь Каліноўскі: "Мужыцкая Праўда" і ідэя незалежнасьці Беларусі" (Вільня, 1933).

[14] Перадсьмяротны верш "Марыська чарнабрэва, галубка мая..." і "Пісьмо з–пад шыбеніцы" былі вядомыя А. Луцкевічу паводле публікацыі В. Ластоўскага ў: *Нт.* 1916. 15 лют. У вершы словы "Марыська чарнабрэва" былі пададзеныя як "Беларуская зямелька", а ў разьвітальным лісьце словы "Браты мае, мужыкі родныя" — як "Беларусы, браты мае родныя!". У такой рэдакцыі А. Луцкевіч цытаваў гэтыя творы ў працы "Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры" (гл. у: *ПКЛіМ*).

---

[76] Гл.: *Адраджэнне*. С. 200—223.

Публікацыя твораў К. Каліноўскага, ажыцьцёўленая В. Ластоўскім, лічыцца нетрадыцыйнаю. Яны зьмешчаны і ўкамэнтаваны ў кн.: Каліноўскі К. За нашую вольнасьць: Творы, дакументы / Уклад., прадм., паслясл. і камент. Г. Кісялёва. — Мінск, 1999.

[15] Над пачаткам гэтага сказу напісаныя і выкасаваныя словы “па сваей ідэалёгіі шчырага народніка”.

[16] Пасьля гэтага слова былі напісаныя і выкасаваныя словы “пры ўсей яго апазыцыйнасьці да польскага цэнтралізму”.

[17] Наступны абзац друкуецца паводле ўстаўкі на с. 4.

[18] Словы надпісаныя замест “расейскім уладам”.

[19] Слова надпісанае замест “далейшы”.

[20] Далей выкасаваныя сказы: “Трудней даць адказ на наступнае пытаньне: хто ўваходзіў у склад фракцыі? Трэба думаць, што яна была нячысьленая”. Над гэтымі словамі і на левым полі ўпісанае слова “ўстаўка”. Наступныя абзацы друкуюцца паводле гэтае ўстаўкі.

[21] ... *я абмежываюся*... — Словы ўпісаныя замест выкасаваных “аўтар гэтае працы абмежываецца”.

[22] Далей выкасаванае слова “прыватных”.

[23] Далей выкасаваныя словы: “дзяліўшагася з аўтарам гэтае працы ў пісьмах сваіх да мяне ўспамінамі аб “Гомоне”.

[24] Лісты А. Багдановіча да А. Луцкевіча захоўваюцца ў LMAB (ф. 21).

[25] Канец устаўкі.

[26] Пачатковая рэдакцыя сказу: “Імёнаў сяброў гэтае групы ня мог назваць Адам Багдановіч, бацька паэты нашага Максіма Багдановіча, калі да яго зьвярнуўся аўтар гэтых радкоў”.

[27] Далей выкасаванае слова “мне”.

[28] Кальпартэр (польск. kolporter) — Гл. заўвагу 2 да арт. “Наша Ніва” (2–га лістапада 1906 г. — 2 лістапада 1926 г.).

[29] Праскоўя Іваноўская, дачка сьвятара, працавала ў друкарні “Народнай Волі”. У 1882 г. яна была арыштавана, а затым асуджана на страту. Сьмяротны прысуд заменены на 20 год катаргі. У час. “Каторга и ссылка” (1923. № 5) зьмешчаны яе партрэт і ўспаміны.

[30] Далей ідзе цяжкачытэльны фрагмэнт са шматлікімі праўкамі і ўстаўкамі. Узнаўляем закрэсьленае наколькі магчыма: “Значна пазьней — у пачатку 900–х гадоў, калі тварылася Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, — аўтар гэтае працы даволі блізка супрацоўнічаў з Бонч–Асмалоўскім, спагадаўшым гэтаму пачынаньню беларускіх адраджэнцаў на ніве рэвалюцыйнае працы, але [ніколі?] ні слова ад яго ня чуў аб [нечытэльна] пачынаньнях з гэткае недалёкае мінуўшчыны, бо ж 20–х толькі гадоў.

Тое ж можна сказаць і пра Каваліка, з каторым стыкаўся шмат хто зь беларускіх дзеячоў. [Нечытэльна] нічога падобнага ад яго ніхто ня чуў. Можна думаць, што беларусы–нарадавольцы дзяліліся тады на дзьве групы: “заалягічных” беларусаў, якія не цікавіліся беларускім пытаньнем як пытаньнем нацыянальным (да гэтае групы, судзячы зь ягоных пісем, належаў і Ад. Ягор. Багдановіч), і сьведамых беларусаў, якія...” Далей ідуць словы “...і глядзелі на гэтае пытаньне як на “другараднае”...”

[31] ...*лічба такіх нарадавольцаў мусіла быць*... — У пачатковай рэдакцыі: “лічба апошніх была”.

[32] Далей выкасаваныя словы “гэтае працы”.

[33] Слова надпісанае замест “кірункам”.

[34] Далей выкасаванае слова “мне”.

[35] ... *не удалося і*... — Надпісана над выкасаванымі словамі “нягледзячы на маё жаданьне”.

[36] ...*забойства цара.* — Самі народнікі разглядалі гэты акт не як забойства, а як вы-

кананьне прысуду над царом за яго злачынствы. Для Грынявіцкага, які, трэба думаць, добра ведаў аб падзеях 1863—1864 гг. у Беларусі і Літве, злачынствы цара былі тым больш відавочныя.

[37] Далей выкасаваныя словы "даволі наіўна".

[38] Слова ўпісанае пасьля выкасаваных "адказную і небясьпечную".

[39] У рукапісе гэтае слова ўзятае ў дзьвюкосьсе.

[40] Далей выкасаваны сказ: "З дапіскі да аднае з стацей, зьмешчанае ў № 2 "Гомона", гаворыцца, што гэтая стацьця шырака закрануўшая беларускае пытаньне, хадзіла ўжо даўно ў рукапісе па рукох сярод пецярбурскіх беларусаў".

[41] Гэтыя словы вылучаныя А. Луцкевічам.

[42] Вылучэньні ў гэтай цытаце належаць А. Луцкевічу.

[43] *...значыць, і па–за партыяй "Народнае Волі" былі ў той час сьведамыя беларусы, думкі якіх аб беларускім пытаньні зыходзіліся з думкамі партыйных беларусаў...* — Гэтая выснова, слушная сама па сабе, не датычыць аўтара гоманаўскага арт., бо ён залічвае сябе і да беларусаў, і да рэвалюцыянэраў, і да сацыялістаў, і да "Народнае Волі". Акрамя таго, пабочны чалавек наўрад ці мог ведаць тое, што І. Грынявіцкі быў адным з гарачых заснавальнікаў беларускае мясцовае фракцыі "Народнае Волі".

[44] Motto — дэвіз.

[45] Працяжнікі ў гэтым сказе належаць А. Луцкевічу.

[46] У кн. "Публицистика белорусских народников" наступны сказ пачынецца з абзацу.

[47] "Вестник Народной Воли", пра які гаворка далей, выходзіў у 1883—1886 гг. у Парыжы.

[48] Гл. у кн. "Публицистика белорусских народников".

[49] Далей выкасаваная ўстаўка: "які, як ужо было сказана, лічыў, што "Гомон" выходзіў па–беларуску".

## *Нарадавольцы–беларусы і іх орган "Гомон" (Да пытаньня пра эвалюцыю палітычнай ідэалёгіі беларусаў у XIX ст.) (с. 210)*

Друкуецца ў перакладзе з польск., зробленым паводле машынапісу "Narodowolcy–Białorusini i ich organ "Homon" (Przyczynek do ewolucji ideologji politycznej Białorusinów w XIX wieku"), які захоўваецца ў БДАМЛМ: ф. 3, воп. 1, адз. зах. 271, арк. 3—17.

Тэкст датаваны: *Wilno. Maj 1935 r.*

Тамсама (арк. 19—23) захоўваюцца 5 рукапісных ўставак да гэтага тэксту.

Рукапіс рэфэрату захоўваецца ў LMAB (ф. 21, спр. 340, арк. 1—30).

Упершыню пераклад рэфэрату надрукаваны ў: *БЗВ*.

Цытаты з часопіса "Гомон" перакладзеныя паводле кн.: Публицистика белорусских народников: Нелегальные издания белорусских народников (1881—1884). / Сост. и подгот. текстов С. Х Александровича и И. С. Алексадрович; предисл. и комм. И. С. Александрович. Менск, 1983.

17—20.09.1935 г. у Вільні адбыўся VI усеагульны зьезд польск. гісторыкаў. БНТ на ім прадстаўлялі А. Луцкевіч і В. Грышкевіч. Луцкевіч выступіў з прывітальным словам па–беларуску і з гэтым рэфэратам. Пасьля рэфэрату адбылася дыскусія. Прывітальнае слова Луцкевіча, тэкст яго рэфэрату і стэнаграма дыскусіі надрукаваныя ў выданьні: *Pamiętnik VI powszechnego zjazdu historyków polskich w Wilnie.* 17—20.09.1935. T. 1—2. Lwów, 1936[77]. Пераклад рэфэрату і дыскусіі, зроблены А. Смаленчуком паводле гэтага выданьня, упершыню надрукаваны ў: *Сп.* 2000. № 2—3. Часткова гэты пераклад рэфэрату надрукаваны ў: *Гісторыя Беларусі канца XVIII — пачатку XX ст.*

[77] Рэфэрат быў выдадзены таксама асобнаю адбіткаю.

Супастаўленьне тэксту рэфэрату, апублікаванага ў *Pamiętniku VI powszechnego zjazdu historyków polskich w Wilnie,* і машынапісу дае падставы зрабіць дзьве высновы: або складальнікі *Pamiętnika*... не палічылі патрэбным узяць пад увагу аўтарскія праўкі і ўстаўкі, або праўкі і ўстаўкі былі напісаныя пазьней — пасьля зьезду. Як бы там ні было, машынапіс з рукапіснымі ўстаўкамі можна лічыць апошняю — выпраўленаю і дапоўненаю — рэдакцыяй рэфэрату "Нарадавольцы–беларусы і іх орган "Гомон" (Да пытаньня пра эвалюцыю палітычнай ідэалёгіі беларусаў у XIX ст.)".

Гэты рэфэрат і лекцыю "Нарадавольцы–беларусы і іх орган "Гомон". К 50–лецьцю выхаду "Гомона" можна разглядаць як дзьве часткі не аформленага да канца дасьледаваньня.

[1] *Калі беларускія землі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай трапілі пад уладу Расеі*... — Гл. заўвагу 4 да "Мэмарыялу Беларускага Ўраду"..

[2] *... насуперак уніфікацыйным намаганьням польскай улады*... — Польскаю А. Луцкевіч называе ўладу ў Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Гл. заўвагу 7 да арт. "Национальное возрождение белорусов".

[3] Наступны абзац перакладзены з рукапіснай устаўкі да с. 2 машынапісу.

[4] На ўвазе маецца бібліятэка ўнівэрсытэту імя Сьцяпана Батуры ў Вільні.

[5] *Другой палітычнай падзеяй такога роду*... — На гэтым устаўка 1 заканчваецца.

[6] *...факт, што вызваленая такім чынам Польшча не ахоплівала Беларускіх Земляў, прымушаў шляхоцкую краёвую інтэлігенцыю... шукаць шляхі, каб адарваць ад Расеі і Беларускія Землі і аб'яднаць іх з Польшчай*... — Гл. заўвагу 5 да рэфэрату "Нарадавольцы–беларусы і іх орган "Гомон". К 50–лецьцю выхаду "Гомона".

[7] *... як і ў 1812 г*... — У машынапісе гэтыя словы выкасаваныя.

[8] У машынапісе гэтае слова (*pierwotnie*) упісанае ад рукі.

[9] Кн. А. Рыпінскага "Беларусь" у перакладзе на беларускую апублікавана ў: *Arche.*

[10] *...сем нумароў адозваў пад агульнаю назвай "Мужыцкая Праўда"*... — Гл. заўвагу 16 да арт. "Национальное возрождение белорусов".

[11] Наступны абзац перакладзены з рукапіснай устаўкі да с. 4 машынапісу.

[12] Кн. "Elementarz. Dla dobrych dzietok katolikou" передрукавана ў: *Arche.* 2010. №4.

[13] На гэтым устаўка да с. 4 машынапісу заканчваецца.

[14] Но мове арыгіналу гэты ліст А. Луцкевіч цытуе ў рэфэраце "Нарадавольцы–беларусы і іх орган "Гомон". К 50–лецьцю выхаду "Гомона".

[15] *...sui generis unikat*...— Свайго роду ўнікат.

[16] *...як сьцьвердзіла паліцэйскае сьледзтва*... — Гэтыя словы ўпісаныя ад рукі.

[17] Наступны абзац перакладзены з рукапіснай устаўкі да с. 8 машынапісу.

[18] У арыгінале — *Antoni Riażew*.

[19] *...ў дэрпцкай турме*... — Гаворка пра турму у г. Дэрпце (цяпер Тарту, Эстонія).

[20] *...не–палякі і не–жыды*... — Гэтыя словы ўпісаныя ад рукі.

[21] Гэтая зноска ўпісаная ад рукі.

[22] Гэты сказ упісаны ад рукі.

[23] Гэтае слова ўпісанае ад рукі.

[24] Гэтае слова ўпісанае замест "месца".

[25] Гэтае слова ўпісанае ад рукі.

[26] Гэты сказ упісаны ад рукі.

[27] Eo ipso — на моцы гэтага, тым самым.

[28] Далей выкасаванае слова "праўдападобна".

[29] Да гэтага сказу рэдакцыя "Pamiętnika VI powszechnego zjazdu historyków polskich w Wilnie..." зрабіла аднатацыю: "Сям'я Грынявіцкіх vel Грынявіцкіх, гербу Przegonia паходзіць з Падляшша; яе галіны сустракаюцца таксама на Меншчыне. Ігнат Грынявіцкі, рэвалюцыянэр, сябра "Народнай Волі", быў сынам Яўхіма, з польскай сям'і. Некаторы час ён рэдагаваў таксама расейскую "Рабочую газету". Нацыянальныя матывы ў той час

не адыгрывалі ніякай ролі ў расейскім рэвалюцыйным руху, якія наогул меў дзяржаўны расейскі характар. Польская і расейская рэвалюцыйная літаратура лічыць Грынявіцкага, хутчэй, палякам. Аднак гэта не зьмяншае значэньня выданьня “Гомона” ў гісторыі беларускага нацыянальнага руху”. (Пераклад А. Смаленчука.)

Наступны абзац перакладзены з рукапіснай устаўкі да с. 9 машынапісу.

[30] Гэтае слова ўпісанае ад рукі.

[31] Як інфармуе А. Смалянчук, першы нумар “Гомона” захоўваецца ў бібліятэцы Расейскай акадэміі навук у Санкт–Пецярбургу.

[32] У машынапісе ў словаспалучэньні *nie jest znane* апошняе слова выкасаванае і замест яго ад рукі ўпісана: *zaznaczone*.

[33] Далей тэкст (да канца абзацу) перакладзены з рукапіснай устаўкі да с. 10 машынапісу.

[34] *...тварэньня новых нацыяў...* — Гэтыя словы вылучаныя А. Луцкевічам.

[35] У машынапісе пачатак сказу (*Powyższe cytaty z “Homona” z całą stanowczością...*) ўпісаны замест: *Podkreśliłem w dwuch powyższych cytatach z “Homona” twierdzenia, które z całą stanowczością...*

[36] Гл. заўвагу 43 да рэфэрату “Нарадавольцы–беларусы і іх орган “Гомон”. К 50–лецьцю выхаду “Гомона” .,

[37] У машынапісе пачатак сказу (*Podaję na zakończenie...*) упісаны замест: *Ograniczając się w niniejszym streszczeniu do powyższego, podaję na zakończenie...*

[38] Гл. заўвагу 7 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[39] Наступная частка сказу ўпісаная ад рукі.

## *Палітычны працэс Якуба Коласа і тт. (З архіву Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча) (с. 218)*

Друкуецца паводле: *Запісы*, дзе апублікаваны ўпершыню пад крыпт. А. Л.

Надрукаваны таксама ў: *ПКЛіМ*.

Датуецца годам першае публікацыі.

[1] Праўдападобна, гэтым адвакатам быў К. Петрусевіч.

[2] Одпіс (польск. odpis) — копія.

[3] Цяпер матэрыялы, пра якія піша А. Луцкевіч, захоўваюцца ў БДАМЛМ: ф. 3, воп. 2, адз. зах. 2. З гэтых матэрыялаў вынікае, што Я. Бязьмен быў зьвязаны з РСДРП.

[4] *...угалоўн. улаж.* — угалоўнага ўлажэньня.

[5] *...станавых прадстаўнікоў...* — прадстаўнікоў станаў (саслоўяў).

[6] А. Сянкевіч праз Данію выехаў у ЗША, дзе ўключыўся ў сацыяліст. рух і атрымаў дыплём лекара. У 1917 г. вярнуўся ў Расею, уступіў у бальшавіцкую партыю.

[7] Пра Беларускі настаўніцкі саюз гл. заўвагу 19 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

## *Собственноручные показания А. И. Луцкевича. 30 октября 1939 г. (с. 222)*

Друкуюцца паводле *АЛ:МСД*.

Упершыню — *Нёман*. 1995. №1.

[1] *...в Ленинград...* — Так у 1924—1991 гг. называлі г. Санкт–Пецярбург.

[2] *...“Круг Беларускае Асветы”...* — На ўвазе маецца “Круг беларускае народнае прасьветы і культуры”.

[3] *...националистов–интеллигентов...* — Слова “интеллигентов” дапісана зьверху.

[4] Гл. заўвагу 21 да ўспамінаў “За дваццаць пяць гадоў”..

[5] ...*“Куды мужыцкія грошы ідуць”, “Як зрабіць, каб людзям добра было на свеце” и “Хто праўдзівы прыяцель беднага народу”*... — Гэтыя бр. выпусьціла ў 1903 г. ППС у Літве ў лёнданскай друкарні ППС. Гл. заўвагу 3 да арт. “Данос”.

[6] ...*прокламации на четырех языках: белорусском, латышском, литовском и польском — за подписью всех четырех партий на каждом издании. Белорусское издание как этой, так и другой, изданной совместно с ППС Литвы*... — Гл. заўвагу 3 да арт. “Палітычныя лёзунгі беларускага руху”.

[7] *И вот Громада из “революционной” перекрашивается с началом 1905 года в “социалистическую”*. — Гл. заўвагу 13 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[8] *Но земельная, обработка которой была поручена мне*... — Ва ўспамінах “За дваццаць пяць гадоў” А. Луцкевіч пісаў, што аграрную праграму БСГ ён распрацоўваў разам з А. Уласавым. Пра дату правядзеньня ІІ зьезду БСГ гл. заўвагу 17 да ўспамінаў “Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча”.

[9] ...*новый класс мелких производителей–хуторян (вроде прищеповских)*... — У 1920–х гг. у адпаведнасьці з новай эканамічнай палітыкай (НЭП) бальшавікоў у БССР праводзілася афіцыйна ўхваленае перасяленьне сялян на хутары і ў малыя пасёлкі, стварэньне заможных індывідуальных гаспадарак. Да канца 1929 г. на хутарах і водрубах знаходзіліся ўжо 23 адсоткі сялянскіх гаспадарак. У 1929 г., калі пачаўся пераход ад НЭПу да палітыкі суцэльнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі, ранейшая палітыка бальшавіцкай партыі ў БССР атрымала (ад прозьвішча народнага камісара земляробства Дз. Прышчэпава) назву “прышчэпаўшчына”, а хутары назвалі прышчэпаўскімі.

[10] ...*вот мы — “социалисты” серьезно обсуждали этот вопрос*... — Тут А. Луцкевіч падыгрывае сьледзтву, бо з пункту гледжаньня бальшавікоў пасьля кастрычніцкага перавароту рэлігійная сьвядомасьць падлягала выкараненьню, а Царква — ліквідацыі. Іншае вырашэньне рэлігійнага пытаньня не прадугледжвалася.

[11] *После известного митинга у Виленского вокзала в октябре 1905 г*. — Гл. заўвагу 3 да працы “Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады”.

[12] *Полиция как–то напала на след наших связей с Измайлович*... (...) *Вследствие этого...мы принуждены были скрыться и переехать на конспиративную жизнь в Вильно.* — Гл. с. 181 гэтага выданьня.

[13] ...*примыкавшим к марксистскому течению*... — Такім чынам А. Луцкевіч дае зразумець, што ў БСГ, апрача народніцкае, існавала і марксісцкая плынь.

[14] ...*организация пошла на такие сомнительные предприятия, как экспроприация правительственных денег у сборщика акцизных поступлений*... — Гл. заўвагу 13 да працы “Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады”.

[15] *На созванную в Вильно летом 1906 г. партийную конференцию явилось очень мало участников.* — Невядома, якую канфэрэнцыю БСГ аўтар мае на ўвазе, бо ва ўспамінах “За дваццаць гадоў” ён пісаў, што ў 1906 г. адбылося дзьве канфэрэнцыі. Гл. с. 183 і 184 гэтага выданьня.

[16] ...*на упомянутой конференции было решено прекратить партийную деятельность Громады*... — Фармальнае рашэньне аб спыненьні паліт. дзейнасьці Грамады было прынятае на парт. канфэрэнцыі 1907 г. у Докшыцах. Гл. с. 186 гэтага выданьня.

[17] *В первую очередь решено было приступить к организации популярного еженедельника на белорусском языке.* — Гл. заўвагу 20 да працы “Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады”.

[18] ...*изданием первого белорусского еженедельника “Наша Доля” и — вследствие закрытия судом на шестом номере — продолжательницы ее “Нашей Нивы”*... — Гл. заўвагу 17 да арт. “Национальное возрождение белорусов”.

[19] *“Наша Нива”, которая сменила “Нашу Долю”, принуждена была сразу умерить*

*свой тон и в первой же передовице заявить, что она будет органом "всего белорусского народа" в смысле нации...* — Пра тое, як рыхтаваўся праграмны артыкул *НН*, гл. с. 165 гэтага выданьня.

[20] *Первоначально редакция "НД" состояла из Фр. Умястовского — технического редактора, Алоизии Пашкевич (Тетки) и двух Луцкевичей. Издание финансировал из своих заработков Иван Луцкевич...* — Гл. заўвагу 23 да ўспамінаў "Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча" і заўвагу 3 да арт. "1906 — 14/IX — 1926".

[21] Гл. заўвагу 18 да арт. "Па дарозе да новага жыцьця".

[22] *...хора Роговского, муздраматического кружка...* — Гл. заўвагу 17 да арт. "На дарозе да новага жыцьця" і заўвагу 25 да ўспамінаў "Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча".

[23] *...Юрьева...* — Гл. заўвагу 20 да ўспамінаў "Жыцьцё і праца Івана Луцкевіча".

[24] *...я принимал участие в польской краевой ежедневной газете, которую редактировал Иосиф Маньковский...* — На ўвазе маецца газ. "Kurjer Krajowy" (1912—1914). Гл. заўвагу 33 да ўспамінаў "Жыцьцё і праца Іана Луцкевіча".

[25] Гаворка пра кн. Мікалая Радзівіла, які быў значна маладзейшы за жонку і, як і жонка, прыхільна ставіўся да беларускага руху.

[26] Гл. заўвагу 1 да арт. "Ахілесаўская пята".

[27] У БДАМЛМ (адз. зах. 260, арк. 4) захоўваецца прамысловае пасьведчаньне на прадпрыемства другога разраду "Горнапрамысловая тэхнічная кантора", выдадзеная 12.01.1911 г. І. Луцкевічу і Д. Сямашку.

[28] У БДАМЛМ (адз. зах. 262, арк. 7—27) захоўваюцца матэрыялы таварыскага суду над І. Луцкевічам у справе яго кантактаў з гакатыстамі: пратаколы №№ 1—9, пісаныя рукою М. Ромэра ў пэрыяд 19.02.1914 г. — 15(28).02.1915 г., а таксама пратаколы паказаньняў І. Луцкевіча, М. Прозарава, Д. Сямашкі і чарнавік пратаколу паказаньняў В. Студніцкага. У судовую камісію ўваходзілі: Ромэр, Б. Кшыжаноўскі і В. Іваноўскі. З 29 крас. (12 тр.) 1914 г. Іваноўскага замяніў І. Краскоўскі.

[29] *... к концу оккупационного периода мы имели около 300 белорусских школ на провинции...* — Лічба перабольшаная. Гл. заўвагу 8 да арт. "Палітычныя лёзунгі беларускага руху". Магчыма, на ўвазе маюцца і школы, адчыненыя на тэрыторыі, акупаванай немцамі пасьля 18.02.1918 г.

[30] *...белорусам была дана возможность (раньше, чем литовцам) издавать на своем языке газету п. н. "Гоман"...* — Пра абставіны адкрыцьця газэты і ўмовы яе працы гл. арт. А. Луцкевіча "Замест адказу (Гістарычная спраўка)" у: *БЗВ*.

[31] *Первое коротенькое воззвание... написано Иваном Луцкевичем и сообщало лишь о факте создания "Конфедерации". Второе... написал литовец Шаулис.* — Гл. с. 98 гэтага выданьня, а таксама заўвагу 11 да "Рэфэрату Беларускае дэлегацыі на Лязанскай канфэрэнцыі народаў Расеі".

[32] *...баварского принца Ураха (католика).* — Герцаг Вільгельм фон Урах паходзіў зь Вюртэмбэргу[78].

[33] *В Вильно состоялось собрание всех белорусских активных деятелей и более широкой публики, на котором была публично вынесена резолюция протеста против условий создания краевой власти.* — Гл. "Рэзалюцыю паседжаньня Беларускага клюбу ў Вільні 8 верасьня 1917 г." у: *БЗВ*.

[34] *Непосредственно после этого состоялся грандиозный митинг — под председательством известного рабочего деятеля Эйдукевича...* — Гл. "Рэзалюцыю мітынгу сацыялістычных і дэмакратычных арганізацыяў 16 верасьня 1917 г." у: *БЗВ*.

[35] *До октября 1917 г. белорусы в оккупированном крае ограничивались лишь культурно–национальной работой...* — Гэта ня так. Неафіцыйна і афіцыйна дзейнічалі

---

[78] Гл.: Новый взгляд на историю Литвы. Каунас, 1991. С.65.

БНК, БСДРГ, Сувязь Незалежнасьці і Непадзельнасьці Беларусі, а ў верасьні 1917 г. была праведзеная канфэрэнцыя БНК, БСДРГ і Віленскага камітэту БСГ. Гл. таксама заўвагі 33 і 34.

36 *...управлением Литвы...* — Акупаваная тэрыторыя Беларусі (за выключэньнем тэрыторыі на поўдзень ад Белавескай пушчы), Літвы (акрамя Занёманскай) і Курляндыі была падзеленая на вайск.–адміністрацыйныя акругі Militärverwaltung'і (вайск. упраўленьні, управы). На пачатак 1917 г. існавалі дзьве акругі: Літва (Militärverwaltung Litauen) і Беласток–Гродна (Militärverwaltung Biełystok—Hrodna)[79]. На чале акругі стаяў Verwaltungschef (начальнік адміністрацыі, управы). Прыфрантавая паласа Militärverwaltung'амі не кантралявалася.

37 *В политической резолюции...* — Гл. с. 266 і 267 гэтага выданьня.

38 *В делегации, выехавшей в Минск, приняли участие: я, мой брат Иван, Соловей и Семашко — все члены Белорусской Рады...* — А. Луцкевіч называе памерлых на той час І. Луцкевіча, Д. Сямашку і Я. Салаўя, які ў Менск ня езьдзіў, але ня піша пра жывога ў той час Я. Станкевіча і Я. Туркевіча. Гл. заўвагу 22 да "Мэмарыялу Беларускага Ўраду"..

39 *...Рада Республики решила послать кайзеру Вильгельму телеграмму...* — Тэлеграму Вільгельму II адправіла не Рада БНР, а яе лідэры.

40 *...помочь в одном важном деле...* — У верас. — лістап. 1918 г. А. Луцкевіч узначальваў Надзвычайную дэлегацыю Рады БНР ва Ўкраіне. Гл.: *БЗВ*. С. 173.

41 *В Раде за это время произошли крупные перемены: она сильно поправела — ввиду того, в состав ее вошел целый ряд белорусов такого типа, как помещик Роман Скирмунт...* — Гл. заўвагу 68 да ўспамінаў "За дваццаць пяць гадоў".

42 *...Скирмунт пробовал заменить в Народном Секретариате Воронку...* — На тое, што стварэньне кабінэту пад кіраўніцтвам правага дзеяча, паспрыяе прызнаньню БНР урадам Нямеччыны, разьлічвалі і браты Луцкевічы. Гл. заўвагу 69 да ўспамінаў "За дваццаць пяць гадоў" і ліст да Я. Варонкі ў: *БЗВ*. С. 158—159.

43 *Секретарем делегации был назначен член Рады Антон Овсяник, три же члена жили в Киеве и там должны были ко мне присоединиться (Бурчак, Базаревский, третьего не помню).* — У склад Надзвычайнае дэлегацыі Рады БНР уваходзілі: А. Луцкевіч, А. Аўсянік, Бурчак (былы кіеўскі гарадзкі галава, беларус), Я. Варонка, консул БНР у Кіеве Р. Базарэвіч і Капыстынскі (асоба нявысьветленая). У складзе дэлегацыі эпізадычна працавалі Т. Грыб, А. Смоліч і консул БНР у Адэсе С. Некрашэвіч. Пэўны час вучоным экспэртам дэлегацыі быў Я. Карскі.

44 *Я считал, что если бы Рада Республики добровольно передала свою власть предполагаемой Белорусской Советской Соц. Республике...* — Як вынікае зь дзёньніка А. Луцкевіча (*БЗВ*. С. 501) Х. Ракоўскі "фармуляваў магчымую ўгоду на гэткіх трох асновах: прызнаньне незалежнасьці Беларусі, адначаснае апавяшчэньне фэдэрацыі з савецкай Расіяй і ўвядзеньне ў Беларусі савецкай канстытуцыі". Аднак у той час бальшавіцкае кіраўніцтва ня мела намеру ані прызнаваць БНР, ані ствараць ССРБ. Праціўнікамі беларускае дзяржаўнасьці былі ў першую чаргу кіраўнікі Заходняе камуны. Пастанова ЦК РКП(б) аб стварэньні ССРБ была прынятая толькі 24.12.1918 г. у немалой ступені дзякуючы беларускім сэкцыям РКП(б) (гл. заўвагу 34 да працы "Дваццацілецьце Беларускае Сацыялістычнае Грамады") і вонкавым абставінам.

45 *...я был избран главой "совета министров" (так был переименован народный секретариат в связи с предстоявшей деятельностью на буржуазном Западе)...* — Гл. заўвагу 16 да "Мэмарыялу Беларускага Ўраду".

46 *Дней через десять из Гродно приехал курьер с сообщением...* — Загады А. Луцкевіча аб ягоным выезьдзе ў Вільню і перадачы паўнамоцтваў Старшыні Рады Народных

79 Больш падрабязна пра гэта гл. у: Людендорф. Мои воспоминания о войне 1914—1918. Тт. I и II. М., 1923. С. 154—157.

Міністраў і мін. замежных спраў А. Смолічу афомленыя 18.02.1919 г.[80] Вярнуўся А. Луцкевіч у Горадзен і скасаваў папярэднія загады 10.03.1919 г.[81]

[47] *...книжка эта вышла под редакцией Вальтера Егера уже после моего отъезда в Париж*. — На ўвазе маецца кн. "Weissruthenien. Land, Bewohner, Geschichte, Volkswirtschaft, Kultur, Dichtung". Водгук на яе (пісаны, праўдападобна, А. Луцкевічам) зьмешчаны ў *Зборніку "НН"*.

[48] *...я успел съездить в Прагу — с визитом к президенту Масарику*. — Гл. "Успамін аб прэзыдэнце Масарыку" А. Луцкевіча ў: *БЗВ*.

[49] *...под белорусским национальным флагом*. — Мусіла б быць "под русским (российским) национальным флагом".

[50] *Одно такое общее выступление было сделано при моем участии и было направлено против правительства Колчака...* — Гл. "Заяву да Міравой Канфэрэнцыі ў Парыжы з дня 18 чэрвеня 1919 г." у: *БЗВ*.

[51] Назва газ. прапушчана, наступнае слова напісана нечытэльна.

[52] *...проектом канала, соединяющего Балтийское море с Черным через Двину и Днепр — у их истоков*. — Гл. артыкул А. Луцкевіча "Вялікі вадзяны шлях (Злучэньне каналам Дзьвіны з Дняпром)" у: *БЗВ*. На пачатку 1930–х гг. падобная ідэя прапрацоўвалася і ў СССР. Гл., напр., публікацыю "Злучэньне Балтыкі з Чорным морам. Акадэміі Навук УССР і БССР разгортваюць работу па вывучэньні праблемы Вялікага Дняпра" (*Зьв*. 1933. 13 студз.).

[53] *...был назначен день и час моего визита в Бельведер*. — У Бэльвэдэры — рэзыдэнцыі кіраўніка польск. дзяржавы ў Варшаве — адбыліся тры сустрэчы А. Луцкевіча зь Ю. Пілсудзкім: у верас. 1919 г., 20.11.1919 г. і 3.01.1920 г. Пры першай сустрэчы А. Луцкевіча суправаджаў А. Цьвікевіч, пры трэцяй — Л. Дубейкаўскі; другая сустрэча адбылася "ў чатыры вокі"[82].

[54] *..."начальником панства"...* — Начальнікам дзяржавы (польск. Naczelnik Państwa).

[55] *...последовавшие события заставили меня еще раз видеться с Пилсудским, на этот раз в присутствии Цвикевича*. — У прысутнасьці А. Цьвікевіча адбылася першая сустрэча А. Луцкевіча зь Ю. Пілсудзкім (гл. заўвагу 53). На допыце ў ДПУ БССР Цьвікевіч паказваў, што нібыта Пілсудзкі даваў наступны наказ Луцкевічу і яму:

"Я лічу, што задачы Польшчы заключаюцца ў вызваленьні Беларусі ня толькі ад палітычнага панаваньня Расіі — бальшавіцкай, царскай, альбо дэмакратычнай — гэта ўсё роўна, але ж ад уплываў рускай культуры. Расія наш агульны вораг, незалежна ад формы яе праўленьня, вораг гістарычны, гэты вораг павінен быць разьбіты на ўсіх франтох, у тым ліку і на культурным. Задача беларускіх дзеячоў заключаецца ў тым, каб, апіраючыся, арыентуючыся на Захад, на Заходнюю культуру, пад пратэктаратам Польшчы ліквідаваць усе сьляды ўплыву рускай культуры, якія прышчэплены Беларусі ў мінулым, і як мага больш зблізіць беларусоў з палякамі... Вы павінны дапамагчы мне накіраваць беларускі рух у неабходнае рэчышча, каб ён служыў агульнай справе — умацаваньня нашай маладой дзяржавы — Польскай Жэчы Паспалітай, каб ён служыў уміратварэньню "ўсходніх крэсаў", перадусім сялянства, умацаваньню ў Беларусі польскай улады, якая абараняе Беларусь ад бальшавіцкага барбарства. Апроч таго, беларускія дзеячы павінны гарантаваць гэтай польскай уладзе не на словах, а на справе барацьбу з свайго боку з бальшавікамі"[83].

Акцэнтаваньне ўвагі на тым, што ў гутарцы браў удзел А. Цьвікевіч, вераемна, было

---

[80] НАРБ, ф. 325, воп. 1, адз. захав. 22, арк. 34, 36.

[81] Тамсама, арк. 44.

[82] Гл.: *Архівы БНР*. Т. I, кн. 1. С. 507—509, 575—576. Дакумэнты гэтыя — пратаколы — А. Луцкевіч пісаў адразу пасьля гутарак зь Ю. Пілсудзкім, таму іх верагоднасьць высокая.

[83] Канакоцін А. Літаратуру на службу сацыялістычнаму будаўніцтву // Бальшавік Беларусі. 1931. № 7. С. 28.

выклікана настойлівасьцю сьледзтва, якое — ня выключана — патрабавала ад Луцкевіча пацьвердзіць правільнасьць паказаньняў Цьвікевіча.

[56] *...к эсеровской партии...* — Маецца на ўвазе БПС–Р. Тое, што В. Ластоўскі далучыўся да гэтае партыі, нельга адназначна тлумачыць уплывам на яго Бэрліну. Ня выключана, што эсэры самі запрасілі В. Ластоўскага ў сваю партыю: БПС–Р, якая рыхтавала пераварот у Радзе БНР, ня мела ў сваіх шэрагах вядомых дзеячоў беларускага руху "са стажам".

[57] *...люди "Ластовского"...* — Гэтак у тэксьце. Мусіла б быць "люди Ластовского".

[58] *...от второго отдела...* — II аддзел польск. Генэральнага штабу займаўся пытаньнямі выведкі і контравыведкі.

[59] *...Кречевского, присоединившегося к эсерам...* — Да фракцыі БПС–Р у Радзе Рэспублікі далучылася таксама фракцыя БПС–Ф, сябрам якое быў П. Крачэўскі.

[60] *В состав Наивышейшей" вошли...* — Сябрамі Найвышэйшае Рады БНР былі абраныя: Я. Серада (старшыня), Я. Лёсік, С. Рак–Міхайлоўскі, А. Уласаў і К. Цярэшчанка. Д–р В. Іваноўскі быў мін. асьветы і працаваў у Менскім Беларускім пэдагагічным інстытуце (зь вясны 1920 г. стаў яго рэктарам).

[61] *...Пилсудский... сказал, что в широком смысле его отношение к Белоруссии будет обусловлено тем, что будет у него на флангах: Украина–Литва.* — Гл. пра гэта ў А. Луцкевіча "Польская акупацыя ў Беларусі" (*БЗВ*. С. 203—204).

[62] *Декрет об организации Белорусской Войсковой Комиссии... уже подготовлен.* — Дэкрэт пра арганізацыю БВК быў падпісаны яшчэ 22.10.1919 г.

[63] *Послав заявление о моем выходе в отставку на рукі "Наивышейшей Рады"...* — Гэта адбылося 28.02.1920 г. Тэкст заявы гл. у: *Архівы БНР*. Т. 1. Кн. 2. С. 693—694. Зь яеды інш. дак. таго часу вынікае, што А. Луцкевіч быў у Варшаве фактычна інтэрнаваны і ня мог выконваць свае абавязкі.

[64] *Он совсем конспиративно договорился с Пилсудским...* — Пакуль А. Луцкевіч быў інтэрнаваны ў Варшаве, польск. ўрад вёў гульню зь іншымі дзеячамі Найвышэйшае Рады БНР. У лют. 1920 г. Ю. Пілсудзкі сустрэўся з В. Іваноўскім. Назаўтра ж пасьля адстаўкі Луцкевіча мін. замежных спраў Польшчы С. Патэк сфармаваў камісію для перамоваў зь беларусамі на чале з сацыялістам Л. Васілеўскім.

[65] *...Белорусский Национальный Комитет...* — Маецца на ўвазе Часовы Беларускі нац. к–т у Менску. Спачатку яго ўзначальваў А. Гарун, а зь лістап. 1919 г. — К. Цярэшчанка.

[66] *...в мае 1920 года эвакуировался в Лодзь...* — А. Гарун пакінуў Менск 9.07.1920 г., а 28 ліп. памёр у Кракаве.

[67] *...я успел издать... свою брошюру о польской оккупации в Белоруссии (на польском и белорусском языках)...* — На ўвазе маецца бр. "Польская акупацыя ў Беларусі" (Вільня, 1920). Надрукавана ў: *БЗВ*.

[68] *...Ивановский (продовольствие)...* — У Часовай урадавай камісіі Сярэдняе Літвы В. Іваноўскі ўзначальваў дэпартамэнт (мін–ва) гандлю, у веданьне якога ўваходзілі і пытаньні харчаваньня.

[69] *...протокол "державного комитета" был торжественно предан сожжению, а самый комитет совершенно ликвидирован.* — Захавалася Дэклярацыя аб утварэньні Дзяржаўнага Камітэту БНР (гл.: *Архівы БНР*. Т. І. Кн. 1. С. 1081—1082).

[70] *...об участии белорусов в выборах в так называемый Виленский сейм, долженствовавший "выявить волю" населения "Средней Литвы" присоединить последнюю к Польше...* — Афіцыйна Віленскі Сойм павінен быў стаць Устаноўчым Соймам Сярэдняй Літвы. Выбары былі прызначаны на 9.01.1921 г. Супраць правядзеньня выбараў выступіла Ліга Нацыяў. Яна прапанавала правесьці ў Сярэдняй Літве як спрэчнай тэрыторыі плебісцыт, а для забесьпячэньня парадку ўвесьці замежныя войскі. Літоўскі

ўрад выступіў супраць плебісцыту, а супраць увядзеньня замежных войскаў — урад РСФСР. Паколькі тэрыторыя Сярэдняй Літвы была спрэчнаю, Ліга Нацыяў пажадала, каб Літва і Польшча паразумеліся, дзеля чаго пад яе патранатам былі праведзеныя безвыніковыя перамовы ў Брусэлі. Пасьля перамоваў пытаньне пра выбары ў Віленскі Сойм і тэрыторыю Сярэдняй Літвы зноў абвастрылася. Пілсудзкі жадаў правесьці выбары на ўсёй спрэчнай тэрыторыі (у Ашмянскім, Браслаўскім, Віленскім, Лідзкім, Сьвянцянскім і Троцкім пав.), а правыя лічылі Браслаўскі і Лідзкі паветы бясспрэчна польск. тэрыторыяй. 16.11.1921 г. Сойм згадзіўся з думкаю Пілсудзкага і прыняў закон аб выбарах. Выбары, якія адбыліся 8.01.1922 г., байкатававалі беларусы, літоўцы і габрэі. Віленскі Сойм, абраны амаль выключна польск. і апалячаным насельніцтвам краю, 20.02.1922 г. прыняў рашэньне ад далучэньні Сярэдняй Літвы да Польшчы.

[71] *...со стороны евреев и немцев предполагалось участие всех буржуазных групп...* — Бунд адмовіўся ад удзелу ў выбарах. У немцаў жа на тэрыторыі Польскай Рэспублікі не было паліт. партыяў; на выбары ішлі Цэнтральнае аб'яднаньне нямецкіх арганізацыяў і нямецкае прадстаўніцтва ва Ўстаноўчым Сойме Польшчы.

[72] Склад БЦВК гл. у: *БЗВ*. С. 244. (М. Гарэцкі выйшаў зь яго.)

[73] *..мандатов — 12 в сейм...* — У Сойм было абрана 11 паслоў: А. Аўсянік, С. Баран, У.Каліноўскі, М.Кахановіч, П.Мятла, В.Рагуля, С.Рак–Міхайлоўскі, А.Станкевіч, Б.Тарашкевіч, С.Якавюк, Ф.Ярэміч. Месцы паслоў У.Каліноўскага і М.Кахановіча, якія з тых ці іншых прычын былі пазбаўлены мандатаў, занялі П.Валошын і Ю.Сабалеўскі. Пасьля вымушанага выезду з Польскай Рэспублікі С.Барана і С.Якавюка іх месцы ў Сойме засталіся вакантнымі.

[74] *...польская партия "Вызволене"...* — Польск. сялянская партыя "Вызваленьне" выказвала інтарэсы бедных і сярэдніх пластоў сялянства.

[75] *...пястовцы...* — Гаворка пра сяброў польск. паліт. партыі "Пяст" (1912—1931), якая выражала інтарэсы верхняга пласта сялянства.

[76] *...националисты...* — На ўвазе маецца х'ена — Хрысьціянскі саюз нац. еднасьці (Chrześcjański Związek Jedności Narodowej) — блёк правых партыяў (эндэкі, хадэкі і Нац.–хрысьціянская партыя) на выбарах у Сойм і Сэнат у 1922 г.

[77] *...конституировать Белорусский Посольский Клуб и сообща наметить главные основы его будущей тактики в польских законодательных палатах.* — Захаваліся запісы, зь якіх вынікае, што А. Луцкевіч прапанаваў абраць старшынёю БПК Б. Тарашкевіча і трымацца наступнае тактыкі: безадказная апазыцыя ў польск. дзяржаўнай палітыцы; салідарнасьць з іншымі нац. меншасьцямі ў справах нац.; салідарнасьць з дэмакратыямі Польшчы ў справах сацыяльных; вольная рука ва ўсіх іншых пытаньнях[84]. Гэтыя прынцыпы ўключаныя ў напісаны А. Луцкевічам "Статут Беларускага Пасольскага Клюбу ў Сойме і Сэнаце Польскай Рэчыпаспалітай" (гл.: *БЗВ*. С. 259—262).

[78] *Собрались в помещении белорусского Общественного Собрания...* — Беларускае Грамадзянскае Сабраньне — заснаваная ў 1922 г. С. Валэйшам, А. Паўлюкевічам ды іншымі грамадзкая арганізацыя, якая заняла потым прапольск. пазыцыі. Абед у гонар беларускіх паслоў і сэнатараў адбыўся 24.11.1922 г. Запрашальны білет на імя А. Луцкевіча захоўваецца ў БДАМЛМ: ф. 3, воп. 1, адз. зах. 210, арк. 3.

[79] *...Национального Собрания (общего заседания членов Сейма в Сенате).* — Мусіла б быць "общего заседания Сейма и Сената".

[80] *Белорусы имели 15 голосов...* — На ўвазе маецца БПК, які меў 14 галасоў.

[84] Гл. Сідарэвіч А. З жыцьця Антона Луцкевіча: Астрожныя запісы. // ЛіМ. 1991. 25 студз.

## *Собственноручные показания А. И. Луцкевича. 17 ноября 1939 г. (с. 251)*

Друкуюцца паводле *АЛ:МСД*.
Упершыню — *Нёман*. 1995. № 2.

[1] *...в августе 1924 г. сейм принял закон о языках меньшинств в Польше...* — Закон аб мове ў школах прыняты 31.07.1924 г. Закон дакляраваў права на адчыненьне нац. і дзьвюхмоўных (утраквістычных) школаў, у т. л. прыватных.

[2] *Отойдя от активной политики, не присоединяясь к Громаде и тогда, когда она в 1926 году из сеймовой группы превратилась в политическую партию...* — Соймавая фракцыя "Беларуская Сялянска–Работніцкая Грамада" аформілася ў канцы чэрв. 1925 г. Стварэньне масавай арганізацыі пад тым самым назовам пачалося пасьля Гданьскай (Сопацкай) нарады (жн. 1925 г.), пра якую А. Луцкевіч піша ніжэй. БСРГ, хоць яна і мела сваю праграму, нельга назваць паліт. партыяй. Камуністы разглядалі яе як сваю экспазытуру.

[3] *...после майского переворота...* — На ўвазе маецца дзяржаўны пераварот 12.05.1926 г., у выніку якога ў Польскай Рэспубліцы ўсталявалася дыктатура Ю. Пілсудзкага.

[4] *..."Хворота росту"...* — Маецца на ўвазе арт. А. Луцкевіча "Хвароба росту" (гл. у: *БЗВ*).

[5] *...в Гданьск на очень важную, конференцию.* — Гаворка пра нараду ў Сопаце пад Гданьскам (жн. 1925 г.), на якой вырашаліся практычныя захады дзеля стварэньня масавай БСРГ і ў якой удзельнічалі У. Ігнатоўскі, А. Славінскі, А. Ульянаў ад КП(б)Б, Я. Лагіновіч ды іншыя ад КПЗБ ды КПП, Б. Тарашкевіч, Р. Астроўскі, С. Рак–Міхайлоўскі ды інш. ад беларускіх нац. арганізацый і ўстаноў.

[6] *...сецессию из КПЗБ.* — Гл. заўвагу 1 да арт. "На паўдарозе".

[7] *...вопреки... закону от 31.VIII.1924 г.* — Гл. заўвагу 1.

[8] *К его пребыванию...* — Мусіць, маюцца на ўвазе прыезды Ф. Акінчыца ў Менск, дзе друкавалася літаратура для КПЗБ і БСРГ.

[9] Торн (Thorn) — нямецкая назва Торуні.

[10] На ўвазе маецца Г. Гарэцкі.

[11] Р. Астроўскі, М. Бурсевіч і Ф. Акінчыц не былі пасламі на Сойм.

[12] Пра сытуацыю, што склалася з канца жн. 1928 г. у ТБШ, гл. таксама тэкст А. Луцкевіча "З Таварыства беларускае школы" і пратакол Агульнага Сходу Т–ва Беларускае Школы 9 ліпеня 1929 г. у: *БЗВ*.

[13] *...приговор над Громадой, хотя и смягченный в апелляционном суде...* — Слуханьне справы БСРГ і А. Луцкевіча ў апэляцыйным судзе адбылося ў канцы лют. — сак. 1929 г. *ВК* 23.03.1929 г. паведамляла, што суд вызначыў наступныя кары: Б. Тарашкевічу, С. Раку–Міхайлоўскаму і П. Мятле — 6 гадоў катаргі замест 12 гадоў, М. Бурсевічу і Ф. Акінчыцу — 6 гадоў катаргі замест 8. Апраўданыя П. Беламыз, Я. Баліцкі і А. Зданюк, якім акруговы суд прысудзіў 7 гадоў катаргі, а таксама П. Патапчук, П. Якубчык і П. Драгун, асуджаныя раней на 5 гадоў. Апраўданы таксама С. Шчыглінскі, якому акруговы суд прысудзіў 1 год астрогу. Пацьверджана апраўданьне Р. Астроўскага, Я. Шнаркевіча, А. Луцкевіча, А. Сакалоўскага, М. Шавеля.

[14] *...устранившим от преподавания в Виленской гимназии и меня...* — А. Луцкевіча звальнялі з працы ў ВБГ двойчы: у 1927 г. (у сувязі з арыштам) і ў 1931 г. дзеля "недахопу кваліфікацыі" (гл. пра гэта: Сідарэвіч А. З жыцьця Антона Луцкевіча: Расправа // ЛіМ. 1991. 1 лют.).

[15] *...в каковую превратилась частная гимназия.* — ВБГ стала філіяй дзяржаўнае гімназіі імя Ю. Славацкага.

[16] *...Гаспадарскі зьвяз.* — Беларускі гаспадарчы зьвяз, арганізацыя, заснаваная ў 1928 г. Я. Станкевічам ды інш.

[17] *...Белорусское народное объединение...* — Беларускім нац. аб'яднаньнем стала ў 1936 г. называцца БХД.

[18] *Матурыст* — асоба, якая атрымала атэстат сталасьці і мела права паступаць у ВНУ.

[19] *...виленский воевода Возьнянский...* — Ваяводы з такім прозьвішчам у Вільні не было. Імаверна, на ўвазе маецца Л.Бацянскі, які займаў пасаду ваяводы з 4.12.1935 г. па 19.05.1939 г.

[20] *...400 руб. в месяц...* — Мусіла б быць "400 злотых". Злоты быў прыраўнаны да рубля пасьля прыходу ў Заходнюю Беларусь РСЧА.

[21] *С июня 1938 г. музей... существовал исключительно на средства, собираемые среди членов Бел. научного общества.* — Дапамогу Беларускаму музэю аказвала беларуская калёнія ў Літве і, у прыватнасьці, яе лідэр К. Душ–Дужэўскі[85].

[22] *...когда был в Риге и читал там лекции по белорусской литературе...* — А. Луцкевіч чытаў лекцыі ў Рызе 23 і 24.04.1932 г.

[23] *...Пигулевский, бывший член польского сейма (с.–д.)...* — У. Пігулеўскі ў міжваенны час быў латвійскім грамадзянінам; на пач. 1930–х зьяўляўся дэпутатам латвійскага Сойму.

## ДАДАТАК

### *Унівэрсал канфэрэнцыі Беларускага Народнага Камітэту, Беларускай Сацыял–Дэмакратычнай Работніцкай Групы і Віленскага камітэту Беларускай Сацыялістычнай Грамады (с. 264)*

Друкуецца паводле: *ЛіМ*. 1990. 23 лістап.

Надрукаваны таксама ў: *БЗВ*.

Дата правядзеньня канфэрэнцыі пакуль што ня высьветленая, аднак можна меркаваць, што канфэрэнцыя прайшла 1.09.1917 г., калі "беларускае арганізаванае грамадзянства" прыняло тэкст тэлеграмы "У Глаўную камісію Райхстагу ў Бэрліне" (гл. у: *БЗВ*).

[1] Гл. заўвагу 7 да "Мэмарыялу Беларускага Ўраду". У пратаколе гэтага зьезду ня ўтрымліваецца палажэньня аб незалежнасьці Беларусі і Літвы як аднаго дзяржаўнага арганізму; наадварот, Зьезд выступіў за дакладнае разьмежаваньне беларускай і літоўскай частак Віленскай губ., за аўтаномны статус Беларусі ў складзе Расейскае дэмакратычнае рэспублікі.

[2] На ўвазе маюцца лістоўкі "Сувязі Незалежнасьці і Непадзельнасьці Беларусі"[86], аўтарам якіх быў В. Ластоўскі. Пэўныя ідэі, выказаныя ў лістоўках, былі запазычаныя аўтарам гэтага ўнівэрсалу.

### *Рэзалюцыі Беларускай Канфэрэнцыі 25, 26, 27 студня 1918 г. у Вільні (с. 266)*

Друкуюцца паводле: *БЗВ*, дзе апублікаваныя ўпершыню.

Першая рэзалюцыя ўтрымліваецца ў арт. А. Луцкевіча "Палітычныя лёзунгі беларускага руху" і "Зь беларусага палітычнага архіву".

[1] *...галеньне...* — Ад слова "галіцца" — квапіцца на што–небудзь, замахвацца.

[2] *...сканцэнтраванай у Мінску 50–тысячнай польскай нацыянальнай арміі...* — Гл. заўвагу 1 да "Рэзалюцыі Беларускай Рады на засяданьні 18 лютага 1918 г. у Вільні".

---

[85] Гл.: БДАМЛМ: ф. 3, воп. 1, адз. зах. 1, арк. 14; Танк М. Збор твораў: У 13 т. Т. 9. Мн., 2009. С. 228.

[86] Гл.: *ЛіМ*. 1990. 30 лістап.